Установа адукацыі
«БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ
ТЭХНАЛАГІЧНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ»

**М. В. Трус**

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ:
# КОДЫ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

Манаграфія

Мінск 2015

УДК 82-94(035.3)
ББК 83.3
Т77

Разгледжаны і рэкамендаваны да выдання рэдакцыйна-выдавецкай радай Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта.

Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук, прафесар,
загадчык кафедры славянскіх літаратур
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта *Чарота І. А.*;
кафедра беларускай літаратуры і культуры
УА «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка»
(загадчык кафедры кандыдат філалагічных навук,
дацэнт *Гоўзіч І. М.*);
кандыдат філалагічных навук, дацэнт, дацэнт кафедры
рускай мовы і культуры Каталіцкага ўніверсітэта
ў Ружамберку (Славакія) *Ляшук В. М.*

**Трус, М. В.**
Т77 Максім Багдановіч : коды жыцця і творчасці : манаграфія / М. В. Трус. – Мінск : БДТУ, 2015. – 179 с.
ISBN 978-985-530-486-0.

Манаграфія створана ў рэчышчы актуальных фундаментальных даследаванняў і запытаў прыкладной навукі. Спадчына М. Багдановіча разглядаецца ў розных аспектах і на розных узроўнях (сінхронным і дыяхронным). Шырока выкарыстоўваюцца архіўныя матэрыялы, магчымасці кантэкстуальнай падсветкі, што істотна ўзбуйняе маштабнасць бачання ўсёй беларускай літаратуры ў яе цеснай сувязі з іншанацыянальнымі культурнымі традыцыямі.

**УДК 821.161.3.09(091)(076.5)**
**ББК 83.3Беля73**

**ISBN 978-985-530-486-0**

# ПРАДМОВА

Багдановічазнаўства – сцверджаная галіна літаратуразнаўчай навукі, фундаментам якой стаў Поўны збор твораў паэта ў трох тамах (1991–1995), а таксама персанальная літаратурная энцыклапедыя «Максім Багдановіч» (2011) – вехавыя падзеі беларускай гуманітарыстыкі.

Паняцце фундаментальнасці не тоеснае вычарпальнасці, падвядзенню рысы, наадварот, наш час адкрывае новыя магчымасці, звязаныя з адкрыццём невядомых твораў класіка беларускай літаратуры, іх інтэрпрэтацыяй у розных нацыянальных кантэкстах, сінхронным і дыяхронным зрэзах.

Дваццатае стагоддзе не аднойчы зрушвала тэктанічныя пліты сусветнай геапалітыкі. У значнай ступені закладнікамі гэтых глабальных працэсаў станавіліся культура, мастацкая літаратура, гуманітарныя навукі. Жыццё і творчасць М. Багдановіча самым цесным чынам звязана з усходнеславянскімі народамі, а на іх даследчыцкае бачанне працяглы час накладвала адбітак табуіраванасць шэрагу тэм, звязаных з ідэалагічным размежаваннем, рэпрэсіямі, нацыянальнай эміграцыяй і г. д.

Зварот да памянёных тэм не азначае выключна фактаграфічнае ўзбагачэнне матэрыялу. Гаворка ідзе пра канцэптуальнасць даследчыцкіх падыходаў, кантэкстуальнасць бачання, пры якіх вызначаюцца новыя шляхі архіўных пошукаў, што фарміруюць аўтарытэтную фактаграфічную базу, а таксама алгарытмаў аналітычнага асэнсавання спадчыны паэта і яе шматлікіх інтэрпрэтацый. Такія шляхі ў прадстаўленай манаграфіі мы замацавалі вызначэннем «коды» – у адрозненне ад існуючага і дзейснага міфапаэтычнага вызначэння «загадка М. Багдановіча» (М. Стральцоў), а таксама, як мы мяркуем, аднаго з магчымых, які апелюе да ўзноўленай фактаграфіі нацыянальных кантэкстаў, найперш беларускага, рускага, украінскага.

Прадстаўленыя кірункі даследчыцкага пошуку, новых магчымасцей мы апрабоўвалі ў большасці на старонках навуковага і метадычнага часопіса «Роднае слова», што называецца, спакваля: прадстаўляліся аўтары, нацыянальныя сітуацыі, архіўныя знаходкі, пры гэтым тэкст суправаджаўся візуальным радам (здымкамі, дакументамі). Такі падыход нам бачыцца дзейсным і рознавектарным, найбольш прыдатным пры спасціжэнні айчыннай спадчыны і вызначэнні яе месца ў розных культурных парадыгмах.

# РАЗДЗЕЛ 1. ГЕНЕТЫЧНЫЯ КОДЫ

## 1.1. АДАМ БАГДАНОВІЧ: УЗНОЎЛЕНЫЯ СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯПІСУ

Кірункі дзейнасці Адама Ягоравіча Багдановіча (1862–1940) у даведачнай літаратуры пазначаны наступным чынам: беларускі этнограф, гісторык культуры, фалькларыст, мовазнавец[1]. У гісторыі Беларусі яго імя найчасцей згадваецца як бацькі класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Багдановіча. Адзначым, што грамадская і навуковая дзейнасць гэтай выбітнай асобы ўяўляе цікавасць сама па сабе, як факт паўнавартаснай і шматграннай творчай рэалізацыі. Невыпадкова, на этапе абмеркавання канцэпцыі энцыклапедыі «Максім Багдановіч» гучала думка на карысць іншай назвы плануемага выдання – «Багдановічаўская энцыклапедыя», з дэталёвай прадстаўленасцю навуковай і грамадска-культурнай дзейнасці Адама Багдановіча.

Ужо першыя публікацыі вучонага па этнаграфіі і фальклоры ў галіне духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа былі станоўча ўспрыняты тагачаснай навуковай думкай, а іх аўтар набыў славу сур'ёзнага і перспектыўнага навукоўцы. Такое рэнамэ зацвердзілі першыя манаграфіі А. Багдановіча: гістарычны нарыс «Пра паншчыну» (1894) і этнаграфічны нарыс «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895).

Пахвальныя водгукі рэцэнзентаў датычыліся пераважна багатага фактычнага матэрыялу, прадстаўленага аўтарам. Што да агульнатэарэтычных абагульненняў і высноў, то А. Багдановіч у значнай ступені стаў ахвярай стэрэатыпаў і нават некаторых шавіністычных поглядаў у адлюстраванні і ацэнцы духоўнага жыцця беларусаў; гэта адзначалі некаторыя яго апаненты адразу пасля выхаду «Перажыткаў…», гэты факт пазней прызнаваў і сам аўтар. Так, ва «Уводзінах» да кнігі ён пісаў: «*Беларускія сяляне, тлумачачы па-свойму выраз "западный край", – выраз чужы для беларускай гаворкі, – перадаюць яго словамі "западлый край",*

---

[1] Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік: у 6 т. Мінск: БелЭн, 1992. Т. 1. С. 153–156; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мінск: БелЭн, 1993. Т. 1. С. 270; Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Мінск: БелЭн, 1996. Т. 2. С. 204.

*г. зн. закінуты, заняпалы. Хоць з філалагічнага пункту гледжання можна многае запярэчыць супраць такога вольнага перакладу, але рэчаіснасць яго апраўдвае. І жыццё беларуса, і яго творчая дзейнасць рэзка адзначаныя адбіткам неразвітасці, адсталасці, забітасці. Менавіта “западлый край”, “западлый” народ...»*[2]. (Тут і далей пераклад наш – заўв. аўт.).

Нарадзіўся А. Багдановіч 20 сакавіка (1 красавіка па новым стылі) 1862 г. у мястэчку Халопенічы Барысаўскага павета, цяпер г. п. Халопенічы Крупскага раёна, у сялянскай беззямельнай сям’і Ягора Лук’янавіча Багдановіча (мал. 1) і Анэлі Фамінічны Багдановіч (у дзявоцтве Асьмак). Па бацьку быў прыпісаны да Касарыцкага сельскага таварыства Ляскавіцкай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні. У мемуарных запісах А. Багдановіч зазначаў, што дата яго нараджэння ў афіцыйных дакументах зафіксавана няправільна. На самай справе ён нарадзіўся не 20, а 25 сакавіка 1862 г. (мал. 2). Пры хрышчэнні па ўніяцкім абрадзе атрымаў імя Адольф, якое потым было заменена на Адам. У некаторых дакументах імя па бацьку А. Багдановіча таксама запісвалася па-рознаму: Юр’евіч, Георгіевіч, Ягоравіч.



Мал. 1. Ягор Багдановіч – дзед паэта
Максіма Багдановіча. Да 1880 г. ЛММБ

[2]Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: этнографический очерк. Гродно, 1895. С. 1.

Скончыў Халопеніцкае народнае вучылішча ў 1874. Падчас навучання дзве зімы працаваў памочнікам настаўніка. Гэта давала невялікі заробак, але галоўнае – неабмежаваны доступ да школьнай бібліятэкі, магчымасць паглыбляць веды самаадукацыяй.



Мал. 2. Старонка рукапісу аўтабіяграфіі
Адама Багдановіча. 1927 г.
Беларускі дзяржаўны архіў-музей
літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ)

У 1874–1879 гг. з мэтай набыцця спецыяльнасці і сталага заробку, а таксама выконваючы волю бацькоў, праходзіў рамесніцкую вывучку ў Мінску ў чыгуначных майстэрнях, прыватнай слясарнай майстэрні, кандытарскай. Урэшце спыніў выбар на прафесіі настаўніка. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1882), так званы сялянскі ўніверсітэт, якім і абмежавалася казённая адукацыя.

Падчас вучобы ў семінарыі (1879–1882) арганізаваў для навучэнцаў гурток самаадукацыі. У далейшым самаадукацыя адыгрывала вялікую ролю ў пашырэнні навуковага кругагляду А. Багдановіча, вывучэнні замежных моў, знаёмстве з мастацкай літаратурай.

**Дзяржаўная служба.** Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі 1 верасня 1882 г. накіраваны на дзяржаўную службу, прызначаны на пасаду настаўніка сельскай школы ў вёсцы Пагарэлае Ігуменскага павета. У 1886–1892 гг. настаўнік, загадчык 1-га Мінскага прыходскага вучылішча, выкладаў таксама ў Мінскім яўрэйскім рамесніцкім вучылішчы (мал. 2).



Мал. 3. Адам Багдановіч. Мінск.
Да 1892 г. Літаратурны музей
Максіма Багдановіча (ЛММБ)

Педагагічная праца доўжылася амаль 10 гадоў, да 6 чэрвеня 1892 г. Потым па рэкамендацыі дактароў А. Багдановіч пакінуў выкладчыцкую дзейнасць і быў пераведзены на службу ў Дзяржаўны сялянскі зямельны банк, дзе паслядоўна займаў наступныя пасады: памочнік бухгалтара гродзенскага аддзялення банка (06.06.1892–25.10.1896), бухгалтар ніжагародскага аддзялення (25.10.1896–16.01.1902), неадменны член ніжагародскага аддзялення (16.01.1902–01.10.1907), неадменны член яраслаўскага аддзялення (01.10.1907–26.07.1918), упраўляючы яраслаўскага аддзялення (26.08.1918–01.02.1920).

З 1 снежня 1920 г. быў прыняты ў Яраслаўскі гістарычны музей (пазней Абласны дзяржаўны музей) на пасаду загадчыка навуковай бібліятэкі. Арганізоўваў кніжныя выставы, у тым ліку Някрасаўскую юбілейную (1921), выставы краязнаўчай літаратуры, гісторыі кнігі, рускага часопіса, рэвалюцыйнай сатыры 1905–1906 гг., выставу памяці дзекабрыстаў і інш. Па сумяшчальніцтве працаваў выкладчыкам у Яраслаўскім мастацка-педагагічным тэхнікуме (чытаў лекцыі па гісторыі культуры), тэатральным тэхнікуме (лекцыі па гісторыі тэатра і драматычным аналізе), музычным тэхнікуме (лекцыі па гісторыі культуры).

У 1931 г. выйшаў на пенсію. З таго часу займаўся выключна навуковай працай, пісаў мемуары. У 1928–1930 гг., 1940 г. урад

БССР выплачваў А. Багдановічу персанальную пенсію. Памёр Адам Ягоравіч 16 красавіка 1940 г. у Яраслаўлі.

**Палітычная дзейнасць.** Па словах А. Багдановіча, яшчэ ў час вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі ён быў арганізатарам і кіраўніком нелегальнага, з народавольскім ухілам гуртка самаразвіцця сярод навучэнцаў. Пасля заканчэння семінарыі ў 1882 г. фармальна ўступіў у шэрагі мінскай арганізацыі «Народнай Волі». Праводзіў агітацыйную дзейнасць сярод народных настаўнікаў і сялян.

Свой пераход на службу ў Мінск А. Багдановіч тлумачыў прапановай кіраўніцтва арганізацыі. Быў уключаны ў склад мясцовай кіраўнічай групы.

Паводле «Записки о служебной, научной и профессиональной деятельности…», складзенай А. Багдановічам у 1927 г. да 45-годдзя дзяржаўнай службы і 40-годдзя навуковай працы, яго ўдзел у мінскай арганізацыі «Народнай Волі» выяўляўся ў наступным:

«*1. Я вел революционную пропаганду среди учителей, организовав учительскую группу народовольцев, и связав эту группу с руководящей организацией*

*2. Я вел пропаганду среди военных (вольноопределяющихся, подпрапорщиков и офицеров) и служил связующим звеном между этой группой и руководящей организацией*

*3. Я руководил кружками учащейся молодежи в течение 6 лет и вел в ее среде революционную пропаганду.*

*По доносу в департамент полиции, что заведуемое мною училище является штаб-квартирой местных революционеров, двукратно подвергался обыскам, но ничего не было найдено, хотя у меня хранились в тайнике революционная библиотека и паспортное бюро. Из этих обысков я вышел "неповрежденным", но мое начальство, конечно, было радо избавиться от меня.*

*Отзывы о моей революционной деятельности моих, оставшихся в живых товарищей, (сотрудницы Института имени К. Маркса и Ф. Энгельса – Е. А. Гурвич, народовольцев – А. С. Павловского, Р. А. Протаса и В. И. Слепян, члена ВКП(Б), при сем прилагаются*».

Пра «народавольскую» актыўнасць А. Багдановіча засведчана таксама са слоў яго паплечнікаў па палітычнай дзейнасці ў часопісе «Былое» (1907, № 6), «Еврейская летопись» (1923, № 1), «Узвышша» (1927, № 2), газеце «Савецкая Беларусь» (1923, № 136) і іншых выданнях.

Пяру А. Багдановіча належаць мемуарныя нататкі «К истории партии “Народной Воли” в Минске и Белоруссии. 1880–1882 гг.» (беларускамоўная публікацыя: «Маладосць», 1995, № 11, 12), «Революционное движение в г. Минске и губернии в 80-х и начале 90-х годов [XIX века]. По личным воспоминаниям».

Ніжагародскае дваранства з недаверам ставілася да працы А. Багдановіча ў банку. У 1907 г. гэта вылілася ў скаргу на імя міністра фінансаў з абвінавачаннем у прыналежнасці да крайне левых: нібыта, выкарыстоўваючы сваё становішча, А. Багдановіч сістэматычна разладжвае здзелкі і настройвае сялян супраць памешчыкаў, заклікае да сацыяльнай рэвалюцыі. Было распачата следства, «нядобранадзейны» супрацоўнік пераведзены ў Яраслаўль. Для А. Багдановіча найвышэйшай адзнакай павагі і ўдзячнасці да яго з боку сялян было тое, што ў час рэвалюцыйнай разрухі, пасля яраслаўскага пажару 1918 г., сяляне тры з паловай гады кармілі свайго абаронцу і яго сям’ю.

**Грамадская дзейнасць.** Паралельна з дзяржаўнай службай у Гродне ў Сялянскім зямельным банку (1892–1896) на выбарнай аснове А. Багдановіч амаль чатыры гады быў дырэктарам Гродзенскай публічнай бібліятэкі, адзін год (1897–1898) – загадчыкам Ніжагародскай грамадскай бібліятэкі. Ад Яраслаўскага аддзялення гэтага банка выбіраўся дэлегатам на ўстаноўчы Усерасійскі з’езд служачых дзяржаўных зямельных банкаў (1917).

Адам Багдановіч кіраваў падрыхтоўчай працай па арганізацыі прафесійнага саюза служачых яраслаўскага аддзялення Дзяржаўнага зямельнага банка, быў абраны на пасаду старшыні камітэта гэтага саюза (1917–1920).

Быў старшынёй праўлення яраслаўскай арганізацыі прафсаюза работнікаў банкаўска-крэдытнай справы (Трудбанк), намеснікам старшыні праўлення губернскай арганізацыі работнікаў фінансава-кантрольнай справы (Фиконтруд) (1919–1920).

У 1920-я гг. грамадская дзейнасць А. Багдановіча была звязана з прафсаюзным рухам, заснаваннем Яраслаўскай цэнтральнай публічнай бібліятэкі, арганізацыяй культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў да 100-годдзя з дня нараджэння М. Някрасава, краязнаўчай працай і інш.

**Навуковая і літаратурная праца.** Асноўным кірункам сваёй навуковай дзейнасці А. Багдановіч лічыў этнаграфію, якой прысвечана большая частка яго даследаванняў, і гісторыю культуры, якая стала прадметам выкладчыцкай дзейнасці.

Значная колькасць сабраных этнаграфічных матэрыялаў, падрыхтаваных да друку працы, згарэлі разам з багатай бібліятэкай у 1918 г. у час Яраслаўскага антыбальшавіцкага мяцяжу.

Навуковая праца пачалася ў сярэдзіне 1880-х гг. Адам Ягоравіч пісаў па пытаннях беларускай этнаграфіі і фальклору, выступаў з рэцэнзіямі на кнігі і тэатральныя пастаноўкі, перакладамі мастацкіх твораў. Друкаваўся ў газетах «Минские губернские ведомости», «Минский листок», «Виленский вестник», «Гродненские губернские ведомости», «Нижегородский листок».

Фальклорныя запісы апублікаваны ў «Материалах для изучения быта и языка населения Северо-Западного края» П. Шэйна, надрукаваных у «Сборнике Отделения Русского языка и словесности Академии наук» (1884–1901; т. 41, 51, 57, 67).

Адам Багдановіч у 1920–1930-я гг. імкнуўся ўзнавіць гісторыю сваіх публікацый, але давесці справу да канца не паспеў. Прапанаваў наступную тэматычную класіфікацыю надрукаваных матэрыялаў: этнаграфія і звычаёвае права, зямельнае пытанне, народная адукацыя, навуковая і літаратурная крытыка, публіцыстыка, артыкулы і рэцэнзіі па драме і тэатры, пераклады з польскай і французскай моў.

Нявыдадзенымі застаюцца фундаментальныя даследаванні «Водоречные и озерные имена, как исторический, этнологический и лингвистический материал», «Язык земли. Образование водоречных и озерных имен и что от них происходят», «Водоречные и озерные имена», «Этнический состав народов славянских и русских», «Этнический состав белорусского народа», «Аграрное движение в Белоруси в связи с переселением белоруссов», «Население Верхнего Поволжья и Оки».

Пры жыцці А. Багдановіча асобна былі выдадзены «Про панщину. Очерк крепостного быта в Белоруссии» (Гродно, 1894), «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» (Гродно, 1895).

«Пережитки…» былі станоўча ўспрыняты тагачаснай навуковай думкай, а іх аўтар набыў славу сур'ёзнага і перспектыўнага навукоўцы («Научное обозрение», 1895, № 33; «Живая старина», 1895, т. 3–4; «Новости», 1895, № 230; «Wisła», 1897, т. 11, вып. 3 і інш). Ухвальныя водгукі рэцэнзентаў датычыліся пераважна багатага фактычнага матэрыялу, прадстаўленага аўтарам. Што да агульнатэарэтычных абагульненняў і высноў, то А. Багдановіч у значнай ступені стаў закладнікам стэрэатыпаў і нават некаторых шаві-

ністычных поглядаў у адлюстраванні і ацэнцы духоўнага жыцця беларусаў; гэта адзначылі некаторыя апаненты адразу пасля выхаду «Пережитков…», гэта з гадамі прызнаў і сам аўтар.

Намнога пазней свет убачыла даследаванне «Язык земли. Население Верхнего Поволжья, Оки и Камы» (Ярославль, 1966). Шмат матэрыялаў пры жыцці А. Багдановіча было змешчана ў зборніках і перыядычных выданнях. Падпісваўся крыптанімамі і псеўданімамі *А. Б.*, *А. Б-ович*, *А. Б-вич*, *А. Борисовский*, *Гродненский обыватель*.

Пераклады: «Захер-Мозох. Сумасшедший из Фирлиевки: (из галицийских рассказов)» («Гродненские губернские ведомости», 1896, 3, 6 янв.), «Конопницкая М. Похороны: рассказ» (тамсама, 31 янв.).

**Сямейнае жыццё.** Адам Багдановіч быў жанаты тройчы. Ад шлюбу з Марыяй Багдановіч (дзявочае прозвішча Мякота) меў чатырох дзяцей – Вадзіма, Максіма, Льва, Ніну (мал. 4). Аляксандра Багдановіч (дзявочае Волжына) (мал. 5) нарадзіла яму сына Аляксандра. Аляксандра Мякота нарадзіла яшчэ пяцярых сыноў: Паўла, Мікалая, Аляксея, Вячаслава, Рамана. А. Багдановіч вялікае значэнне надаваў выхаванню дзяцей, асабліва да паступлення іх у гімназію. Будучы класік беларускай літаратуры гадаваўся ў атмасферы павагі да народнай творчасці і мастацкай літаратуры.



Мал. 4. Сям’я Багдановічаў: Адам Ягоравіч, Марыя Апанасаўна, Вадзім, Максім, Леў. Гродна. 1895 г. ЛММБ



Мал. 5. Адам Багдановіч
і Аляксандра Багдановіч (Волжына).
Ніжні Ноўгарад. 1899 г. ЛММБ

Калі сыны падрасталі, бацька імкнуўся пазнаёміць іх з вясковым побытам, браў з сабой у паездкі, каб дзеці бачылі жыццё заводскіх і фабрычных цэнтраў, помнікі старажытнасці. Дбаў пра здароўе дзяцей: каб засцерагчы іх ад туберкулёзу, штогод лета ўсе праводзілі на дачы непадалёку ад Ніжняга Ноўгарада; потым былі паездкі на кумыс ва Уфімскую і Самарскую губерні, адпачынак і аздараўленне ў Крыме.

Літаратурны работнік Мікалай Агурцоў, калега паэта па журналісцкай працы, узгадваў словы М. Багдановіча: «*Меня воспитывал отец. Как-то я показывал Вам его библиотеку. В ней есть все существенное, что появилось когда бы то ни было в литературе всего мира. Мы с детства проходили эту мировую школу. Отец начинал, с чего начинает каждый народ в своем творчестве, с эпоса. Мы уже в детстве знали "Рустама и Зораба", "Илиаду", "Калевалу", былины и пр. и пр. Потом мы приступили к лирике и драме. Конечно, главное внимание обращалось на славянские литературы…*»[3].

Асаблівасці сямейнага выхавання, свае педагагічныя погляды А. Багдановіч тэзісна прадставіў наступным чынам: «*Первоначальное*

[3]Огурцов Н. Из воспоминаний // Шлях паэта. Успаміны і біяграфічныя матэрыялы пра Максіма Багдановіча. Мінск, 1975. С. 65.

*обучение со всеми детьми, в том числе и с Максимом, я вел сам, а по поступлении их в гимназию руководил их самостоятельным чтением. Обучение начиналось в 6 лет и велось после букваря по "Родному слову", год 1-й и 2-й*»; «*Мои дети, в том числе и Максим, поступали в гимназию с полным маленьким кругом знаний и о прошлом и обо всем окружающем мире. Дома же они учились читать по-французски (азбука Игнатовича и первая книжка его же концентрического учебника). В гимназию они поступали вполне подготовленными, и учиться им было нетрудно. В дальнейшем я руководил только чтением, которое у меня ставилось систематически и тесно связывалось с общим ходом обучения. Ничего лишнего и бесцельного. Подбор книг самый строгий. Изделия из специально детской литературы были устранены. Они заменялись памятниками народного творчества или художественными произведениями, доступными детскому пониманию*»; «*В моей библиотеке было все, что было лучшего в мире и ничего пошлого – значит, выбор был обширный и на все вкусы*»; «*Дома Максим учился охотно и легко. При той системе, которая мною практиковалась, трудностей не встречалось, да и быть не могло. Моим руководящим принципом в деле воспитания была целостность, т. е. гармоническое развитие всех сторон человеческой личности – умственных, нравственных и физических, а, стало быть, обогащение ума познаниями и по всем отраслям знания, в пределах, разумеется, достаточного понимания, причем знания концентрически расширялись по мере естественного роста и развития личности*»[4].

**Адам і Максім Багдановічы.** У беларускім літаратуразнаўстве разгляд стасункаў Багдановічаў, бацькі і сына, іх канцэптуальнага разыходжання ў поглядах на перспектывы нацыянальнага адраджэння выйшаў за рамкі аналізу ўласна сямейных адносін і пашырыўся на праблему спадкаемнасці двух пакаленняў інтэлігенцыі ў беларускай культуры. Пры гэтым трывала замацавалася меркаванне, што А. Багдановіч стаў завяршальным звяном традыцыі этнаграфічнай цікавасці да Беларусі ў XIX ст., якая дала багаты навуковы плён, неацэнны фактычны матэрыял, але ўжо на

[4]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта. Успаміны і біяграфічныя матэрыялы пра Максіма Багдановіча. Мінск, 1975. С. 22–24.

мяжы XIX–XX стст. прынцыпова вычарпала сябе, а ў поглядах на нацыянальнае пытанне падавалася нават анахранічнай.

Адкрытымі застаюцца пытанні ролі А. Багдановіча ў выбары прафесіі сына, вызначэнні ім свайго жыццёвага і творчага шляху. Як правіла, меркаванні даследчыкаў на гэты конт катэгарычныя: не аценіў, не зразумеў, не падтрымаў геніяльнага сына. Але ці так гэта, наколькі такія меркаванні аб'ектыўныя – падстава для роздуму. Прывядзем толькі адну вытрымку з ліста Адама Багдановіча да Кацярыны Пешкавай ад 21 лістапада 1910 г.: «*Максим занимается больше гуманитарными науками и пишет белорусские стихи, – пишет красиво, не без таланта и даже считается новатором в бедной белорусской литературе, которая, как Лазарь, начинает оживать*».

Пра тое, што ў сям'і не разумелі захапленняў М. Багдановіча, сведчаць прызнанні блізкіх людзей. «*Его занятия белоруссикой шли совершенно незаметно для меня и окружающих; по крайней мере я его не толкнул на эту дорогу, но, разумеется, и не мешал*», – пісаў А. Багдановіч.

Яшчэ больш катэгарычна развіў думку бацькі зводны брат паэта Павел Багдановіч у лісце да Адама Багдановіча ад 1923 г.: «Самое трагическое в судьбе Максима – это то, что его не понимали и никогда никто не поймет» («Нёман», 1964, № 7).

Неацэннай паслугай для ўсяго беларускага народа стала тое, што ў складаных умовах рэвалюцыйных зрухаў, грамадзянскай вайны А. Багдановіч захаваў рукапісы сына і ў 1923 г. прывёз іх у Мінск, перадаў у Інстытут беларускай культуры.

Ён актыўна дапамагаў навуковым работнікам інстытута ў складанні «Твораў» М. Багдановіча (1927–1928, т. 1–2), пра што сведчыць перапіска з укладальнікамі выдання І. Замоціным і В. Мачульскім, а таксама з драматургам Я. Дылам.

Адам Багдановіч стаў першым біёграфам сына-паэта. У 1923 г. ён напісаў «Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича». Яны сталі асноўнай крыніцай інфармацыі, змястоўнай і падрабязнай, пра ўмовы выхавання, жыццёвага і творчага сталення М. Багдановіча. З гадамі, ужо пасля смерці Максіма, А. Багдановіч перачытваў творы сына і з кожным годам усё больш пранікаўся павагай да яго працы і таленту.

**Адам Багдановіч і Максім Горкі.** Існуе ўстойлівае меркаванне, што тэма «Максім Горкі і Беларусь» належыць да шэрагу

найбольш даследаваных у беларускім літаратуразнаўстве. Гэтаму спрыяла парадыгма каштоўнасных катэгорый сацыялістычнага перыяду. У тэме «М. Горкі і А. Багдановіч» традыцыйна фіксуюцца канстанты: сябры, аднадумцы, сваякі (першая жонка М. Горкага – Кацярына Паўлаўна Волжына, яе малодшая сястра Аляксандра – другая жонка А. Багдановіча) (мал. 6).



Мал. 6. Параднёныя сем'і Пешкавых і Багдановічаў.
Сядзяць у цэнтры: Кацярына Пешкава (Волжына)
і Аляксандра Багдановіч (Волжына).
Стаяць у цэнтры: Аляксей Пешкаў (Максім Горкі)
і Адам Багдановіч. Ніжні Ноўгарад. 1899 г. ЛММБ

Найбольш цікавыя і багатыя на фактаграфію старонкі ўзаемаадносін Пешкавых і Багдановічаў ніжагародскага перыяду (1896–1904 гг.) жыцця і творчасці рускага пісьменніка. У летапісе сяброўства дзвюх выдатных асоб ёсць «прапушчаныя» гады, звязаныя з заўчаснай смерцю Аляксандры Багдановіч (Волжынай) і іх з А. Багдановічам сына Аляксандра, які пасля смерці маці выхоўваўся ў сям'і Пешкавых. Усё вярнулася на кругі свая ў 1930-я гг., калі А. Багдановіч змог з поўным правам у сваіх запісах і публікацыях называць пісьменніка не інакш як «*мой старый друг Максим Горький*».

Асвятляючы абставіны пераезду з Гродна ў Ніжні Ноўгарад, ён пісаў наступнае: «*Переселяясь на работу в Нижний, я запасся в Минске рекомендательными письмами от товарищей-народовольцев к разным лицам в Нижнем. В том числе у меня было*

*письмо от писателя Е. Н. Чирикова к А. М. Пешкову, в скобках было прибавлено – М. Горькому, – писателю, мне не известному, но которого мне рекомендовали как знатока Поволжья и Нижегородского края*».

У Ніжні Ноўгарад А. Багдановіч прыбыў як прадстаўнік ліберальнай інтэлігенцыі Беларусі, перспектыўны вучоны, актыўны дзеяч «Народнай Волі». Розум, жыццёвы вопыт рабілі яго цікавым суразмоўцам. Адам Ягоравіч хутка стаў частым госцем, а потым і сябрам сям'і М. Горкага, з якім А. Багдановіча збліжала таксама агульнае захапленне – кніга. У іх нават было суперніцтва: хто збярэ лепшую бібліятэку. Як узгадваў А. Багдановіч, спачатку пальма першынства належала яму, але з часам, калі ўмацавалася і літаратурная слава, і матэрыяльнае становішча М. Горкага, неаспрэчнае лідарства перайшло да пісьменніка.

На жаль, багатая бібліятэка, на якой выхоўваўся будучы класік беларускай літаратуры М. Багдановіч, загінула ў пажары 1918 г. Тады ў ліку нямногіх рэчаў ацалела «Сіксцінская мадонна» Рафаэля – геліягравюра, падарунак М. Горкага, сёння дамінантная кропка экспазіцыйнага рашэння адной з залаў Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Мінску.

Адам Багдановіч вельмі скрупулёзны ў мемуарных запісах пры перадачы эпізодаў жыцця сям'і М. Горкага, усяго, што назіраў і ў чым браў непасрэдны ўдзел: кола знаёмых пісьменніка, любімыя кнігі, найбольш часта дыскутаваныя тэмы грамадскага жыцця і сусветнай мастацкай літаратуры, дэталі побыту і г. д. У друку выйшла толькі нязначная частка ўспамінаў А. Багдановіча пра М. Горкага: «Проводы М. Горького в Крым» («М. Горький в Н.-Новгороде: сб. ст.», Н.-Ноўгарад, 1928), «Письмо его друга» («Сталинская смена», 1936, 24 чэрв.), «Через полицейские кордоны: из воспоминаний об А. М. Горьком» (тамсама, 26 чэрв.), «Из жизни Алексея Максимовича Пешкова» («М. Горький на родине: сб. ст. », Горкі, 1937), «Воспоминания о Максиме Горьком» («Советская Отчизна», 1959, № 3–4), «Страницы из жизни Максима Горького» (Мінск, 1965).

Найбольш поўны тэкставы збор мемуараў захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча і ўключае каля 180 машынапісных старонак. Запісы зроблены часткова ў 1928 г., часткова ў 1935 г. Аўтарская назва – «Из жизни Алексея Максимовича

Пешкова (Максима Горького). Воспоминания. Нижегородский период (1896–1904)».

Гэты асноўны тэкставы масіў мемуарнай працы А. Багдановіча істотна дапаўняе шэраг накідаў аб'ёмам 10–12 рукапісных або друкаваных старонак, фармат якіх аўтар вызначыў як «*отрывки*», «*клочки*», «*странички*», «*наброски*»: «Клочки воспоминаний о Максиме Горьком», «В последние годы. Странички из жизни А. М. Горького», «М. Горький и Ф. И. Шаляпин в Нижнем. Отрывок из воспоминаний», «Странички из жизни Алексея Максимовича Пешкова / Горького» і г. д.

Агульную карціну жыцця Пешкавых, а таксама народненых з імі Багдановічаў істотна дапаўняе эпісталярная спадчына. Сёння ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча восем копій лістоў М. Горкага да А. Багдановіча 1925–1934 гг. У архіве М. Горкага ў Інстытуце сусветнай літаратуры (Масква) захоўваюцца арыгіналы гэтых дакументаў, а таксама перапіска А. Багдановіча з А. Волжынай, якая, па нашых звестках, яшчэ не публікавалася, шэраг іншых дакументаў.

**Мемуарная спадчына.** Акрамя ўзгаданых успамінаў пра дзейнасць «Народнай Волі», пра сына, пра М. Горкага, яркі талент А. Багдановіча-мемуарыста дэманструюць запісы, сабраныя пад назвай «Мои воспоминания». Упершыню ўрыўкі з успамінаў у перакладзе на беларускую мову былі надрукаваны ў часопісе «Полымя» (1962, № 3). У 1965 г. даследчыкі І. Крэнь і Ю. Пшыркоў падрыхтавалі і апублікавалі фрагменты ўспамінаў А. Багдановіча пад адной вокладкай са «Страницами из жизни Максима Горького» і «Материалами к биографии Максима Богдановича».

У час адкрыцця музея М. Багдановіча ў Яраслаўлі ўнучка А. Багдановіча Ірына Папова перадала музею тры пераплеценыя тамы машынапіснага тэксту ўспамінаў, расчытаных у 1962 г. у Інстытуце літаратуры АН Беларусі. Навуковыя супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча правялі ідэнтыфікацыю матэрыялаў, зверку рукапісаў мемуараў з машынапісным тэкстам. Успаміны бацькі паэта ў максімальна поўнай версіі ўбачылі свет на старонках часопіса «Нёман» (1994, № 5–8) з каментарыямі, фотаздымкамі з архіва Багдановічаў, дзяржаўных музеяў Мінска.

Пакліканне ўспамінаў да жыцця, сваю асабістую адказнасць за фіксацыю мінулага А. Багдановіч тлумачыў так: «*Я – ранний выходец из среды белорусского крестьянства, – выходец, имеющий голос.*

*На мне лежит долг – я это чувствую – рассказать про то, что лично переживал и что переживали мои близкие, что я видел, наблюдал и слышал от других людей, людей старого поколения, заслуживающих доверия, про людей и их дела, заслуживающие внимания*».

«*Я толькі напалову належу да буйных палешукоў,* – пісаў пра свае карані А. Багдановіч, – *а напалову да рахманых беларусаўдрыгавічоў, і таму, слухаючы бацькавы аповеды, трапятліва захапляўся сваёй беларускай палавінай, нечуванай смеласцю і дзёрзкасцю невядомых ляскавіцкіх і касарыцкіх мужыкоў…*»[5].

Карэнным паваротам у жыцці беларускай вёскі XIX ст. стала адмена прыгоннага права. Ва ўспамінах параўноўваюцца дарэформенны сялянскі ўклад жыцця і паслярэформенны. Па словах А. Багдановіча, ён заспеў час своеасаблівай ідыліі ў стасунках пан – селянін:

«*"Хрэсьбіны" мне наладзілі пышныя. Дзве пары кумоў, і ўсе імянітыя.*

*У першай пары стаяў сам малады пан Лапа (Дамінік Аляксандравіч) з ксяндзовай сястрой Ганнай Свенскай. Другая пара была прасцейшай: якісьці землямер (каморнік) і папова дачка. Назвалі мяне Адольфам, ласкальна звалі Адолік, а скарочана Адоль. Гэтае імя я насіў да 16 гадоў. А пасля, пры выдачы метрыкі з кансісторыі, апошняя перайменавала мяне ў Адама, назваўшы нібыта больш праваслаўным іменем*»[6].

Падобная ідылічная карціна пададзена ў абмалёўцы тагачаснай канфесійнай сітуацыі на радзіме аўтара ўспамінаў. Адносна веры продкаў А. Багдановіч зафіксаваў наступнае: «*Быў ён* [прадзед Казімір Лісоўскі] *каталік, а прабабка Хрысціна – уніятка. У такіх змешаных сем'ях і дзеці даўней былі разнавернымі: сыны па бацькавай веры, а дочкі па матчынай.*

*Таму мая бабуля Рузаля была ўніяткай, а малодшы брат, мой дваюрадны дзед Вінцэсь, – каталіком.*

*Такое разнавер'е ў адной сям'і вяло да ўзаемнай верацярпімасці, тым больш што ўсе аднолькава маліліся па-польску і адныя і тыя ж малітвы чыталі. І хадзілі аднолькава і ў царкву, і ў касцёл. Гадзіны богаслужэнняў, верагодна, наўмысна былі так прыстасаваны – у царкве – раней, у касцёле – пазней, можна было пабываць і там, і там.*

---

[5]Богданович А. Мои воспоминания // Нёман. 1994. № 5. С. 10.
[6]Тамсама. С. 49.

*Бабуля Рузаля (ды і не адна яна) з замілаваннем расказвала, як хрэсныя хады (працэсіі) з царквы і з касцёла на Хрышчэнне, на Узнясенне і ў іншыя адметныя дні ішлі насустрач адзін аднаму і, сышоўшыся, аб'ядноўваліся ў адзін агульны ход і ішлі разам*»[7].

Нечаканым адкрыццём ва ўспамінах з'яўляецца тое, што А. Багдановіч упершыню, праўда, не без іроніі, назваў сябе ахвярай русіфікацыі: «*Я ўжо пераваліў за 5 гадоў, і, верагодна, лічылася, што мне ёсць што замольваць. Тут выступала на сцэну цётка Ганна, мая і Магдаленчына нянька, якая, па маладосці гадоў, не іграла ў сям'і адметнай ролі, але навучылася ў школе малітвам "па-руску" і гэтым малітвам вучыла мяне. Гэта быў пачатак абрусення, і я быў адной з першых яго ахвяр*»[8].

Адам Багдановіч спрабаваў прасачыць свой радавод і па ўспамінах родных, і па афіцыйных дакументах: «*Рэвізскія сказкі – адзіныя геральдычныя дакументы для сялянства, а ў іх больш клапоцяцца пра падатныя адзінкі, як бы там яны сабе ні называліся, і таму ў імёнах і прозвішчах вялікая блытаніна*»; «*...Нічыпар Багдановіч, глава сям'і, продак – эпонім, перадаў прозвішча Багдановіч свайму пасынку Сцяпану, які па бацьку мог называцца Скоклічам. Адсюль дваякасць у іспаведных ведамасцях і іншых царкоўных дакументах: то Багдановічы, то Скоклічы*»[9].

З занатаванага мемуарыстам можна зрабіць выснову, што калі б не блытаніна ў дакументах, «падпраўленасць» імён з кан'юнктурных меркаванняў, то прозвішча і імя па бацьку класіка беларускай літаратуры магло гучаць інакш – Скокліч Максім Адольфавіч.

У жыцці пакуль яшчэ Адольфа Багдановіча з пачаткам сістэмнай адукацыі прыходзіць свет кніг. Значнае месца ва ўспамінах адводзіцца апісанню працэсу навучання, характарыстыцы падручнікаў з вышыні практычнага вопыту прафесійнага педагога.

Шэраг яркіх згадак звязаны з дзяцінствам. Прывядзем адзін з каларытных эпізодаў пра ўцёкі Адоліка з маленькай сястрой Магдаленай з дому, хаджэнне «ўпрочкі»:

«Мы друг другу говорили самые нежные слова, какие были на нашем языке. Она говорила *«мой братка роднен*ькі*»* и гладила меня своей ручонкой по щеке, а я отвечал *«сястрыца мая!»* и гладил

---

[7]Богданович, А. Мои воспоминания // Нёман. 1994. № 5. С. 40.
[8]Тамсама. № 7. С. 21.
[9]Тамсама. № 5. С. 14.

ее по головке. Солнце закатилось, и мы сочли своевременным повечерять. Огурец мы ели с хлебом, кусая по очереди (ножа у нас не было: так далеко не шла наша предусмотрительность), и прикончили всю морковь. Этого добра всюду много, и в полях можно картошку копать. И мы также знали, что свет не без добрых людей.

Но с закатом солнца поползла тьма и наступила жуткая тишина.

Магдаленка замолкла вместе с птичками. Я тоже понизил голос и предложил расположиться на ночлег, где сидели: место было удобное, кочка вместо подушки. Улеглись. Все тихо. Я говорю: «*Спі, сястрыца!*» Но вдруг в тишине послышались легкие всхлипывания. «*Чаго ты, сястрыца?*» Снова всхлипывания, чаще и громче.

– *Ну чаго ты?*

– *Я баюся! Баюся!* – и залилась слезами.

– *Ня бойся, тут ваўкоў німа! I я з табою. Я цябе нікому не дам. Спі спакойна,* – так убеждал я.

Ничего не помогало: она ревела во весь голос, крича: «*Баюся! Я дамоў хачу! Я хачу дамоў!*» Напрасно я ее убеждал добрыми словами, напрасно я ее ругал: «*Паганая, зачым ты ішла? Хто цябе прасіў? Жаба разлезлая…*» И кулаком в плечи толкнул. Она вскочила и стала кричать: «*Дамоў хачу!*»

При таких условиях, если бы была за нами погоня, то нас бы легко было отыскать. Голос благоразумия требовал поворачивать назад. Скрепя сердце, я схватил ее за руку, сильно потряс:

– *У, паганая!* – закричал. – *Цяпер за цябе мяне біць будуць!*

И повел ее домой, стараясь успокоить. Как только завидела она свою хату, тотчас же успокоилась и стала меня уверять:

– *Я не скажу ні татку, ні мамцы, што ты ўпрочкі хадзіў!*

Она сдержала слово. И наше отсутствие до *цёмнаго* не имело для меня печальных последствий: как-то дело удовлетворительно объяснилось или отец был в хорошем настроении»[10].

Мемуары А. Багдановіча ў рукапісным выглядзе ўяўляюць з сябе дзве стандартныя канцылярскія кнігі (напамін пра банкаўскую працу аўтара), а таксама асобныя лісткі, сабраныя ў папку. На пачатку тэксту А. Багдановіч пазначыў, што напісанае «*прызначаецца для майго роду і маёй сям'і*».

Аўтар абраў прынцып храналагічнай паслядоўнасці падачы падзей, сацыяльна-грамадскія зрухі праілюстраваў зменай рэалій

---

[10]Богданович А. Мои воспоминания // Нёман. 1994. № 7. С. 72.

сялянскага побыту; найбольш яскрава пры гэтым пададзены карціны жыцця сям'і Багдановічаў. Бацька А. Багдановіча быў кухарам, часта мяняў месца працы. З пераездам радзіны на новае месца пашыралася кола знаёмстваў, у поле зроку апавядальніка траплялі розныя мясціны Беларусі, населеныя пункты, розныя людзі.

Найбольш вялікімі раздзеламі выдзелены наступныя: «Касарычы і Рудабелка», «Халопенічы да "волі"», «Род і родзічы маёй маці», «Бабіна хата», «Школа», «Мая вясна прыйшла».

Са зменай буйнога землеўладальніка ў Халопенічах ці іх ваколіцах змяняліся стыль вядзення гаспадаркі, адносіны паміж панам і селянінам. Дэталёва, у лічбах і фактах, прыводзіцца апісанне панскага маёнтка. Просты люд паказаны ў разнастайных жыццёвых абставінах: нараджэнне, хрэсьбіны, жаніцьба, у штодзённай працы, у будні і ў святы, ва ўсім канфесійным, нацыянальным шматгалоссі. Са старонак успамінаў перад намі паўстаюць кідкія вобразы палякаў, яўрэяў, стараабрадцаў, беларусаў-палешукоў, дрыгавічоў. Беларус пры гэтым характарызуецца як найбольш ціхмяны і цярплівы да гвалту.

Ва ўспамінах сустракаем апісанні і характарыстыкі, якія наўрад ці можна было чакаць у папярэдніх працах аўтара. Так, уменне весці гаспадарку ставіцца ў прыклад сялянам карэнных рускіх зямель:

«Белорусы, переселившиеся в Ярославщину, Владимирщину и Нижегородщину, где свиней не держат, поражаются бедности крестьянского питания: хлеб, чай да картошка; редко – огурец (покупной) да селедка. Еще реже пироги да щи с убоиной. Еще реже – жареное. И все это в самом непритязательном виде.

Белорусские бабы-переселенки смеются над ярославками:

*– Куды іна к чорту гадзітца! Толькі і знаіць, што самавар свой паставіць (дужэ ён патрэбен!) ды бульбы зварыць. У нас на дзяды дванадцыць патраў палагаітца. Нехай іна папробуе толькі насчытаць дванадцыць патраў, а ні то што зварыць! Нічога путнога ня ўмеюць!*

Мужики к этой насмешливой характеристике прибавляли:

*– Ён (т. е. москаль) ідзе ў лес на работу, і я іду. Што ён з сабой возьме для пажыўнасці? Краюшку хлеба з сольлю, або талакна з цыбулей. А я, па крайні меры, вазьму кусок сала, кальцо кільбасы, або грудзінку атварную. Паджарываеш сабе на ражончыку, капаеш сабе на хлеб ці на сачэнь і так смашна ясі, што аж нос гібаетца. У іх што бедны, што багаты – усё роўна як свіньні ядуць.*

Это, конечно, преувеличено: бедняка с богатеем не сравняешь. Но несомненно, что белоруски – большие мастерицы на разного рода стряпню. Моя семья, по весьма понятной причине, в этом отношении еще дальше ушла от общего уровня – и самый бедный стол умели чем-нибудь скрасить»[11].

Прыведзеныя вытрымкі з успамінаў Адама Багдановіча наглядна дэманструюць яго талент апавядальніка. Расповед каларытна перасыпаны беларускімі словамі, выразамі, дыялогамі.

Мемуары бацькі класіка беларускай літаратуры не маюць аналагаў. Каштоўныя яны не толькі як крыніца вывучэння каранёў паэта, вытокаў яго таленту, але і як сапраўдная энцыклапедыя беларускага жыцця, якая ахоплівае больш за стагоддзе. Пазнавальная вартасць успамінаў толькі прыбыла з часам.

## Асноўныя друкаваныя працы Адама Багдановіча (другая палова ХХ ст.)

Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Беларуская літаратура: даследаванні і публікацыі. Мінск, 1960. Вып. 3.

У зімовыя вечары; Янутка-маляр: (урыўкі з успамінаў) // Полымя. 1962. № 3.

Страницы из жизни М. Горького: Материалы к биографии Максима Богдановича; Мои воспоминания. Минск, 1965.

Язык земли: население Верхнего Поволжья, Оки и Камы: этнологический очерк по данным водо-речной номенклатуры и другим материалам. Ярославль, 1966.

Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта. Мінск, 1975.

Перапіска А. Я. Багдановіча пра спадчыну М. Багдановіча // Шлях паэта. Мінск, 1975.

Да гісторыі партыі «Народная воля» ў Мінску і Беларусі (1880–1892) // Маладосць. 1995. № 11, 12.

Богданович А. Мои воспоминания // Нёман. 1994. № 5–8.

Перапіска Адама Багдановіча і Марыі Багдановіч // Архіўныя матэрыялы да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Мінск, 1996. Сш. 1.

[11]Богданович А. Мои воспоминания // Нёман. 1994. № 6. С. 63.

Перапіска Адама Багдановіча і Льва Багдановіча // Архіўныя матэрыялы да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Мінск, 1996. Сш. 1.

Я всю жизнь стремился к свету: в 2 кн. Мінск, 2012. Кн. 1.: Мои воспоминания.

**Асноўная літаратура пра Адама Багдановіча**

Дамінікоўскі Ф. Этнограф Адам Багдановіч // Беларусь. 1947. № 3.

Бойка У. Максім Горкі і Адам Багдановіч // ЛіМ. 19.08.1959.

Бандарчык В. К. Адам Багдановіч // Голас Радзімы. 1962. № 27.

Лойка А. Выдатны беларускі вучоны: да 100-годдзя з дня нараджэння А. Я. Багдановіча // ЛіМ. 23.03.1962.

Крень И., Пширков Ю. Адам Егорович Богданович [вступительная статья] // Богданович А. Страницы из жизни Максима Горького; Материалы к биографии М. Богдановича; Мои воспоминания. Минск, 1965.

Пширков Ю. С. А. Е. Богданович: биографический очерк. Минск, 1966.

Пшыркоў Ю. Максім Горкі і Адам Багдановіч // Полымя. 1968. № 3.

Рощин И. По мере сил и возможностей… // Нёман. 1966. № 10.

Стральцоў М. Ад Максіма Кніжніка пачатак: нарысы // Полымя. 1968. № 9.

Стральцоў М. Загадка Багдановіча. Мінск, 1969.

Садоўскі Я. Настаўнік-этнограф // Настаўніцкая газета. 31.01.1970.

Садоўскі Я. Краязнаўчы пошук А. Багдановіча // Голас Радзімы. 22.11.1984.

Степунин И. История одной легенды // Нёман. 1970. № 8.

Шыханцова В. Пытанні народнага выхавання ў работах А. Я. Багдановіча // Веснік БДУ. 1976. Сер. 4. № 1.

Шыханцова В. А. Я. Багдановіч аб настаўніку // Веснік БДУ. 1976. Сер. 4. № 3.

Шыханцова В. А. Я. Багдановіч як педагог // Народная асвета. 1978. № 5.

Шиханцова В. Взгляд А. Е. Богдановича на школу и воспитание // Педагогика. 1980. Вып. 18.

Ефимова Н. Библиотека А. Е. Богдановича // Книга в Белоруссии: книговедение, источники, библиография. Минск, 1981.

Казлоўскі А. Сябра М. Горкага // Мінская праўда. 29.07.1982.

Бачыла А. Дарогамі Максіма. Мінск, 1983.

Грамадска-педагагічная дзейнасць А. Я. Багдановіча // Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мінск, 1985.

Ватацы Н. Яшчэ раз пра эпісталярый А. Я. Багдановіча // Полымя. 1986. № 5.

Зубараў Л. Пешкавы і Багдановічы // Маладосць. 1988. № 1.

Зуборев Л. Крик Буревестника: историко-документальная повесть о М. Горьком и Богдановичах. Минск, 1989.

Трус М. Новая энцыклапедыя сялянскага жыцця: да выхаду ўспамінаў А. Я. Багдановіча // Зборнік дакладаў навукова-практычнай канферэнцыі «Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі» (Мінск, 10.12.1995). – Мінск, 2000.

Трус Н. В. Максим Горький и Адам Богданович: страницы дружбы и творчества // М. Горький и его эпоха: материалы международного научного симпозиума (Брест, 19–21.03.2008). – Брест, 2008.

Трус М. Летапісец беларускай мінуўшчыны – Адам Багдановіч // Роднае слова. 2010. № 11.

Трус М. Багдановіч Адам Ягоравіч // Максім Багдановіч: энцыклапедыя. Мінск, 2011.

Трус М. Заслужаны перад Беларуссю: энцыклапедычны жыццяпіс Адама Багдановіча // Роднае слова. 2012. № 3.

## 1.2. АДЗІНЫ ТВОР МАРЫІ БАГДАНОВІЧ: КАНТЭКСТ, АСНОВА, ПАЭТЫКА ЖАНРУ

Як вядома, адным з пачынальнікаў жыццяпісу сваей сям'і і свайго роду, роду Багдановічаў, быў Адам Ягоравіч Багдановіч. У 1923 годзе па просьбе камісіі Інбелкульта ён напісаў успаміны пра свайго сына Максіма, якія мелі назву «Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича»[12]. Адным з пунктаў апытальніка, прапанаванага аўтарытэтнай камісіяй, было апісанне па-

[12]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта. Мінск, 1975. С. 10–54.

ходжання бацькоў класіка беларускай літаратуры – яго, Адама Ягоравіча Багдановіча, і ягонай першай жонкі, Марыі Апанасаўны Мякота (мал. 7).



Мал. 7. Маці і сын: Марыя і Максім Багдановічы.
Гродна. 1892 г. БДАМЛМ

У маладосці Адаму Багдановічу ўжо даводзілася займацца росшукамі свайго радаводу, мець справу з архівамі, калі неабходна было рыхтаваць дакументы для працягу навучання. Пазней, на схіле жыцця, бацька паэта, абапіраючыся на назапашаны матэрыял, напіша мемуары «Мои воспоминания» – цікавую крыніцу ведаў пра жыццё беларускай вёскі і горада другой паловы XIX стагоддзя. Таму апісанне роду Багдановічаў хоць і сціслае па памеры, але досыць інфарматыўнае.

Род маці Максіма быў апісаны больш сціпла, нават без указання канкрэтнай даты нараджэння Марыі Апанасаўны. Відавочна, што аўтар быў абмежаваны ў фактычным матэрыяле. Адам Багдановіч надаў шмат увагі характарыстыцы асобы сваёй каханай *Марылькі*, прыгадаў яе асаблівую пачуццёвасць, жаноцкасць, тонкае ўспрыманне мастацтва. Як пацверджанне гэтаму гучала і згадка пра яе ўласны творчы вопыт – апавяданне «Напярэдадні Раства» («Накануне Рождества»), якое было надрукавана ў газеце «Гродненские губернские ведомости» 29 снежня 1893 года.

Падвёўшы рысу пад высвятленнем пытання творчай спадчыннасці свайго сына, Адам Багдановіч адзначыў наступнае: «Чтобы покончить с вопросом о наследственности, скажу, что, по моему мнению, его поэтический талант есть дар его матери, в ней самой дремавшей в неразвитом состоянии, или, может быть, осколок поэтического дарования его прабабушки Рузали, сказкам которой в моих записках и песням своей родины он обязан пробуждением своего таланта»[13].

Думаецца, гэтай высновай бацька паэта не без сімвалічнага значэння акрэсліў кірунак пошукаў таго «кода» таленавітасці, які быў ці «асклепкам» таленту яго продкаў, ці «драмаў у неразвітым стане». Пэўна ж гэта сімволіка, бо Максім Багдановіч ніколі не бачыў сваёй прабабулі Рузалі, якая памерла да яго нараджэння. Пасрэднікам у справе перадачы пачутай народнай мудрасці паміж ёй і Максімам быў бацька ды яго, Максімавы, цёткі – Марыя і Магдалена, якія, стала пасяліўшыся ў Ніжнім Ноўгарадзе, утварылі маленькую беларускую калонію, у якой падтрымліваліся сямейныя традыцыі, родавая памяць, цепліўся агеньчык беларускага слова.

Ад часу напісання ўспамінаў Адама Багдановіча даследчыкамі жыцця і творчасці паэта назапашаны значны матэрыял да радаводу Максіма Багдановіча па бацькавай і матчынай лініі. Вехавай падзеяй стаў выхад кнігі архівіста Зміцера Яцкевіча «Радавод Максіма Багдановіча» (1999). Выданне ўбачыла свет да 130-годдзя з дня нараджэння маці паэта, было ажыццёўлена па заказу і за кошт Літаратурнага музея М. Багдановіча.

У выніку масавы чатач атрымаў кнігу, адметную і цікавую сваім пранікненнем у глыбіні стагоддзяў, невядомыя пласты каранёў радаводнага дрэва класіка беларускай літаратуры. Абсалютна новай прагучала інфармацыя пра дату нараджэння Марыі Апанасаўны (22 лютага 1869 года), пра шляхецкае паходжанне паэта па лініі маці.

Было вядома, што яго дзеду, Апанасу Іванавічу Мякоце, была нададзена годнасць персанальнага двараніна за ўдзел у Крымскай вайне. Ён не меў магчымасці перадаць гэты тытул сваім патомкам. Але шляхціцамі Мякоты раней былі, аднак, не здолеўшы прадставіць належныя паперы і сведчанні, перасталі запісвацца дваранамі.

[13]Тамсама. С. 17.

Вядома, кніга «Радавод Максіма Багдановіча» не прэтэндавала на падвядзенне рысы пад генеалагічнымі росшукамі, ды і прыведзеныя факты могуць удакладняцца. Юбілейнае выданне было заклікана наглядна і факталагічна прадэманстраваць, што ўзнаўленне радаводу Максіма Багдановіча – гэта ўзнаўленне гісторыі краіны, ажыўленне крывяносных сасудаў гістарычнай памяці кожнага беларуса, пра што пісаў аўтар гэтых радкоў, на той час дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча, натхнёны плёнам супольнай працы, у прадмове да выдання: «Гэта павучальны шлях, бо ён з'яўляецца яскравым сведчаннем таго, як праз стагоддзі неспрыяння і занядбанасці кожнае радаводнае дрэва можа ўспыхнуць непаўторнай квеценню агульнанароднага таленту і творчасці»[14].

Непасрэдна падступаючыся да аналізу адзінага вядомага твора Марыі Багдановіч, яшчэ раз акцэнтуем увагу на меркаванні Адама Багдановіча, які адзначыў, што паэтычны талент класіка беларускай літаратуры – «гэта дар яго маці, які ў ёй самой драмаў у неразвітым стане…»[15], а «адзінае апавяданне, ёй напісанае, паказвае, што яна валодала дарам маляўнічасці, а пры гэтай умове з яе магла выпрацавацца добрая пісьменніца»[16].

Марыя Багдановіч (у дзявоцтве Мякота, 1869–1896) пакінула гэты свет у Гродне пасля нараджэння чацвёртага дзіцяці, дачкі Ніны, маючы 27 гадоў ад веку. Адзіны яе вядомы твор, пра які вёў гаворку А. Багдановіч, – «Напярэдадні Раства» – напісаны з захаваннем усіх асноўных асаблівасцей на доўгі час забытага празаічнага жанру – каляднага апавядання, – які за апошнія дзесяцігоддзі становіцца ўсё больш запатрабаваным, і сёння, магчыма, ужо варта весці гаворку пра яго своеасаблівы літаратурны рэнесанс.

**З гісторыі каляднага апавядання.** Гілберт Кіт Чэстэртан, адзін з прадстаўнікоў англійскай літаратуры, заўважыў, што Раство – самае тыповае і спецыфічна брытанскае свята. З гэтымі словамі можна і не пагадзіцца, але свой унёсак у сямейную ўтульнасць, казачную абаяльнасць святкавання, эстафету якога перахапіла ўся Еўропа і ўвесь свет, «краіна туманнага Альбіёна» зрабіла. Лічыцца, што першую калядную паштоўку стварыў англійскі

[14]Трус М. Ад каранёў да кроны [прадмова] // Яцкевіч З. Радавод Максіма Багдановіча. Мінск, 1999. С. 4.

[15]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта. Мінск, 1975. С. 17.

[16]Тамсама. С. 14.

мастак Добсан у 1794 г. На ёй намаляваны зімовы пейзаж і сям'я каля елкі. Сапраўдная серыйная паштоўка з выявай малюнка мастака Каралеўскай акадэміі Джона Хорслі ўбачыла свет таксама ў Англіі ў 1840 г.

З лёгкай рукі знакамітага англійскага пісьменніка Чарлза Дзікенса (1812–1870), аўтара вядомых раманаў «Пасмяротныя запіскі Піквікскага клуба» (1837), «Прыгоды Олівера Твіста» (1838), «Дэвід Коперфілд» (1850) і іншых сусветна вядомых твораў, у літаратурным жыцці Еўропы запачаткаваўся новы жанр – *каляднае апавяданне* (рускія адпаведнікі – *рождественский, свя́точный рассказ*).

Задума новага жанру выспелілася нечакана, можна сказаць, эўрыстычна. Калі пяро пісьменніка-рэаліста, вядомага барацьбіта за сацыяльную справядлівасць, ужо было гатова да напісання памфлета «Да англійскага народа, у абарону дзіцяці бедняка», аўтар задумаўся пра дзейснасць такой формы звароту, публіцыстыкі на пачуцці і эмоцыі суайчыннікаў. Звыклы мастацкі тэкст з яго пранікнёным, пранізлівым словам бачыўся больш эфектыўным. Так нарадзілася славутая «Калядная песня ў прозе» (1843).

Гілберт Кіт Чэстэртан, даследчык жыцця і творчасці Ч. Дзікенса, адзначыў, што «Калядная песня…» – гэта філантрапічны сон: «Аповесць пяе ад пачатку да канца, як пяе шчаслівы чалавек па дарозе дадому, а калі спяваць не можа, яна, як шчаслівы і добры чалавек, радасна крычыць. З першых бадзёрых фраз яна паэтычная і ўсхваляваная. Сапраўды, гэта – калядная песня, і нішто іншае»[17].

У наступныя гады перадкаляднай парою Ч. Дзікенс радаваў чытача новымі творамі з гэтага цыкла. Услед за «Каляднай песняй» свет убачылі аповесці «Званы» («The Chimes», 1844) і «Цвыркун за печкай» («The Cricket On The Hearth», 1845), «Бітва жыцця» («The Battle of Life», 1846).

Названымі творамі замацоўвалася асноўная тэматыка аўтарскай «каляднай філасофіі»: жыццё беднякоў, раскаянне грэшнага чалавека, свет дзяцінства і інш. Дзікенс праявіў сябе як выдатны майстра стварэння эмацыйнай атмасферы, адчування прысутнасці таямніцы, гучання голасу радасці, памяці і забыцця. І заўжды ў цэнтры ўвагі – чалавек.

[17]Честертон Г. К. Чарльз Диккенс. Москва, 1982. С. 112.

Традыцыя Ч. Дзікенса была падхоплена еўрапейскай літаратурай, але галоўнае месца ў каляднай прозе аповесць саступіла апавяданню, больш кампактнаму і «мабільнаму» ў пастаноўцы актуальных для грамадскасці пытанняў, лёгкачытэльнаму. Класіку жанру падмацавала «Дзяўчынка з запалкамі» (1889) Х. К. Андэрсена, а таксама творы іншых аўтараў – А. Франса, Ж. Леметра, С. Лагерлёф. З рускіх пісьменнікаў да каляднага апавядання звярталіся Ф. Дастаеўскі, М. Ляскоў, А. Чэхаў, У. Караленка, А. Купрын, Л. Андрэеў і інш.

У калядным апавяданні склаліся ўстойлівыя каноны на ўзроўнях трывалых тэм, матываў, сюжэтнай пабудовы, кампазіцыі, вобразнай сістэмы. Так, асноўнымі тэмамі традыцыйна становяцца беднасць, няшчасце, выпрабаванне, хвароба, несправядлівасць, якія пераадольваюцца цудам каляднай ночы. Сярод вядучых матываў – перамога дабра, справядлівасці, любові і міласэрнасці. Выйсцем для герояў з матэрыяльнага і духоўнага крызісу становіцца цуд, умяшальніцтва вышэйшых сіл, Боскае заступніцтва. У мастацкую тканку твора арганічна ўключаецца элемент фантастыкі, з умацаваннем пазіцый рэалізму ў еўрапейскай літаратуры важнае месца ў калядным апавяданні пачынае займаць сацыяльная тэматыка.

Асаблівай папулярнасцю карысталіся калядныя апавяданні ў другой палове XIX ст., калі набіраў моц працэс дэмакратызацыі выдавецкай справы, выходзіла мноства «тонкіх» часопісаў, разлічаных на масавага чытача; каляднае апавяданне трывала займала нішу белетрыстычнай літаратуры. Колькасць твораў названага жанру вырасла неверагодна, што негатыўна адбілася на іх мастацкіх якасцях. Некаторыя выданні лічылі абавязкам адкрыта паздзекавацца з гэтай нагоды. Так, адзін з аўтараў рускага сатырычнага часопіса «Речь» прапанаваў свой, досыць тыповы для таго часу, пісьменніцкі рэцэпт «прыгатавання» калядных апавяданняў:

«*Кожны чалавек, які мае рукі, двугрывенны на паперу, пяро і чарніла і не мае таленту, можа напісаць каляднае апавяданне.*

*Патрэбна толькі прытрымлівацца вядомай сістэмы і цвёрда памятаць наступныя правілы:*

*1) Без парсючка, гусі, елкі і добрага чалавека каляднае апавяданне не сапраўднае.*

*2) Словы “яслі”, “зорка” і “любоў” павінны паўтарацца не менш за дзесяць, але і не больш за дзве-тры тысячы разоў.*

*3) Званы, замілаванне і раскаянне павінны знаходзіцца ў канцы апавядання, а не ў пачатку яго*»[18].

Аўтар гэтых слоў – папулярны ў пачатку ХХ ст. рускі пісьменнік, сатырык, парадыст *О. Л. Д’ор* (сапр. *Иосиф Львович Оршер*; 1878–1942), які таксама як і М. Багдановіч супрацоўнічаў з пецярбургскім выданнем «Сатирикон», а пазней, пры новай уладзе, рэдагаваў адзін з першых савецкіх сатырычных часопісаў «Гильотина» (Петраград, 1918).

У запісах афарызмаў і асобных моўных выразаў, зробленых класікам беларускай літаратуры, частка з якіх належыць самому М. Багдановічу, побач з цытатамі з твораў сусветнай класікі, рускай літаратуры (В. Брусава, М. Горкага, У. Маякоўскага і іншых вядомых аўтараў) прадстаўлена адно выказванне О. Л. Д’ора: «*Мой стакан мал…, но я пью из чужого стакана*»[19].

Нягледзячы на іранізаванне, узор якога мы прывялі вышэй, да каляднага апавядання звярталіся і класікі, і цэлая армія аматараў мастацкага пісьменства.

Згасанне цікавасці да гэтага жанру прыпадае на першыя дзесяцігоддзі ХХ ст., у савецкі час па ідэалагічных меркаваннях каляднае апавяданне аўтаматычна патрапляе ў шэраг забароненых і забытых. Выключэннем становіцца спарадычны зварот да яго эмігранцкіх аўтараў, прыгадаем «Каляднае апавяданне» (1928) У. Набокава.

Рэнесанс жанру адбываецца з пачатку 1990-х гг. Так, яшчэ за савецкім часам у Ленінградзе выйшаў зборнік «Петербургский святочный рассказ» (1991). За апошнія два дзесяцігоддзі цікавасць да каляднага апавядання значна ўзрасла, вельмі запатрабаваным становіцца яго выхаваўчы (маральны, рэлігійны) патэнцыял. Нягледзячы на спрэчнасць мастацкіх вартасцей твораў, напісаных за апошнія паўтара стагоддзя, каляднае апавяданне прыцягвае сваёй немудрагелістасцю, адчуваннем свята і чаканнем незвычайнага.

«**Гродненские губернские ведомости**». Найбольш поўна гісторыю гэтага выдання прадставіў даследчык Вячаслаў Швед у

---

[18]Д’ор О. Л. Как надо писать рождественские рассказы: руководство для молодых писателей // Речь. 1909. № 354. 25 дек.

[19]Багдановіч М. Поўны збор твораў у 3 т. Мінск, 1995. Т. 3. С. 232.

кнізе «Губернскі Гродна»[20]. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што беларускія архівы маюць у фондах толькі асобныя экзэмпляры газеты розных гадоў.

Першы нумар «Ведомостей» выйшаў 7 (19) студзеня 1838 г. у адпаведнасці з Палажэннем Сената ад 1837 г., якое прадугледжвала выданне газет такога кшталту ва ўсіх губернях Расійскай імперыі. Выдаўцом было Гродзенскае губернскае праўленне. У цэлым газета выказвала афіцыйны пункт гледжання, была правадніком дзяржаўнай палітыкі і ідэалогіі. Паводле афіцыйных ацэнак, на пачатку XX ст. выданне ўваходзіла ў лік найлепшых «сур’ёзна пастаўленых» губернскіх ведамасцей Расійскай імперыі.

«Гродненские губернские ведомости» дзяліліся на два аддзяленні (часткі): афіцыйнае і неафіцыйнае. Нас цікавіць найперш неафіцыйнае, паколькі ў ім друкаваліся матэрыялы па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, адукацыі, тэксты мастацкай (арыгінальнай і перакладной) літаратуры. Сярод вядомых аўтараў – гісторыкі Е. Арлоўскі, Д. Мілюцін, Т. Нарбут, пісьменнік Ю. Крашэўскі. З газетай супрацоўнічалі М. Доўнар-Запольскі, Е. Раманаў, Ф. Стаўровіч.

З газетай звязана станаўленне як вучонага Адама Багдановіча, які працаваў у Гродне ў Сялянскім зямельным банку з 1892 да 1896 г. На старонках неафіцыйнай часткі «Гродненских губернских ведомостей» надрукаваны шэраг яго этнаграфічных нарысаў («Дзяды», «Дучкар», «Бацькі і дзяды ў беларускай вёсцы», «Куст»: Траецкае народнае святкаванне ў Кобрынскім і Пінскім уездах»), а таксама некалькі перакладаў мастацкай літаратуры («Вар’ят з Фірліеўкі» Л. Захер-Мазоха, «Пахаванне» М. Канапніцкай).

Актыўнаму супрацоўніцтву Багдановічаў з выданнем не ў апошнюю чаргу спрыяла тое, што рэдактарам неафіцыйнай часткі быў сябра сям’і Канстанцін Давыдовіч, хросны бацька іх дачкі Ніны, у горадзе над Нёманам чалавек уплывовы – загадчык губернскай друкарні, губернскі сакратар.

**Працяг традыцый жанру.** Апавяданне Марыі Багдановіч было надрукавана ў газеце «Гродненские губернские ведомости» 29 снежня 1893 г., падпісана крыптанімам *М. Б.* Арыгінальны

[20]Швед В. В. Губернскі Гродна: аповеды з гісторыі горада (канец XVIII – пач. XX ст.). Баранавічы, 2003. С. 67–80.

экзэмпляр гэтага нумара газеты захоўваецца ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Твор атрымаў другое жыццё дзякуючы супрацоўнікам Літаратурнага музея М. Багдановіча: надрукаваны ў «Архіўных матэрыялах да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сшытак 1» (публікацыя В. Мікуты і П. Качатковай)[21].

Каляднае апавяданне з кананічнай прапрацоўкай яго жанравых асаблівасцей было ўдзячнай школай для літаратара-пачаткоўцы. Твор не вылучаецца адметнымі вобразна-выяўленчымі сродкамі, галоўнае ў ім – сюжэтная лінія, шчымлівая эмацыйная атмасфера, чаканне свята і цуду. Аўтар дэталёва абмалёўвае ўбогую абстаноўку жытла маладой цяжкахворай жанчыны, якая засталася пасля смерці мужа адна з двума малымі дзецьмі на руках. Сэрца маці баліць па будучыні сваіх галодных дзетак і, магчыма, у апошнія дні свайго жыцця яна прагне зрабіць для іх свята.

Маляўнічасць у перадачы перадсвяточнага каларыту, нюансаў дзіцячай псіхалогіі відавочная, яна ў значнай ступені дыктавалася кідкімі рысамі характару М. Багдановіч, для якой былі характэрныя «незвычайная выразнасць успрымання, пачуцця і рухаў», «павышаная адчувальнасць» у будзённым жыцці[22].

Апавяданне мае і аўтабіяграфічную падказку. У свой час, калі цяжка захварэў Апанас Мякота, бацька Марыі, губернскі сакратар, наглядчык Ігуменскай павятовай бальніцы, сям’я апынулася практычна ў жабрацкім стане. Двое з чатырох дзяцей былі аддадзены ў мінскі дзіцячы прытулак, што знаходзіўся на рагу былых Петрапаўлаўскай і Падгорнай вуліц. Марыі пашчасціла: яе прыгажосць і здольнасці заўважыла апякунка ўстановы губернатарша Пятрова, якая парупілася пра адукацыю для сваёй «фаварыткі».

Дакументальным пацверджаннем літаратурных здольнасцей і мастацкіх густаў Марыі Мякоты могуць паслужыць матэрыялы, якія сёння захоўваюцца ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Мінску і адносяцца да часу навучання будучай маці паэта ў Пецярбургскай земскай настаўніцкай школе (1886–1888). Сярод рукапісных матэрыялаў М. Мякоты некалькі творчых прац

[21]Архіўныя матэрыялы да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сшытак 1. Мінск, 1996. С. 6–13.

[22]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта. Мінск, 1975. С. 14.

(сачыненняў): «Семья в деле воспитания человека Фридриха Фребеля», «Семейная жизнь Катерины по «Грозе» Островского», а таксама два перапісаныя вершы (Д. Меражкоўскага і невядомага аўтара).

Пра асаблівасці аўтарскага стылю гаворыць перапіска Адама Багдановіча і Марыі Багдановіч 1891–1896 гг., расчытаная і апублікаваная супрацоўнікамі Літаратурнага музея В. Бяляўскай, А. Бяляцкім, М. Трусам[23]. Адам Багдановіч досыць панарамна прадставіў сваю жонку Марыю як захопленага літаратурай чалавека і патэнцыйна таленавітага аўтара:

«…она много читала. Ее письма поражали и меткостью наблюдений, и живостью, и картинностью языка. Находящийся среди материалов единственный рассказ, ею написанный, показывает, что она обладала даром изобразительности, а при этом условии из нее могла бы выработаться хорошая писательница. Необходимо отметить еще одну черту: чрезвычайную, иногда мучительную живость воображения. Не только Достоевский ее мучил болезненной яркостью переживаний при чтении (особенно сон Свидригайлова), но даже, читая социологию Спенсера, где проводится аналогия между физиологическим организмом и общественным, она так живо воображала в человекообразных формах некое чудовище, голову которого составляют литераторы и ученые, в груди копошатся поэты, в ногах снуют извозчики, машинисты и пр., машины, поезда, телеграф, что приходила в ужас от этого кошмарного создания своей фантазии, и я только шуткой мог прогнать этот мрак»[24].

Памяць пра неўладкаванасць, галоднае маленства, клопат і трывога пра будучыню дзетак, урэшце, захопленасць мастацкай літаратурай і паклікалі да жыцця «Напярэдадні Раства».

Адзін экзэмпляр газеты «Гродненские губернские новости» захоўваўся ў архіве Багдановічаў – спачатку ў Адама Ягоравіча, а потым у яго сына Паўла. Няма сумненняў, што Максім Багдановіч быў знаёмы з гэтым творам як з адной з сямейных рэліквій, што засталіся пасля смерці маці.

---

[23]Архіўныя матэрыялы да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сшытак 1. Мінск, 1996. С. 15–85.

[24]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта. Мінск, 1975. С. 14.

Упершыню з фрагментамі апавядання «Напярэдадні Раства» шырокага чытача пазнаёміў Алесь Бачыла, адзін з найбольш руплівых даследчыкаў жыцця і творчасці класіка беларускай літаратуры. Словы Ганны Валасовіч-Гразновай, стрыечнай сястры паэта па матчыным родзе, пацвердзілі жыццёвую, амаль дакументальную аснову твора: «Калі ж затым пераказаў змест апавядання, Ганна Кіпрыянаўна, доўга не думаючы, адразу ж заўважыла, што ў сваім апавяданні Марыя Панасаўна апісала лёс роднай маці, Таццяны Восіпаўны Мякота, дзявочае прозвішча якой было Малевіч»[25]; «З дваімі дзецьмі, без свае гаспадаркі і сродкаў для існавання засталася Таццяна Восіпаўна пасля смерці мужа. Пастаяннай работы ў такім невялікім мястэчку, як Ігумен (цяпер г. Чэрвень), не знойдзеш. І давялося брацца за любую работу, якая траплялася: прала кудзелю, ткала, вязала, мыла бялізну багатым. Як гэта ўсё падобна на жыццё гераіні з апавядання Марылі Багдановіч «Накануне Рождества». Так і хочацца ўслед за Ганнай Кіпрыянаўнай сказаць, што гэта лёс сваёй маці напісала дачка. Напісала, каб вызваліцца душэўна ад тых уражанняў, якія стаялі ў яе перад вачамі з таго часу, як яна ўбачыла і зразумела, у якіх умовах жыў блізкі ёй чалавек»[26].

Уражлівасць натуры Марыя Багдановіч, псіхаэмацыйны яе стан у апошнія дні жыцця былі дэталёва и пранікнёна апісаны Адамам Багдановіча, але ў друкаваныя «Материалы к биографии…» не ўвайшлі. Упершыню гэты фрагмент (разам з некаторымі іншымі, знятымі па цэнзурных меркаваннях савецкага часу) у цалкам узноўленым тэксце быў надрукаваны ў 2011 г.:

«*Что сделала болезнь с этим веселым, жизнерадостным, прекрасным и телом и душой, чудным созданием?*

*Страшно вспомнить ее облик… Кожа да кости. Все сгорело на внутреннем огне. А эта согбенная в комочек фигурка, сидящая на постели с прижатыми ко впалой груди коленями, чтобы подавить беспрерывный кашель, потрясающий взрывами этот живой, чувствующий и страдающий комочек?*

*Это ужасающее противоречие с ясным солнцем, голубым небом и смеющейся, ликующей природой. Это вопиющее противоре-*

---

[25]Бачыла А. Дарогамі Максіма Багдановіча // Крыло неспакою. Пошук, роздум, палеміка, успаміны. Мінск, 1985. С. 77.

[26]Тамсама. С. 80.

*чие должно быть снято, примирено, или нельзя жить, и мир должен быть отвергнут презрительным пинком.*

*Представьте – она не чувствовала этого противоречия: за 4 дня до смерти, потрясаемая приступами кашля, в промежутках она силилась что-то радостное напевать тонким, как волосик, голосом и говорила, что ей не жаль так безвременно умирать:*

*– На что мне долгая жизнь, коли я была так безмерно счастлива.*

*– Только ты меня не оставляй на ночь в церкви: я боюсь Вия*»[27].

Тэмы жанчыны і дзіцяці, іх сацыяльнай неабароненасці знайшлі шматпланавае адлюстраванне ў беларуска- і рускамоўнай творчасці класіка беларускай літаратуры. Повязь «Марыя і Максім Багдановічы» мае патэнцыял новага даследчыцкага бачання, які скіроўвае ў рэчышча псіхалогіі творчасці, кантэксталогіі і г. д.

Дзеля ілюстратыўнасці прыводзім апавяданне ў скарочаным варыянце ва ўласным перакладзе на беларускую мову.

Марыя БАГДАНОВІЧ

НАПЯРЭДАДНІ РАСТВА

Ціха згасае дзень і сваімі апошнімі змярцвелымі промнямі блякла асвятляе невялікі пакой у скрыўленым набок і абселым у зямлю дамку. Невялікі драўляны стол, такая ж нефарбаваная табурэтка, кучка ануч, развешаных каля затхлай ад сырасці сцяны ды бязногі ложак, падпёрты двума паленамі, – вось і ўся няхітрая абстаноўка пакоя. Гаспадыня абстаноўкі, яшчэ маладая, але страшна схуднелая жанчына, ляжыць у гарачцы на ложку. Нягледзячы на холад, яна так і палае агнём: шчокі гараць; ад цяжкага перарывістага дыхання смягнуць сухія патрэсканыя вусны; мутныя вочы, нібы ў дыме, упарта стараюцца разглядзець пры святле згаслага дня смутныя абрысы дзвюх дзіцячых фігурак, што туляцца каля яе ног. Старэйшаму хлопчыку на выгляд не больш за шэсць гадоў, малодшаму, здаецца, гады на два меней. Бедная малеча! Яны не падазраюць, што, можа, заўтра апынуцца адзінюткія на белым свеце, што тут на іх вачах дагарае іх апошняя надзея і апора ў жыцці. <…>

---

[27]Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы: успаміны, артыкулы, прысвячэнні. Мінск, 2011. С. 14.

Вось ужо каля двух тыдняў, як яна ў ложку. Усе няшчасныя капейкі, што былі зароблены, праедзены, і каб не спагадлівая душа Іваніха, такая ж бедная падзёншчыца, якая жыве ў гэтым жа дамку, можа, і не давялося б дзецям дачакацца свята. Забяжыць добрая душа вечарком і падзеліцца чым Бог паслаў, іншы раз і гарачага прынясе для хворай. Сёння яна з раніцы пайшла з поварам, паклікалі дапамагаць яму пры кухні: суседнія паны чакаюць гасцей – гатуецца багатая вячэра, для дзяцей ладзіцца елка. Калі і наведаецца сёння, то позна.

На дварэ цямнее, дзе-нідзе паказаліся ўжо зоркі, і ў вокнах засвяціліся агеньчыкі. У пакоі цішыня, чуваць толькі дыханне хворай ды рыпенне снегу на вуліцы пад нагамі рэдкага прахожага.

– А што, мама, – раптам перарывае цішыню слабы голас старэйшага хлопчыка, – не забудзе Хрыстос да нас зайсці сёння? Іваніха вось забыла.

Пры імені Іваніхі малодшы, Міколка, яшчэ мацней адчувае голад, што мучыць яго на працягу цэлага дня, не гаворыць, а нібыта пяе: «Е-с-ці х-а-ч-у!» У адказ гучыць толькі ціхі стогн маці.

– Мама, – працягвае распытваць Міхась, – ведаеш, чаго я баюся? – што Хрыстос не паспее ўсіх абысці. А можа, Ён забудзе, што каму трэба падарыць? Мне б так хацелася мець коніка! А раптам ён аддасць яго каму-небудзь іншаму! Так можа здарыцца, мама?

– Не бойся, Міхаська, Хрыстос ні пра каго не забудзе, і кожны атрымае тое, што яму патрэбна. <…> Вось і сёння, калі ты і брацік засняце і на дварэ будзе зусім цёмна – сыдзе на зямлю Хрыстос і пройдзе з горада ў горад, не абміне ні ўбогай хацінкі, ні багатага дома, пабывае ўсюды, дзе ёсць дзеці, і кожны з іх, прачнуўшыся на наступны дзень, знойдзе каля свайго ложка тое, што хацеў. Калі дойдзе чарга і да нас, то ціха-ціха адчыняцца дзверы, увойдзе Хрыстос, схіліцца над вашай пасцелькай і прыслухаецца да таго, пра што моліць вашае сэрца, якое жаданне гаворыць у ім мацней, дабраславіць вас і адправіцца далей, пакінуўшы пасля Сябе радасць і шчасце. А заўтра, прачнуўшыся, ты знойдзеш у сябе коніка, а Міколка музыку.

– Я не хачу музыку, хачу булачку, вя-лі-кую!.. – працягнуў і захныкаў зноў, змоўкшы на некаторы час, заслухаўшыся казкай, Міколка.

– Ну перастань ты ўжо нарэшце! Вось заўсёды ты так – расплачашся і не дасі маме расказаць! А я вось усё думаю, – звяр-

нуўся Міхась да маці, – ці можна будзе на гэтым коніку ездзіць верхам? І потым – як яго назваць? Як ты думаеш, калі назваць яго Буланчыкам, так добра будзе?

– Вось што, Міхаська, – перапыніла яго слабым, стомленым голасам маці, – схадзі ты да Іваніхі, і калі яна дома, то запытай: ці прадала яна мой заручальны пярсцёнак і купіла тое, што я прасіла; толькі спытай: ці купіла тое, што я прасіла? І больш не распытвай. І вяртайся хутчэй!

<…> …Дзіўна было бачыць гэтых дзіцятак, як адны ідуць уздоўж цёмнай вуліцы, у такую непагадзь з непакрытымі галовамі і без верхняга адзення. Яны дайшлі да канца вуліцы і раптам спыніліся як укапаныя перад вялікім аднапавярховым домам, што глядзеў на іх усімі сваімі шырокімі, ярка асветленымі вокнамі. Велізарная зала, уся залітая святлом, была відаць як на далоні. Пасярэдзіне красавалася ўся ў агнях, багата ўсыпаная золатам і серабром, прыбраная ва ўсе колеры вясёлкі, шыкоўная елка. З-пад кожнай яе галіны выглядвалі апельсіны, яблыкі, арэхі, рознакаляровыя скрыначкі, а на самай вершаліне, нібы сабраўся ляцець, распраўляў свае крылы анёл.

<…> У гэты час каля параднага пад’езда паказаўся швейцар у бліскучай ліўрэі. Хвіліну ён прыслухоўваўся, углядаўся ў цемру і нарэшце заўважыў дзяцей пад акном.

– Пайшлі прэч адсюль! – прыкрыкнуў ён на іх. – Ах, шчаняты, яшчэ і пішчаць уздумалі! От я вас! – скончыў ён грозна і зрабіў жэст, нібыта намерваўся пацвердзіць свае словы дзеяннем.

Але дзеці ўжо павольна пляліся да свайго дома. Калі яны ўвайшлі у пакой, там панавала тая ж цемра і цішыня, як і раней; нават не чуваць было трызнення і дыхання хворай. Міколка навобмацак залез на пасцель і зноў скруціўся ў яе нагах, а Міхась з цяжкасцю даплёўся ў кут пакоя і як падкошаны зваліўся на разасланае там матчына паліто… Яшчэ доўга чуліся з кута ціхія ўсхліпванні, але пакрысе думкі ў галаве пачалі блытацца, і нарэшце ўсемагутны сон сплюшчыў прыпухлыя ад слёз павекі. <…>

Вось і ў іх пакойчыку стала раптам так светла і хараша! Дзверы ціхенька адчыняюцца, і ў пакой уваходзіць Хрыстос. Ён павольна падыходзіць да Міхася і схіляецца над яго галавой. «Не журыся, бедны хлопчык, – гаворыць Ён, – вось твой конік!» Міхась радасна ўскрыквае і прачынаецца. Пры святле маладога дня вочы яго смутна адрозніваюць няпэўныя абрысы коніка на падлозе. А ў печы весела патрэскваюць дровы…

# РАЗДЗЕЛ 2. ДЫЯЛАГІЧНЫЯ КОДЫ

## 2.1. АДАМ БАГДАНОВІЧ І ЯЎГЕН ЧЫРЫКАЎ: СКРЫЖАВАННІ ШЛЯХОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

Калі сёння ў беларускай культурнай парадыгме імёны Адама Багдановіча і Максіма Горкага ўзгадваюцца побач, гэта ўспрымаецца натуральна і гістарычна апраўдана: сваякі; барацьбіты за сацыяльную справядлівасць, інтэлігенты; бацька класіка беларускай літаратуры, вучоны-этнограф і класік рускай пралетарскай літаратуры.

Такое ўспрыманне прыгладзілася часам, адшліфавалася. Аднак мы, як правіла, не задумваемся: якім чынам правінцыйны настаўнік, даследчык-аматар быў прыняты ў кола перадавой рускай інтэлігенцыі? Сярод знаёмых А. Багдановіча апынуліся вельмі вядомыя людзі: Шаляпін, Караленка, Скіталец і інш.

Вялікую ролю ў гэтым адыграў рускі пісьменнік Яўген Чырыкаў (мал. 8), надзвычай папулярны ў пачатку XX ст., потым забыты, сёння ён вяртаецца да чытача – у складаных перыпетыях свайго жыцця, важкай творчай спадчыне. Бацька будучага класіка беларускай літаратуры ехаў у Ніжні Ноўгарад з лёсавызначальным рэкамендацыйным лістом ад Я. Чырыкава, які добра ведаў і М. Горкага, і А. Багдановіча.

Адам Багдановіч прысвяціў абставінам першай сустрэчы з М. Горкім асобную главу ўспамінаў пад назвай «Наша знаёмства». Узгаданая сцэна перададзена ў дэталях, напісана ў добрых традыцыях мемуарыстыкі, драматургічна ўдала абмалявана. Тут мімаходзь закрануты выказаныя погляды рускага пісьменніка на беларускі народ і праблему «малых» славянскіх народаў увогуле:

«*Я перадаў яму пісьмо. Ён тут жа ўскрыў яго і прачытаў услых: "Ад Салодкага да Горкага". Пісьмо, верагодна, было складзена ў гумарыстычных тонах, таму чытаў ён яго, часам усміхаючыся.*

*Але тут Кацярына Паўлаўна запрасіла нас піць каву.*

*Пачалася размова.*

*– Вы беларус? Ну, вось… ну, вось… Вось гэта добра. Добра належаць да маленькага народа, накшталт сербаў, балгар, харватаў… ці вось беларусаў. У іх усё ясна, проста, нескладана. Можна ўсё вывучыць – і прыроду краіны, і жыццё, і мінулае, і су-*

*часнае… Тады лёгка працаваць, лёгка пісаць: усё ведаеш. І ты ведаеш усіх, і цябе ведаюць. Не тое, што ў такой грамадзіне, як Расія, дзе сам чорт нагу зломіць. Надта яна складаная*»[28].

Славянства стала важным складнікам жыцця і творчасці і М. Горкага, і А. Багдановіча, і Я. Чырыкава як літаратурная і навукова-даследчая тэма, як этап біяграфіі. Хто ж такі Яўген Чырыкаў? Паспрабуем у агульных рысах акрэсліць яго жыццё і творчасць.



Мал. 8. Яўген Чырыкаў.
Пачатак XX ст. ЛММБ

**З жыццяпісу Я. Чырыкава.** Імя Яўгена Мікалаевіча Чырыкава (1864–1932) належыць да кагорты вернутых імёнаў у гісторыі рускай літаратуры. (Магчымасці яго «вяртання» на радзіму пазначыліся яшчэ ў 1960-я гг. і замацаваліся выданнем некалькіх кніг[29]). Шыракавядомы творца сярод чытацкай аўдыторыі Расіі канца XIX – пачатку XX ст. Празаік, публіцыст, драматург. Любімы пісьменнік рускай інтэлігенцыі. Прадстаўнік рускай эмігранцкай літаратуры.

Пра папулярнасць Я. Чырыкава ў дарэвалюцыйнай Расіі сведчыць яскравы факт – прыжыццёвы збор твораў у 17 тамах[30]

---

[28]Богданович А. Страницы из жизни М. Горького. Минск, 1965. С. 18.

[29]Чириков Е. Н. Вниз по Волге-реке. Нижний Новгород, 2004; Чириков Е. Н. Иван Мироныч. Мужики: Картины деревенской жизни // Драматургия “Знания”: Сборник пьес. М., 1964; Чириков Е. Н. Повести и рассказы. М., 1961.

[30]Чириков Е. Н. Собрание сочинений: в 17 т. М., 1910–1916.

(1910–1916). Кнігі пісьменніка перакладаліся на нямецкую, французскую, англійскую мовы. П’есы з поспехам ставіліся ў Германіі, Аўстра-Венгрыі, Швейцарыі, Вялікабрытаніі, ЗША.

Выключны поспех мела драма «Яўрэі» (1904), задуманая ў Мінску, завершаная ў Ніжнім Ноўгарадзе. Твор закранаў надзённую праблему нацыянальнай ксенафобіі і пагромаў, што пракаціліся па Расійскай імперыі ў пачатку XX ст. П’еса была забаронена для пастаноўкі ў тэатрах краіны з-за рэвалюцыйнасці, але з поспехам ставілася за мяжой (Берлін, Вена), што ўрэшце прымусіла ўлады ў 1905 г. даць дазвол на яе сцэнічнае ўвасабленне ў Расіі.

Нарадзіўся Я. Чырыкаў у Казані ў дваранскай сям’і. Вучыўся ў Казанскім універсітэце, выключаны з яго па палітычных матывах (1887). За актыўную грамадска-палітычную дзейнасць неаднаразова падпадаў пад паліцэйскі пераслед, арышты і высылкі. На працягу 1887–1902 гг. жыў пад наглядам паліцыі ў Царыцыне, Астрахані, Казані, Самары, Мінску. Грамадска-культурная актыўнасць Я. Чырыкава ў пачатку XX ст. звязана з Масквой і Пецярбургам.

Як паэт Я. Чырыкаў дэбютаваў падборкай вершаў у казанскім часопісе «Волжский вестник» у 1885 г. Першае апублікаванае апавяданне – «Рыжы» (1886). Супрацоўнічаў з перадавымі часопісамі таго часу: «Русское богатство», «Мир божий», «Северный вестник», «Новое слово», «Вестник Европы» і інш.

З 1920 г. – у эміграцыі. Апошняе дзесяцігоддзе жыцця і творчасці, грамадска-культурнай дзейнасці звязана з Прагай. Уваходзіў у пісьменніцкія аб’яднанні Чэхаславакіі і Югаславіі («Саюз рускіх пісьменнікаў і журналістаў у Чэхаславацкай рэспубліцы», «Саюз рускіх пісьменнікаў і журналістаў»), выступаў з публічнымі дакладамі па творчасці рускіх пісьменнікаў. За ўмацаванне славянскіх культурных сувязей з рук караля Югаславіі Аляксандра атрымаў ордэн Святога Савы II ступені.

Сваю жыццёвую і творчую пазіцыі Я. Чырыкаў падагульніў ва ўступе да ўспамінаў «На шляхах жыцця і творчасці»: «*Па маёй пісьменніцкай душы праехалі, так бы мовіць, усе цяжкія рускія вазы інтэлігенцкай рэвалюцыйнай ідэалогіі: народніцтва, народавольства, талстоўства, марксізм і бальшавізм, які выйшаў з усяго гэтага ідэалагічнага месіва. На народніцкі грунт маёй душы дух*

*часоў адкладваў свае напластаванні, пакуль рэвалюцыя 1905 г. не вытварыла там падобную на землятрус катастрофу і не вызваліла мяне канчаткова з кіпцюроў усялякіх рэвалюцыйных ідэалогій, пакінуўшы некранутай толькі атрыманую ў спадчыну ад народніцтва любоў да радзімы і да свайго народа…*»[31].

**Яўген Чырыкаў і Максім Горкі.** Знаёмства Я. Чырыкава з М. Горкім адбылося ў 1888 г. падчас высылкі першага на тры гады ў Царыцын. Стасункі працягваліся нядоўга, бо на наступныя два гады пакарання Я. Чырыкава адправілі ў Астрахань. Там адбылася памятная сустрэча з М. Чарнышэўскім, які заўважыў пісьменніка-пачаткоўца па апавяданні «Свіння» («Книжки недели», 1888, № 8), пры сустрэчы жартаўліва падбадзёрыў аўтара: «Добра, добра! Лепш пачаць са свінні і скончыць чалавекам, чым наадварот».

На запрашэнне Максіма Горкага з 1901 г. Яўген Чырыкаў супрацоўнічаў з выдавецтвам «Знание», быў яго пайшчыкам. Тут выйшаў яго збор твораў у васьмі тамах (1903–1909), некалькі п’ес, напісаных у Мінску: «На двары ў флігелі», «Па славу».

З-за палітычных і асабістых рознагалоссяў з М. Горкім разам з іншымі пісьменнікамі ў 1908 г. пакінуў выдавецтва. Пазней амаль увесь склад «Знания» (Андрэеў, Бунін, Скіталец, Шмялёў, Чырыкаў) апынуўся ў эміграцыі, дзе Я. Чырыкаў выдаў брашуру «Смердзякоў рускай рэвалюцыі» (1921), у якой праз прызму творчасці Ф. Дастаеўскага рагледзеў негатыўную ролю М. Горкага ў радыкальных грамадска-палітычных зменах Расіі.

**Яўген Чырыкаў у Мінску.** Перавод Я. Чырыкава ў 1895 г. з Самары ў Мінск звязваецца біёграфамі з апякунствам генерала Паўла Грыгаровіча, прыхільніка творчасці пісьменніка. Высокі саноўнік у падтрымцы свайго любімца на гэтым не спыніўся, нечуваны факт – прадставіў «палітычна нядобранадзейнага» да дзяржаўнай узнагароды! Такім чынам, у Мінску Я. Чырыкаў, памочнік рэвізора ў службе кантролю Лібава-Роменскай чыгункі, стаў кавалерам ордэна Святога Станіслава.

Яўген Чырыкаў сышоўся з мясцовай ліберальнай інтэлігенцыяй: С. Мяржынскім, А. Аляксандравым, П. Румянцавым; удзельнічаў у грамадска-культурным жыцці горада.

---

[31]Чирикова В. Чириков Евгений Николаевич. Режим доступа: http://ru.writers.wikia.com/wiki/Чириков,_Евгений_Николавевич. Дата доступа: 11.02.2012.

У 1898 г. Я. Чырыкаў разам з А. Аляксандравым стварыў «Общество любителей изящных искусств», якое праз год ужо налічвала больш за 400 чалавек. Таварыства стала ініцыятарам шэрагу гучных акцый: збору сродкаў на помнікі А. Пушкіну і А. Астроўскаму, правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў да юбілеяў вядомых рускіх пісьменнікаў, стварэння грамадскай бібліятэкі і інш. Асаблівая ўвага аддавалася тэатральнай дзейнасці, падтрымцы гастроляй тэатральных труп. Сіламі таварыства быў арганізаваны народны аматарскі тэатр, дзе ў якасці акцёраў былі задзейнічаны Яўген і Валянціна Чырыкавы. Жонка пісьменніка пазней стала прафесійнай актрысай, вядомай пад псеўданімам *Иолшина*.

Пра сур'ёзны падыход да арганізацыі працы гаворыць і структура таварыства, у ім працавалі чатыры секцыі: літаратурная, драматычная, музычная і мастацкая.

Жыццё пісьменніка ў Мінску коратка ахарактарызавала Валянціна Чырыкава ў прадмове да кнігі свайго продка «Вниз по Волге-реке» (2004): «*У канцы 1895 года Чырыкаў разам з жонкай, гадавалай дачкой і цешчай пераязджае ў Мінск і служыць ва ўпраўленні Паўднёвай чыгункі. У гэты перыяд ён шмат кантактуе з вядомым беларускім пісьменнікам А. Я. Багдановічам, актыўна падтрымлівае і выводзіць у вялікую літаратуру "салаўя ўкраінскай паэзіі" Лесю Украінку. У Мінску пісьменнік працягвае плённа працаваць. З 1985 да 1901 г. з'яўляецца шэраг вядомых твораў Чырыкава. Так, у 1897 г. у часопісе "Новое слово" выходзіць яго аповесць "Інваліды". Расчараваўшыся ў тактыцы народнікаў, Чырыкаў прыводзіць героя гэтай аповесці да разумення ўласнай непатрэбнасці. Сваю нязгоду з марксістамі Чырыкаў выразіў у аповесці "Чужаземцы", надрукаванай у часопісе "Жизнь"*»[32].

Падчас прыездаў у Мінск Леся Украінка абавязкова наведвала дом Чырыкавых ці спынялася там, пра што яна паведамляла ў адным з лістоў да маці: «*У Мінску я пазнаёмілася з Чырыкавым... Чырыкаў... два дні таму напісаў рэкамендацыйны ліст у рэд. "Жизни" пра мяне; хоць я яго, зразумела, пра гэта не прасіла, але гэта мне вельмі дарэчы, і я вельмі ўдзячная свайму рэкамендацелю*».

Цікавыя ўспаміны пра мінскія стасункі Лесі Украінкі і Сяргея Мяржынскага, а таксама ролю ў іх Яўгена Чырыкава і яго сям'і

[32]Чирикова В. Чириков Евгений Николаевич. Режим доступа: http://ru.writers.wikia.com/wiki/Чириков,_Евгений_Николавевич. Дата доступа: 11.02.2012. С. 2.

напісала ў 1932 г. Вера Аляксандрава, дачка пісьменніка Данілы Мардоўцава. Прывядзем некалькі фрагментаў: «*Калі мы, я і мой муж, пераехалі ў 1898 годзе з Саратава ў Мінск, то першае знаёмства, зробленае намі, было знаёмства з Чырыкавымі. Сам Чырыкаў аказаўся вясёлым, дабрадушным, сімпатычным чалавекам, а жонка яго – вельмі прыгожай, маладзенькай жанчынай. У іх мы сустрэліся з Сяргеем Канстанцінавічам Мяржынскім, саслужыўцам Яўгена Мікалаевіча Чырыкава. <…> З Чырыкавым ён быў у вельмі добрых сяброўскіх адносінах і быў іх пастаянным госцем, а калі пазнаёміўся з намі, то і ў нас стаў бываць вельмі часта"*; *"Пасля ад'езду Ларысы Пятроўны* [сапраўдныя імя, імя па бацьку Лесі Украінкі] *шмат у мяне было размоў з Чырыкавымі. Між іншым, яны сцвярджалі, што нягледзячы на ўзаемнае каханне Ларыса Пятроўна і Сяргей Канстанцінавіч вырашылі не браць шлюб, таму што абое пакутавалі ад туберкулёзу: Ларыса Пятроўна – ад коснага (таму яна і кульгала), а Сяргей Канстанцінавіч – ад лёгачнага, і яны баяліся перадаць сваю хваробу будучым дзецям. Як даведаліся Чырыкавы пра гэтае рашэнне, я не ведаю…*»[33].

Ужо толькі некаторыя закранутыя аскепкі мінулага падказваюць шмат тэм для пошукаў і асэнсавання, робяць Мінск адным з ключавых пунктаў пошукавай працы. Сёння творчасць Я. Чырыкава так ці інакш звязаны з Мінскам. У сталіцы Беларусі жыве і працуе Яўген Яўгенавіч Чырыкаў, унук і біёграф пісьменніка, выдадзены яго раман «Зверь из бездны»[34]. Грамадска-культурная чыннасць Яўгена Чырыкава канца XIX – пачатку XX ст. ілюструе цікавыя старонкі культурнага жыцця на той час яшчэ даволі непрыкметнага губернскага горада.

## 2.2. М. ДАБРАЛЮБАЎ І М. БАГДАНОВІЧ: ТЫПАЛОГІЯ ЎСПРЫМАННЯ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МІФАТВОРЧАСЦІ

Мікалай Дабралюбаў (1836–1861) (мал. 9) і Максім Багдановіч (1891–1917) – класікі рускай і беларускай літаратур, прадстаўнікі розных гістарычных эпох і нацыянальна-культурных парадыгм.

[33] Александрова, В. Леся Украинка и С. К. Мержинский // Леся Украинка в воспоминаниях современников. М., 1971. С. 195–197.

[34] Чириков Е. Зверь из бездны: Поэма страшных лет. Минск, 2000. 368 с.

Менавіта класічнасць – як вызначальная катэгорыя – найперш дазваляе ўзняцца над часам, паставіць гэтых асоб поруч, а іх спадчыну разглядаць як фундаментальны культурны набытак, а таксама свайго роду каталізатар ідэй, запатрабаваных сучаснікамі і наступнымі генерацыямі нацыянальных творчых эліт.



Мал. 9. Мікалай Дабралюбаў

Для некалькіх пакаленняў «рэвалюцыйных дэмакратаў» (гэтае ўстаялае вызначэнне сёння падвяргаецца крытычнаму пераасэнсаванню) другой паловы XIX – пачатку XX стст. погляды М. Дабралюбава сталі важнай ідэйна-эстэтычнай платформай, кананічна аформленай у гуманітарыстыцы савецкага перыяду.

Максім Багдановіч на старонках расійскай прэсы пачатку XX ст. разглядаў М. Дабралюбава ў шэрагах адмысловай генерацыі рускай інтэлігенцыі XIX ст., якая, па меркаванні аўтара, у часы дзекабрыстаў складалася выключна з прадстаўнікоў арыстакратыі, потым папоўнілася за кошт разначынцаў: «Приток лиц из этих слоев населения постепенно усиливается и в эпоху шестидесятых годов совершенно пропитывает собою всю интеллигенцию. Кто сосредоточивает на себя внимание в ее тогдашней среде? – Семинарист Чернышевский, семинарист Добролюбов, семинарист Антонович, семинарист Зайцев, семинарист Н. Успенский, семинарист Помяловский и проч. С другой стороны, параллельно росту этого процесса количество интеллигенции, выделяе-

мое дворянской средой, неуклонно падает»[35]. М. Багдановіч прадставіў свае канцэптуальныя крытэрыі да вызначэння сутнасці інтэлігента пачатку XX ст.: «На наш взгляд, всякий интеллигент необходимо должен удовлетворять следующим двум требованиям: во-первых, он должен иметь стремление к знанию; во-вторых, он должен стремиться нести свои знания на пользу народу. Вот черты, определяющие собой суть духовного облика интеллигенции; вот ценз, которым должен обладать каждый, имеющий претензию на принадлежность к ней»[36].

Артыкул «Новая интеллигенция» М. Багдановіча быў апублікаваны ў расійскім часопісе «Жизнь для всех» (1914, № 5–6). Аўтар закрануў надзённыя пытанні нацыянальна-культурнага жыцця на абшарах Расійскай імперыі, беларусаў у тым ліку, акцэнтаваў увагу на адрозным сацыяльным алгарытме фарміравання нацыянальнай інтэлігенцыі: «Глубоко демократическим является и белорусское движение. Созданная им литература не только идет почти исключительно в народ, но и в значительной степени является продуктом деятельности самого народа или, точнее, возникшей в его недрах интеллигенции»[37].

У савецкі час выказванні М. Дабралюбава разам з цытатамі з В. Бялінскага і М. Горкага склалі своеасаблівы тэкставы канон, які ў дзяржаўнай сістэме рэгламентаванасці даследчыцкага бачання не толькі ахопліваў уласна рускую літаратуру, але і пашыраўся на ўсе нацыянальныя традыцыі, у тым ліку і беларускую.

Кардынальныя змены грамадска-палітычнай парадыгмы, якія адбыліся ў пачатку 1990-х гг., непазбежна змянілі стаўленне да ідэйных натхняльнікаў мінулага часу. У пераходны перыяд агульнай рэвізіі ранейшых вызначальных каштоўнасцей, дамінавання нацыяцэнтрычных поглядаў на гісторыю ўвага да творчай спадчыны М. Дабралюбава заканамерна аслабла, лакалізавалася. Тэма пераходнасці, адмаўлення ад ідэалізацыі/ідалізацыі знакавых асоб агульнарасійскай мінуўшчыны вартая адмысловых даследаванняў у розных нацыянальных кантэкстах сітуацыі *пост-* (савецкасці, камуністычнасці і г. д.).

---

[35]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 18–19.

[36]Тамсама. С. 15–16.

[37]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 21.

У спарадычных спробах акрэсліць сённяшняе бачанне месца і ролі М. Дабралюбава ў гісторыі нацыянальнага пісьменства мы звярнуліся да вучэбнага дапаможніка «Беларуская літаратура» (2011) – выдання новага пакалення, якое па сваім прызначэнні заклікана фарміраваць базавыя веды навучэнцаў сярэдніх устаноў адукацыі. Мы вылучылі два ўрыўкі з раздзелаў, якія характарызуюць гісторыка-літаратурны працэс другой паловы XIX ст., а таксама жыццё і творчасць К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча:

«*Кастусь Каліноўскі быў на другім курсе (юрыдычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта –* ***М. Т.****), калі зазваніў “Колокол” А. Герцэна, і на апошнім курсе, калі ў 3-й кніжцы “Современника” М. Чарнышэўскага пабачыў свет артыкул М. Дабралюбава з вядомым прароцтвам: “Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы”*»[38] (В. Праскаловіч).

«*1861 год для расійскай грамадскасці стаў знакавым не толькі ў сацыяльна-палітычным сэнсе. У сакавіку жыхары Пецярбурга назаўсёды развіталіся са славутым украінскім Кабзаром – Тарасам Шаўчэнкам. А 17 лістапада ў Пецярбургу памёр Мікалай Дабралюбаў. Магчыма, у пахавальнай працэсіі ішоў і Ф. Багушэвіч... Дарэчы, у тыя дні ён развітваўся не толькі з Мікалаем Дабралюбавым, але і з універсітэтам, адмовіўшыся, як і многія яго калегі, прыняць новыя ўніверсітэцкія правілы, якія рэзка абмяжоўвалі свабоду студэнтаў*»[39] (В. Рагойша).

Прыведзеныя цытаты пераконваюць, што М. Дабралюбаў у беларускім нацыянальна-гістарычным кантэксце найноўшага часу ў значнай ступені захаваў свае вызначальныя пазіцыі. Адзначым і трохі нязвыклую для крыніц такога жанру тэкставую арганізацыю – наяўнасць шматкроп’я, якое пакідае прастору для гіпатэтычнага меркавання, а таксама нязмушана акцэнтуе ўвагу на важнасці дастаткова лагічнага, але ўсё ж здагадкавага эпізоду жыцця будучага класіка беларускай літаратуры Ф. Багушэвіча, звязанага з М. Дабралюбавым.

У часавай рэтраспектыве ўзгаданыя ў фрагменце вучэбнага дапаможніка словы М. Дабралюбава – «*Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы*» – мелі ключавое значэнне для нацыянальнага абуджэння, фарміравання канцэпцыі нацыянальнага аптымізму

[38]Беларуская літаратура: вучэбны дапаможнік для 9 класа ўстаноў адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання; пад рэд. праф. В. П. Рагойшы. Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. С. 148.

[39]Тамсама. С. 153–154.

і своеасаблівага гістарычнага даверу. Але ў гэтай цытаты ёсць свая гісторыя, якая ў нашых рэаліях адышла на задні план ёмістасці, афарыстычнасці, самадастатковасці выказвання – так неабходнага пры аб’ектыўным вызначэнні ідэйных каардынат беларускага грамадска-культурнага руху апошніх стагоддзяў.

Прыведзеныя словы М. Дабралюбава вылучаны з даволі аб’ёмістага тэксту «Черты для характеристики русского простонародья» – рэцэнзіі на зборнік «Рассказы из народного русского быта Марка Вовчка»[40] (мал. 10), упершыню апублікаванай са значнымі цэнзурнымі купюрамі ў часопісе «Современник» (1860, № 9). Артыкул сам па сабе стаў класічным узорам індывідуальна-аўтарскага стылю пісьменніка, яго «вылучаюць якасці, уласцівыя найлепшым узорам дабралюбаўскай крытыкі: лагічная і кампазіцыйная стройнасць, арганічнасць уключэння мастацкага матэрыялу ў публіцыстычную тканіну артыкула, адэкватнасць выражэння няпростай – як у тэарэтычных, так і ў цэнзурных адносінах – праблематыкі»[41].


РАЗСКАЗЫ
изъ
НАРОДНАГО РУССКАГО БЫТА
МАРКА ВОВЧКА.

Изданіе К. Солдатенкова и Н. Щепкина.

Цѣна 50 коп. сер.

МОСКВА.
Въ типографіи В. Грачева и Кº.
1859.

Мал. 10. Тытульная старонка зборніка
апавяданняў Маркі Ваўчка.
Нацыянальная бібліятэкі Беларусі

[40]Рассказы из народного русского быта Марка Вовчка. Москва: Издание К. Солдатенкова и Н. Щепкина; типография В. Гачева и Кº, 1859. 172 с.

[41]Добролюбов Н. А. Собрание сочинений: в 3 т. Москва: Худож. лит., 1987. Т. 3. С. 717.

**Марка Ваўчок** (укр., рус. Марко Вовчок; сапр. Марыя Вілінская; у замужжы Маркевіч, Лобач-Жучэнка; 1833–1907) – украінская і руская пісьменніца, перакладчыца (мал. 11). Прадстаўлена ў беларускай даведачнай літаратуры[42], але без выхаду на яе пасрэдніцкую ролю ў з'яўленні адной з найважнейшых ідэалагем беларускага грамадска-культурнага жыцця.



Мал. 11. Марка Ваўчок (Марыя Вілінская)

Вядомасць «украінскай Жорж Санд» прынеслі першыя зборнікі малой прозы: «Народні оповідання» (1857) і «Рассказы из народного русского быта» (1859). Яны ж забяспечылі арганічнае ўваходжанне пісьменніка Маркі Ваўчка ў расійскія ліберальна-народніцкае і рэвалюцыйна-дэмакратычнае колы, якім імпанавалі антыпрыгонніцкія настроі аўтара, пастаноўка і распрацоўка ім новых тэм.

Празаічныя творы, якія ўвайшлі ў другі зборнік М. Ваўчка, паспрыялі замацаванню за аўтарам рэнамэ абаронцы сацыяльных правоў жанчыны – новай тэмы і для рускай, і для ўкраінскай літаратуры, актуальнай для еўрапейскіх грамадскіх памкненняў таго часу: «Надёжа», «Маша», «Катерина», «Саша», «Купеческая дочка», «Игрушечка».

Публікацыі М. Дабралюбава адыгралі ў многім лёсавызначальную, установачную ролю ва ўспрыманні творчасці Маркі Ваўчка

[42]Чабаненка В. А. Ваўчок Марка // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т.; рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. Мінск: БелЭн, 1997. Т. 4. С. 46.

сучаснікамі, а потым і гісторыкамі літаратуры. Пісьменніца хутка была прынята за сваю ў асяроддзі рускай, замежнай інтэлігенцыі, а яе творы шырока перакладаліся на заходнееўрапейскія і славянскія мовы.

Мікалай Дабралюбаў размову пра апавяданні М. Ваўчка пашырыў кантэкстуальна, пры гэтым было істотна пашыранае і праблемнае поле артыкула. Для большай фактаграфічнасці дазволім сабе ўзнавіць мікракантэкст крылатай фразы русскага пісьменніка дэмакратычнага крыла сказанай ім на адрас беларусаў:

«*Славянское племя было вызываемо на сцену только в разговорах уже весьма выспреннего свойства, и то преимущественно людьми, любящими толковать о гниении Европы. Что же касается до общепринятых толков, то в них великорусский крестьянин явно отделялся даже от малорусских и белорусских своих собратий.*

*Относительно белорусского крестьянина дело давно решенное: забит окончательно, так что даже лишился употребления человеческих способностей. Не знаем, в какой степени ложно это мнение, потому что не изучали специально белорусского края; но поверить ему, разумеется, не можем. Целый край так вот взяли да и забили, – как бы не так! Это так же, как итальянцев забили, расслабили, лишили любви к родине и к свободе!.. Посмотрите-ка теперь на них… Во всяком случае, вопрос о характеристике белоруссов должен скоро быть разъяснен трудами местных писателей.* ***[Посмотрим, что еще скажут сами белорусы].*** *Кстати – мы уже слышали, что с будущего года предположено издание “Белорусского вестника”, редакцию которого принимает на себя некто г. Акрейц, человек, на усердие и благородство направления которого можно надеяться*»[43].

Вылучаная намі фраза ўзноўлена паводле першапублікацыі артыкула М. Дабралюбава ў часопісе «Современник» (1860, № 9), у якой адсутнічалі чатыры папярэднія сказы, пачынаючы ад слоў «*Целый край…*». У асноўным корпусе тэксту артыкула, зафіксаваным у Поўным зборы твораў М. Дабралюбава ў дзевяці тамах (1963; т. 6, с. 227), гэты сказ не прыводзіцца, згадваецца толькі ў

[43]Добролюбов Н. А. Собрание сочинений: в 3 т. Москва: Худож. лит., 1987. Т. 3. С. 199.

каментарыях (с. 527). У апошнім Зборы твораў пісьменніка ў трох тамах, на які мы спасылаемся, ён адсутнічае і ў тэксце артыкула, і ў каментарыях[44].

Фрагментарная ўзгадка беларусаў М. Дабралюбавым, зробленая культавай ў нацыянальным кантэксце, ішла ад разваг пра творчасць канкрэтнага аўтара (Маркі Ваўчка), лёсы народаў Расійскай імперыі і Еўропы. Пры сённяшнім прачытанні працы М. Дабралюбава 1860 г. этнатэрытарыяльнае вызначэнне паняцця «Белая Русь» патрабуе папраўкі на час; тут мы абмяжуемся цататай з працы аўтарытэтнага вучонага: «…навуковую цікавасць і да паходжання тэрміна “Белая Русь”, і да вызначэння тэрыторыі, якую ён акрэсліваў у розныя перыяды, праявілі рускія гісторыкі і лінгвісты ў канцы XIX – першай палове XX ст.»[45] (А. Грыцкевіч).

На мяжы XX–XXI стст. сітуацыю пераходнасці, агульнай пераацэнкі мінуўшчыны найбольш відавочна, «матэрыяльна» адчулі на сабе літаратурныя музеі, для якіх безумоўная класічнасць, міфалагізаваная культавасць пісьменніка раней гарантавала дзяржаўную падтрымку. Наведванне такой культурна-асветніцкай установы было ідэалагічна важным турыстычным маршрутам, ледзь не абавязковым рытуалам для шырокіх колаў патрыятычнай грамадскасці. Прынамсі, такім было жыццё Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея М. Дабралюбава ў Ніжнім Ноўгарадзе.

За апошнія дзесяцігоддзі калектыў установы істотна змяніў акцэнты бачання жыцця і творчасці пісьменніка, што адлюстравалася і ў зместавым напаўненні экскурсій, і ў шэрагу культурна-асветніцкіх праектаў: на першы план выйшлі традыцыйныя каштоўнасці святарскай сям’і, у якой выхоўваўся М. Дабралюбаў, а таксама інтэлігентнасць, падзвіжніцтва, шматгранная рэалізацыя асобы і інш. Заўважны акцэнт зроблены на рабоце музея з моладдзю ў рэчышчы адраджэння праваслаўных сямейных традыцый і грамадзянска-патрыятычнага выхавання. У сённяшнім пераліку тэматычных экскурсій значацца наступныя: «М. А. Дабралюбаў – педагог», «Сямейныя традыцыі і праваслаўныя святы ў доме сям’і Дабралюбавых», «Пасхальны візіт да Дабралюбавых», «Візіт на

[44]Тамсама. С. 199.

[45]Грыцкевіч А. Пра Белую Русь // Імя тваё *Белая Русь*. Мінск: Полымя, 1991. С. 4.

Раство ў дом святара Дабралюбава», «Старадаўнія гульні, абрады, забаўкі» і інш.

Адным з міжнародных кірункаў дзейнасці ніжагародскага музея апошняга часу стала супрацоўніцтва з літаратурнымі музеямі і адукацыйнымі ўстановамі Мінска, якое значна стымулюе працэсы новага прачытання культурнай спадчыны, знаёмства з рознымі алгарытмамі постсавецкага выжывання і сённяшняй працы з аўдыторыяй. На міжнародным круглым стале «Роля літаратурных музеяў у развіцці адукацыйнай прасторы», які адбыўся ў Літаратурным музеі М. Багдановіча 26 верасня 2013 г., Л. Ю. Маторына, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея М. А. Дабралюбава, і Г. А. Дзмітрыеўская, намеснік дырэктара па навуковай рабоце, прадставілі змястоўныя даклады: «Літаратурна-мемарыяльны музей М. А. Дабралюбава і грамадства: шляхі ўзаемадзеяння» і «Праваслаўныя асветніцкія праекты Музея М. А. Дабралюбава як інструмент узмацнення аўтарытэту літаратурнага музея ў сучаснай адукацыйнай прасторы». У шэрагу прадстаўнікоў беларускага боку аўтар гэтых радкоў выступіў з дакладам «Універсітэт і музей: мадэлі супрацоўніцтва».

Змена каштоўнасных установак у практыцы расійскага музея не стала аўтаматычнай заменай традыцыйных акцэнтаў, але (як часта бывае ў пераходны перыяд) спарадзіла ці актуалізавала пэўны кагнітыўны дысананс. Яскравым прыкладам гэтага з’яўляюцца некаторыя развагі Галіны Дзмітрыеўскай, супрацоўніка ніжагародскага музея М. Дабралюбава, заслужанага дзеяча культуры Расійскай Федэрацыі. Так, у адным са сваіх назіранняў даследчыца адштурхнулася ад хрэстаматыйнага верша М. Някрасава «Памяти Добролюбова» (1864), заключныя радкі якога былі ў свой час былі ўлюбёнай цытатай і частым эпіграфам да творчых прац, прысвечаных асобам – змагарам за лепшую будучыню чалавецтва:

*Природа-мать! Когда б таких людей*
*Ты иногда не посылала миру,*
*Заглохла б нива жизни…*

Зварот да радкоў верша стаў падставай для ўзнаўлення гісторыі, актуалізацыі жыццёвых, па-свойму абаяльных штрыхоў да некананічнага партрэта М. Дабралюбава: «Калі мы звернемся

Украінскія навукоўцы на эміграцыі ў асобе Дзмітра Дарашэнкі, Дзмітра Чыжэўскага і іншых спарадычна звярталіся да беларускай тэматыкі, мастацкай літаратуры, творчасці М. Багдановіча ў прыватнасці. Так, Дзмітро Чыжэўскі (укр. Дмитро Чижевський; 1894–1977), аўтар прац «Параўнальны нарыс славянскіх літаратур» (1952), «Пра рамантызм у славянскіх літаратурах» (1957) і інш., сярод беларускіх паэтаў пачатку XX ст. вылучаў найперш М. Багдановіча як фігуру роўнавялікую ў кагорце найлепшых прадстаўнікоў славянскага пісьменства гэтага часу. У «Нарысе...» характарызаваў паэта як сімваліста: «Мадэрная беларуская паэзія пачынаецца вельмі таленавітым паэтам Максімам Багдановічам (1892–1917), які памёр маладым. Быў пад моцным уплывам А. Блока, але не змог задушыць моцную цягу да рэалізму». У «Параўнальнай гісторыі славянскіх літаратур» (1968) пісаў пра М. Багдановіча як прадстаўніка мадэрнізму: «Мадэрнізм у беларускай літаратуры рэпрэзентаваў М. Багдановіч, што знаходзіўся пад моцным уплывам расійскага сімвалізму (перш за ўсё ў асобе А. Блока)»[76].

Артыкулу аўтара гэтых радкоў пра Д. Чыжэўскага, змешчаным у энцыклапедыі «Максім Багдановіч», у Беларусі, па сутнасці, папярэднічала толькі адна публікацыі[77].

«**Рукаючыся**» **з класікай.** Адзін з рускіх даследчыкаў у імкненні наблізіць мінулае да сучаснасці прапанаваў сваё «вымярэнне» часу – поціск рукі. «Я цісну руку ўнуку Льва Талстога, – прыкладна так разважае ён, – праз бацьку гэта прамы нашчадак пісьменніка. Значыць, мяне падзяляюць ад класіка рускай літаратуры ўсяго толькі два поціскі рукі».

Творчасць А. Алеся трывала валодае ўвагай украінскіх даследчыкаў. Аўтару гэтых радкоў пашчасціла пазнаёміцца ў час навуковай стажыроўкі ў Браціславе ў 2005 г. з акадэмікам Міколам Неўрлі, адным з найбольш аўтарытэтных славацкіх даследчыкаў, выпускніком Карлава ўніверсітэта, які асабіста ведаў А. Алеся. Такім чынам здзейсніўся непасрэдны, «фізічны» дотык да ўкраінскай класікі праз поціск рукі патрыярха славацкай украі-

[76]Чижевський Д. І. Порівняльна історія слов'янських літератур: у 2 кн. Київ, 2005. С. 220.

[77]Сокалава Фр. Дзмітро Чыжэўскі пра беларускую літаратуру (эпізод з жыцця вялікага ўкраінскага славіста) // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. – Мінск, 2007. С. 305–315.

ністыкі, што дазволіла не прапанаваць чытачам рэфератыўны погляд на творчасць пісьменніка, а даць некалькі свежых, жывых штрыхоў да яго жыццяпісу.

Акадэмік Мікола Неврлі (Mikuláš Nevrlý, 1916 г. н.) – украінскі, а таксама чэшскі і славацкі літаратуразнаўца-славіст. Большасць прац (каля пяцісот найменняў) прысвяціў даследаванню ўкраінскай літаратуры і яе сувязей з іншымі славянскімі літаратурамі, галоўным чынам з чэшскай і славацкай. Аўтар грунтоўнай манаграфіі «Аляксандр Алесь. Жыццё і творчасць» (1994), якая па прызнанні літаратурнай крытыкі «паядноўвае вычарпальнае валоданне матэрыялам з артыстычнасцю яго інтэрпрэтацыі, жывы асабісты ўспамін – са строгай дакументальнасцю, абагульненыя характарыстыкі Алесевай паэзіі – са скрупулёзным аналізам асаблівасцей версіфікацыі і інш. …Яго праца стала свайго роду падсумаваннем алесязнаўчых даследаванняў некалькіх пакаленняў літаратуразнаўцаў і дала адчувальны стымул новым даследаванням – сіламі навуковай моладзі»[78].

Мікола Неврлі быў знаёмы з Аляксандрам Алесем на працягу 4–5 апошніх гадоў жыцця пісьменніка. Знаёмства адбылося ў пражскай сталоўцы, якую студэнцтва жартаўліва называла «Ужас», бо апекавалася ёю Украінская жаночая суполка (УЖС): «*Алесь – чалавек ужо трохі пахілага веку – меў на сабе шэры касцюм, белую кашулю з цвёрдым каўняром і досыць акуратна завязаны гальштук. Уражваў высокаінтэлігентны, трохі прадаўгаваты, адухоўлены твар. Разумныя светла-карыя і ледзь кранутыя ўсмешкай вочы выяўлялі шчырасць і дабрыню. Мне міжволі здалося, што Алесева ўсмешка якаясьці горкая, прыдушаная. Але гэтае пачуццё было імгненным. Алесь час ад часу ўсміхаўся і далей вёў нязмушаную размову*»; «*…для тутэйшых украінцаў я “белы крук” – чалавек, які нядаўна прыехаў з іхняй бацькаўшчыны. Кожны хацеў пра яе як найбольш пачуць. А Алесь, як я потым заўважыў, з усіх наймацней. Ён пра ўсё распытваў, яго ўсё цікавіла: хто мае бацькі, якім чынам мы выехалі, калі апошні раз былі ва Украіне, як там цяпер, што я вывучаю, ці атрымліваю стыпендыю і ці не патрэбна мне дапамога. <…> Па просьбе Алеся я пачаў расказваць пра апошнія гады знаходжання ва Украіне, якую я разам з бацькамі пакінуў напры-*

[78] Дзюба І. Добрий друг, строгий поціновувач // Минуле й сучасне: збірник слов’янознавчих праць. Київ: Смолоскип, 2009. С. 7.

*канцы 1933 года. Гаварыў пра ўсё нядаўна перажытае, бачанае і чытае. Алесь уважліва слухаў... На якоесьці імгненне не вытрымаў – з вачэй пырснулі слёзы. Настала глыбокая цішыня. Мы з Андрэем прыгаломшана маўчалі...*

*Мы яшчэ доўга ўсе ўтрох сядзелі тады на Карлавай плошчы, гаварылі пра ўсё магчымае – пра пісьменнікаў Савецкай Украіны, пра Закарпацце, Галіччыну... І ўжо позна вечарам развіталіся, правёўшы Аляксандра Іванавіча на яго "панкрацкі" трамвай. Засталося нясцерпнае пачуццё, што мы тады гаварылі не толькі з найшчырэйшым, задушэўным чалавекам, але і з пакутным вандроўнікам, што так палымяна любіў сваю родную Украіну, перажываў за яе долю і за яе страту*»[79].

Паважаны акадэмік засведчыў, так бы мовіць, «фасадны» бок жыцця А. Алеся ў Чэхаславакіі, тое, што мог і хацеў бачыць малады чалавек, акрылены непасрэдным знаёмствам з класікам літаратуры. Не ўсё было так адназначна. Старэйшае пакаленне ўкраінскіх літаратараў у эміграцыі саступіла месца новай генерацыі – Пражскай школе ўкраінскай літаратуры. Алег Ольжыч, сын паэта, прытрымліваўся прынцыпова адрозных ад бацькавых поглядаў на сучасную творчасць. Алесь скрушна канстатаваў стан жыцця нацыянальнай эміграцыі:

*Вони зійшлися, небораки,*
*В ім'я найвищої мети,*
*Щоб всім єдиним фронтом йти,*
*І перегризлись, як собаки,*
*Пересварились, як коти,*
*І розповзлися знов, як раки*[80].

Сучаснікі засведчылі іншы бок жыцця паэта, старанна прыхаваны, з ягоным болем, матэрыяльнай нястачай і перажываннямі, сямейнымі клопатамі. З ліста Аксаны Лятурынскай да Людмілы Красоўскай ад 03.02.1940 г.: «*Баюся распісваць пра наша жыццё – неяк корпаемся. З п.[ані] Алесь зноў бяда: новы ўдар, ляжыць. Не магла ані размаўляць. Холадна і непрыстойна ў іх, як у канюш-*

---

[79]Неврлий М. Минуле й сучасне: збірник слов'янознавчих праць. Київ: Смолоскип, 2009. С. 664–665.

[80]Череватенко Л. «Я камінь з Божої праці // Незнаному Воякові. Київ, 1994. С. 356.

*ні, а прыбіранне так на хвілю ім нічога не дапаможа. Трэба пастаянна камусьці там даглядаць, а яна памочніцу не хоча. Хутаецца і ў дзень і ў ноч у той žурап, што яшчэ Вераніка купіла. Цяпер ёй трохі лепш і Алесь ужо адлучаецца з дому. Патрэбныя ім змены радыкальная ва ўсім*»[81].

Адрасант цытаванага ліста, Людміла Краскоўская[82], выпускніца Карлава ўніверсітэта, з беларускімі каранямі, захавала архіў Аляксандра Алеся і ў 1993 г. перадала яго АН Украіны.

**Аляксандр Алесь.** Аляксандр Алесь адным з першых паклаў пачатак украінска-беларускаму культурнаму дыялогу ў XX ст. З беларускай мовы ён пераклаў верш «Ліпы» (Рідний край, 1907, № 5, с. 10). Аўтарства арыгінала ў публікацыі не пазначана. Адным з першых звярнуў увагу на гэты пераклад В. Чабаненка.

Можна меркаваць, што з'яўленню гэтага перакладу аб'ектыўна спрыяла традыцыйная цікавасць украінскай грамадскасці да гісторыі і культуры братняга народа. Магчыма, некаторым стымулам перакладчыцкай практыкі было і тое, што жонка пісьменніка, Вера Антонаўна Свадкоўская, мела беларускія карані.

У эміграцкі перыяд А. Алесь падтрымліваў сувязі з пражскімі беларусамі, меў прыяцельскія стасункі з М. Забэйдам-Суміцкім. Беларускае прадстаўніцтва ў Чэхаславакіі вітала 40-гадовы юбілей літаратурнай дзейнасці пісьменніка, праводзіла яго ў апошні шлях.

Беларускі парытэт творчага дыялогу на пачатку XX ст. падтрымаў М. Багдановіч, які пераклаў на беларускую мову вершы А. Алеся «Пекло, здавалось, було в ту годину…» («Пекла было тут утую часіну…») і «Айстри» («Астры»)[83].

Украінская паэзія ў зборніку «Вянок» М. Багдановіча прадстаўлена трыма аўтарамі: А. Крымскі, М. Чарняўскі і А. Алесь. Пры гэтым творчасць Алеся прэзентуецца двума названымі вершамі (рэшта аўтараў – па адным), а ў зместавым пераліку «Астры» ўвогуле трымаюцца асобна, усе астатнія назвы не прыведзены: «*С Крымскаго*», «*С Чэрняўскаго*», «*З Олеся*».

[81] Ліст Аксаны Лятурынскай да Людмілы Краскоўскай ад 03.02.1940 г. (на ўкраінскай мове). Захоўваецца ў аўтара манаграфіі.

[82] Трус, М. Берагіня гістарычнай памяці: старонкі жыцця Людмілы Краскоўскай // Роднае слова. 2009. № 4. С. 18–21.

[83] Богдановіч, М. Вянок. Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1913. С. 102–103.

Верш «Астры» займае ў творчасці А. Алеся значнае месца. Ва ўкраінскім літаратуразнаўстве яго інтэрпрэтавалі як алегарычнае апісанне рэвалюцыі 1905–1907 гг. і паслярэвалюцыйнай сітуацыі. На музыку верш пакладзены ўкраінскім кампазітарам М. Лысенкам і беларускім (Багдановічаў пераклад) А. Туранковым.

Дзеля падтрымання рэнамэ аўтарытэту першакрыніцы прывядзем тэкст твора паводле «Вянка».

**АСТРЫ**

*У поўначы астры ў саду расцьвілі,*
*Убраліся ў росы, вянкі заплялі,*
*І сталі ружоваго ранку чэкаць,*
*Ў вясёлку колёраў жыцьцё убіраць.*
*І марылі астры ў цудоўнаму сьне*
*Аб зёлках шаўковых, аб соўнечным дне,*
*І казачны край падыймаўся з іх сна,*
*Дзе кветы не вянуць, дзе вечна весна…*
*Так марылі ў шэрую восень яны,*
*Так марылі астры і ждалі вясны.*
*А ранак спаткаў іх халодным дажджом,*
*І вецер стагнаў у саду за кустом.*
*І ўбачылі астры, што ўкруг іх – турма,*
*Убачылі астры, што жыць ім – дарма.*
*І ўмерлі яны. Але тут як на сьмех*
*Паднялося сонца, цалуючы ўсіх*[84].

Дазволім сабе выказаць меркаванне, што ў гэтым выпадку меў месца некаторы дысананс аўтарскай творчасці і рэдактарскай праўкі. Як вядома, вершы паэта, узгадаванага на берагах Волгі, часта «грашылі» русізмамі. У той жа час агульнавядомая і скрупулёзная версіфікацыйная тэхніка М. Багдановіча. Адзін з прыкладаў: хутчэй за ўсё, у першапачатковым варыянце была рыфма «*сьмех – ўсех*», якая знікла пасля некаторага «падбеларушвання» тэксту: «*сьмех – ўсіх*».

**Вершы лебядзінай вернасці.** Пры падрыхтоўцы да друку гэтага матэрыялу мы палічылі неабходным звярнуцца да творчасці

[84]Богдановіч М. Вянок. Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1913. С. 103.

А. Алеся, асабліва аднаго твора, які вельмі блізка пераклікаецца тэматычна, стылёва, трымаецца аднаго праблемнага поля са «Страцім-лебедзем» М. Багдановіча. Да таго ж па часе напісання верш (іншыя жанравыя вызначэнні – паэма, балада) аўтара «Вянка» і «Лебедзь» А. Алеся падзяляе не больш за паўгода.

«Страцім-лебедзь» Максіма Багдановіча і «Лебедзь» Аляксандра Алеся створаны ў пераломныя перыяды жыцця і творчасці аўтараў. Для беларускага паэта гэта было інтуітыўнае развітанне з жыццём, для ўкраінскага – прадчуванне хуткага развітання з Радзімай.

Аўтар гэтых радкоў узяў сабе за правіла: пры распрацоўцы абмінутых беларускім літаратуразнаўствам гістарычных слаёў нацыянальнага і замежнага прыгожага пісьменства імкнуцца ўзнавіць літаратурныя рэаліі комплексна; спалучаць у публікацыях біяграфічныя звесткі, вызначэнне праблемнага поля даследавання з падачай некаторых узораў творчасці аўтара ва ўласным перакладзе. Як нам бачыцца, такі шлях найбольш дзейсны пры запаўненні лакун у парадыгме знаёмства з гістарычным мінулым, зафіксаваным у імёнах, падзеях, творах, фактах культурных узаемадачыненняў. Такім быў і апрабаваны шлях прадстаўленасці жыццятворчасці Аляксандра Алеся на старонках навуковага і метадычнага часопіса «Роднае слова» (2011, № 5), дзе былі надрукаваны некаторыя ўзоры паэзіі ўкраінскага аўтара дакастрычніцкага часу – душэўнай, спеўнай, мінорнай.

Аляксандр АЛЕСЬ

## «З ЖУРБОЮ РАДАСЦЬ АБНЯЛАСЯ…»

* * *

Фіялкі сляпы прадае:  
«Вазьміце за хлеба кавалак! »  
Сардэчныя раны мае  
Не гояцца пахам фіялак.  
Людская таропкая рань…  
Не кінулі хлеба сляпому…  
Душы маёй квецень, завянь:  
Фіялкі не трэба нікому!..

* * *

Ў небе жаўрукі віюцца,
Заліваюцца, смяюцца,
Граюць, звоняць цэлы дзень,
І шчабечуць, і спяваюць,
І з вясною свет вітаюць.
Адступае шэры цень.
Раптам да зямлі прыпалі,
Штось шапнулі ёй, сказалі.
І прапалі, не былі…
Каб убачыць тое дзіва,
Выглядаюць палахліва
Сінь-пралесачкі з зямлі.

* * *

З журбою радасць абнялася…
Як жэмчуг, коціцца мой смех,
З дзівосным ранкам ноч зліласся.
І не разняць мне іх, на грэх.
Ў абдымках з радасцю журба.
Адна ўзляціць, другая спыніць…
Ідзе між імі барацьба,
А хто дужэй – не ведаю…
*1906*

## ЛЕБЕДЗЬ

На балоце спала стая лебядзіная.
Неба ноч чарніла і стаяў туман…
Спала ўсё наўкола, толькі лебедзь белы
Ціха-ціха сходзіў кроўю сваіх ран.
І спяваў ён песню, песню лебядзіную,
Пра азёры сінія, пра вясны пасеў,
Пра чужое сонца, пра вятры і хмары,
І далёка нёсся лебядзіны спеў.
Клікаў ён прачнуцца і расправіць крылы,
Пёркі на паветры абсушыць свае.
Ціха-мірна спала стая лебядзіная,
І дарэмна лебедзь клікаў-зваў яе.

І калі убачыў, што браты не чуюць,
Што навек стрыножыў, прыкаваў іх стаў, –
Закрычаў у муках, кінуўся на камень,
Зраніў сабе грудзі, крылы паламаў.
Неба ноч чарніла, не яснела ўранні,
Ўвечары далёкі захад не палаў…
Ціха стая спала, ціха плакаў лебедзь,
Ціха кроўю сходзіў, ціха паміраў.
А калі уранні зашумелі хвалі,
Громы затрубілі сурмаў галасней,
Вырвалася сонца, асляпіла вочы,
Стала ўсё наўкола золата ясней.
Акрыяла стая, закрычала белая:
«Тут згніло паветра, тут вада згніла! –
А над намі сонца, зоры, неба, воля!» –
І драмаць ганебна болей не змагла.
Зашумела стая пенаю на хвалях.
Зашумела ветрам… крылы! І – бывай…
І ляцела лёгка, быццам хмара белая,
І крычала з неба пра шчаслівы край.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ціха, ціха сходзіў белы лебедзь кроўю,
Заціскаў ён раны, крылы уздымаў…
І ў знямозе біўся… Стая лебядзіная!
І ніхто у небе брата не згадаў.
*2.IV.1917*

Пераклад з украінскай мовы
Міколы Труса.

## 2.6. БАГДАНОВІЧАЎСКІЯ ТРАДЫЦЫІ: ВЕРШ «ЗІМОЮ» А. КРЫМСКАГА Ў ПЕРАКЛАДЗЕ У. ЖЫЛКІ

У гісторыю рускай і ўкраінскай навукі і мастацкай літаратуры Агафангел (укр. Агатангел) Яфімавіч (укр. Юхімавіч) Крымскі (1871–1942) увайшоў як выдатны ўсходазнаўца (арабіст, іраніст,

цюрколаг), славіст, гісторык, фальклярыст, а таксама пісьменнік, перакладчык[85] (мал. 17). Доўгі час яго творчая спадчына – вершы, апавяданні, раман «Андрэй Лагоўскі»[86] – знаходзілася ў цені навуковай дзейнасці ці інтэрпрэтавалася аднабакова, з аглядкай на ідэалагічныя догмы і патрабаванні, чым, уласна, у большасці характарызуюцца даследаванні 1970–1980 гг. – першай хвалі «вяртання» А. Крымскага. Пачатак другой хвалі прыйшоўся на 1990-я гг. У гэты час адраджаецца ўкраінскае ўсходазнаўства, у 1991 г. створаны Інстытут усходазнаўства імя А. Крымскага НАН Украіны.



Мал. 17. Агафангел Крымскі

Тым не менш на пачатку XXI ст. украінскім даследчыкам даводзілася скрушна канстатаваць: «…А. Крымскі належыць да найменш прачытаных украінскіх пісьменнікаў, чыя творчасць

[85]Гринченко Б. Крымский как украинский писатель // Киевская старина. 1903. С. 115–136; Зленко Г. Життя і книги Ю. Кримського // Вітчизна. 1979. № 7; Гурницкий К. И. А. Е. Крымский. Москва, 1980; Чабаненка В. А. Крымскі Агафангел Яфімавіч // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Мінск: БелЭн, 1999. Т. 8. С. 514; Сюндюков И. Посвятил себя Украине. Жизнь академика Агатангела Крымского: подвиг ученого и гражданина // День. 09.11.2007. № 194; Биобиблиографический словарь востоковедов – жертв политического террора в советский период (1917–1991). Рэжым доступу: http://memory.pvost.org/pages/krimskij.html. Дата доступу: 27.05.2009.

[86]Кримський А. Андрій Лаговський. Роман. Львів, 1905.

недастаткова разгледжана ў гісторыі ўкраінскай літаратуры…»[87]. Выключэннем сталі працы вядомай даследчыцы літаратуры Саламіі Паўлычкі[88], асабліва яе апошняя кніга[89], дзе навуковая і літаратурная спадчына пісьменніка разгледжана ў шырокім кантэксце з акцэнтамі на наступных аспектах: «…біяграфія і псіхалогія творчай асабовасці, украінскі літаратурны працэс канца XIX – пачатку XX ст. і яго мадэрнісцкія тэндэнцыі, еўрапейскае і расійскае ўсходазнаўства на мяжы XIX і XX ст.»[90].

Зробленае А. Крымскім уражвае. Адораны ад прыроды выключнай памяццю, ён ведаў больш за 30 моў, быў выдатным арганізатарам. Менавіта на ім, неадменным сакратары, трымалася ў першае дзесяцігоддзе свайго існавання Украінская акадэмія навук, якую супрацоўнікі паміж сабой часта называлі «крымскай». Здзіўляе, што так многа ў навуцы, літаратуры змог адужаць чалавек, што быў фізічна вельмі нямоглым, хваравітым, амаль невідушчым, бо сапсаваў зрок пастаянным чытаннем.

Агафангел Крымскі добра разбіраўся ў мастацтве, ведаў еўрапейскую літаратуру, асабліва французскую, вельмі любіў музыку. Цікавы факт: вучоны першым заўважыў талент маладога спевака з хору Мікалая Садоўскага, прадказаў яму вялікую будучыню. Так і сталася, бо тым перспектыўным харыстам быў пасля сусветна вядомы тэнар Леанід Собінаў.

Шчырыя, сяброўскія адносіны ўсталяваліся ў А. Крымскага з многімі дзеячамі ўкраінскай культуры. Ён перапісваўся з Іванам Франко, Лесяй Украінкай, Барысам Грынчанкам. І. Франко выдаваў у Львове (тагачасная Аўстра-Венгрыя) літаратурныя допісы Крымскага, быў адным з першых крытыкаў яго творчасці. З глыбокай пашанай ставіліся да вучонага калегі па навуковай дзейнасці Уладзімір Вярнадскі і Сяргей Яфрэмаў. З павагай і хваляваннем перад знаўцам шматлікіх моў і сусветнай літаратуры звярталася да свайго сталага адрасата Леся Украінка: «Дарагі таварышу, Ваш

---

[87]Маленька Т. Агатангел Кримський: портрет на тлі епох // Слово і час. 2001. № 1. С. 12.

[88]Павличко С. Дискурс модернізму в українській літературі. 2-ге вид., перерод. і доп. Київ: Либідь, 1999. 447 с.

[89]Павличко С. Націоналізм, сексуальність, орієнталізм: складний світ Агатангела Кримського. Київ, 2000. 322 с.

[90]Маленька Т. Агатангел Кримський: портрет на тлі епох // Слово і час. 2001. № 1. С. 11.

ліст поўны такой прыхільнасці, якой я не заслужыла зусім… Няўжо Вам маглі прыпасці да сэрца мае вершы, калі Вам адкрытае цэлае мора сусветнай паэзіі…»[91]. Але не здагадвалася паэтка пра тое сапраўднае трапяткое пачуццё, якое перапаўняла сэрца яе «таварыша» па перапісцы. У асабістым жыцці А. Крымскі быў самотнікам, праз усё жыццё ён пранёс сваё таемнае, безнадзейнае каханне. Гэтую глыбока асабістую таямніцу парушыў Паўло Тычына, прачытаўшы на шасцідзесяцігадовым юбілеі пісьменніка і вучонага прысвечаны яму верш, дзе згадвалася «вічно мрійна Леся Українка».

Пры аглядзе прыярытэтных тэм і аўтараў беларускага перакладу пачатку XX ст. узнікае заканамернае пытанне: чаму з немалой кагорты ўкраінскіх паэтаў XIX – пачатку XX ст. Максім Багдановіч, вядомы сваім бездакорным мастацкім густам, веданнем сусветнай літаратуры, вылучыў менавіта Агафангела Крымскага, у сваёй перакладчыцкай дзейнасці прадставіў яго поруч з прызнанымі класікамі ўкраінскай літаратуры Тарасам Шаўчэнкам, Іванам Франко, Аляксандрам Алесем (Олесем)? І да таго ж такая вынікowая ўвага песняра чыстай красы падмацавана двухмоўнымі перакладамі, а пераклад на беларускую мову ўвайшоў у зборнік «Вянок», дэталёва прадуманы, структурна, зместава, канцэптуальна выверaны. У Поўным зборы твораў М. Багдановіча змешчаны пераклады паэтычных мініяцюр А. Крымскага «Пальмы гордые и лавры» («Горді пальми. Думні лаври…» з цыкла «Самотою на чужині», 1898), «Теплый гром. Цветя, черешня…» («Теплий грім… Цвітуча вішня…» з цыкла «Передсмертні мелодії», 1900), а таксама мініяцюры «Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну…» («Сліз!.. Сліз!..» з цыкла «В неволі», 1903).

Адказ на гэтыя і іншыя пытанні можа падказаць і біяграфія А. Крымскага, і не скаваны ідэалагічнымі заслонамі літаратуразнаўчы аналіз – тое, што ў самой Украіне толькі ў апошнія два дзесяцігоддзі набыло ўстойлівую пульсацыю. Мяркуем, што публікацыя верша «Зімою» А. Крымскага ў невядомым перакладзе У. Жылкі (пра што гаворка пойдзе далей) – гэта невялікі беларускі ўнёсак у спасціжэнне сутнасці прыцягальнай моцы аднаго з пачынальнікаў новай украінскай літаратуры (мал. 18).

[91]Загоруй Я. Неизменный секретарь // Аспекты. 2007. № 3 (350). 19–25 янв. Рэжым доступу: http://news2000.org.ua/print?a=/paper/10803. Дата доступу: 14.05.2009.



Зімою А. Крымскі

У. Ж.

Мал. 18. Верш А. Крымскага «Зімою» ў перакладзе У. Жылкі. Аўтограф. 1920-я гг. Са збору М. Труса

**З гісторыі роду Крымскіх.** Паводле дакументальна засведчанных крыніц, род Крымскіх бярэ пачатак ад крымскага мулы, які ў XVII ст. пакінуў неспакойную татарскую сталіцу Бахчысарай і падаўся ў Вялікае княства Літоўскае, куды яшчэ ў часы Вітаўта запрашаліся на вайсковую службу з гарантаваннем прывілееў татарскія дружыннікі. Мула атабарыўся ў Мсціслаўлі, прыняў хрысціянства і каля 1698 г. пабраўся шлюбам з мясцовай дзяўчынай. Гэты мсціслаўскі татарска-беларускі род даў два адгалінаванні: Куторгі і Крымскія. З першага адгалінавання найбольш вядомыя два браты, яны сталі прафесарамі Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта: заолаг Сцяпан Сямёнавіч Куторга (1805–1861) і спецыяліст па антычнай гісторыі Міхаіл Сямёнавіч Куторга (1809–1886). Род Крымскіх у навуцы і літаратуры ў XX ст. праславіў Агафангел Яфімавіч.

На пачатку 1870-х гг. Яфім Сцяпанавіч Крымскі, настаўнік гісторыі і геаграфіі, прываблены магчымасцю атрымаць лепшую працу, разам са сваёй жонкай Адэлаідай Мацвееўнай (у дзявоцтве Сідаровіч) перабраўся з Беларусі на Валынь, ва Уладзімір-Валынскі, дзе 3 (15) студзеня 1871 г. у іх нарадзіўся сын Агафангел.

Біёграфы вучонага сыходзяцца на думцы, што покліч крыві, хутчэй за ўсё, і прадвызначыў яго навуковыя прыярытэты. Адносна свайго радаводу сам А. Крымскі пісаў у адной з аўтабіяграфій: «*А з роду я зусім не ўкраінец. Бацька мой – беларус па паходжанні, расіянін па выхаванні; маці – полька*»[92]. У адным з лістоў да Івана Франко ён больш канкрэтна выказаўся пра нацыянальную прыналежнасць маці – «*літоўская полька*».

Праз некалькі месяцаў пасля нараджэння сына Яфім Крымскі перабраўся на працу ў Звянігарадку на поўдзень ад Кіева. З гэтым пераездам сям'я стала звязала жыццё з Украінай.

**З жыццяпісу А. Крымскага.** Фарміраванне ўкраінафільскіх поглядаў А. Крымскага звязана з гадамі вучобы ў калегіі Паўла Галагана (1885–1889). Вялікі ўплыў на будучага вучонага аказалі выдатныя дзеячы ўкраінскай культуры Павел Жытэцкі і Міхайла Драгаманаў. На гэты час прыпадае і актыўнае вывучэнне замежных моў: да пераліку асвоеных яшчэ ў гімназіі лацінскай, польскай, нямецкай, англійскай дадаліся італьянская, грэчаская і турэцкая.

Лёсавызначальнымі для навуковай дзейнасці А. Крымскага сталі ступені атрымання ім вышэйшай адукацыі. Выпускнік Лазараўскага інстытута ўсходніх моў у Маскве (1892), гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта (1896), ён быў пакінуты на кафедрах абедзвюх вышэйшых навучальных устаноў для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. У 1896–1898 гг. удасканальваў веды па арабскай мове ў Ліване і Сірыі. Прафесар – у 29 гадоў. У гэтым званні А. Крымскі працаваў на кафедры арабскай мовы і гісторыі мусульманскага Усходу Лазараўскага інстытута з 1900 да 1918 г.

Працы А. Крымскага гэтага часу сталі класікай усходазнаўства, настольнымі кнігамі вучоных-арыенталістаў: «Нарыс развіцця суфізму» (1895), «Мусульманства і яго будучнасць» (1899), «Лекцыі па Каране: Суры старэйшага перыяду» (1902), «Гісторыя Персіі, яе літаратуры і дэрвішскай тэасофіі» (1903), «Гісторыя Турцыі і яе літаратуры: ад росквіту да пачатку заняпаду» (1910) і інш. Вучоны – адзін з першых рускіх даследчыкаў, якія пачалі разглядаць гісторыю Усходу як частку сусветнай гісторыі.

---

[92]Загоруй, Я. Неизменный секретарь // Аспекты. 2007. № 3 (350). 19–25 янв. Рэжым доступу: http://news2000.org.ua/print?a=/paper/10803. Дата доступу: 14.05.2009.

Яскравыя і трагічныя старонкі грамадскай і навуковай дзейнасці А. Крымскага звязаны са станаўленнем украінскай дзяржаўнасці і навукі: ён адзін з арганізатараў Украінскай акадэміі навук, яе сапраўдны член (з 1918 г.) і неадменны сакратар (да 1928 г.); узначальваў гісторыка-філалагічнае аддзяленне УАН (да 1929 г.); загадваў кафедрай Кіеўскага ўніверсітэта (1918–1941, з перапынкамі).

Агафангел Крымскі стаў заснавальнікам украінскага ўсходазнаўства. На ўкраінскай мове выйшлі яго кнігі «Гісторыя Персіі і яе пісьменства» (1923), «Гісторыя Турэччыны» (1924), «Хафіз і яго песні (каля 1300–1389) у яго роднай Персіі XIV ст. і ў новай Еўропе» (1924) і інш. Выданні вучонага-арыенталіста змяшчалі дзясяткі вершаў найлепшых паэтаў Усходу ў рускіх перакладах, а таксама ў перакладзе на ўкраінскую мову аўтара кніг.

Украінская акадэмія навук была фактычна разгромлена сталінскай рэпрэсіўнай машынай у канцы 1920-х гг. Ліквідавалі і ўсе ўсходазнаўчыя ўстановы, а таксама гісторыка-філалагічнае аддзяленне акадэміі. А. Крымскі, пазбаўлены ўсіх пастоў, з кляймом «буржуазнага нацыяналіста» восем год правёў у апале ў вельмі цяжкіх матэрыяльных умовах, перанёс сардэчны параксізм і амаль страціў зрок. Вопыт і міжнародны аўтарытэт вучонага аказаліся запатрабаванымі з пачаткам Другой сусветнай вайны і далучэннем Заходняй Украіны да СССР. У 1939 г. А. Крымскі адноўлены на ўсіх пасадах; з прапагандысцкімі мэтамі, як жывое сведчанне высокага ўзроўню ўкраінскай савецкай навукі, восенню таго ж года яго камандзіравалі ў Львоў.

Афіцыйнымі ўрачыстасцямі было адзначана 70-годдзе вучонага. У студзені 1941 г. А. Крымскі ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Але ні навуковыя заслугі, ні ордэн не ўратавалі ад арышту 20 ліпеня 1941 г. па сфальсіфікаванай справе «Спілки визволення України». Памёр Агафангел Крымскі 25 студзеня 1942 г. у бальніцы пры турме НКУС у Кустанаі (Казахстан). Месца яго пахавання невядома. Рэабілітаваны ў 1957 г.

**Літаратурная дзейнасць А. Крымскага.** Найбольш раннія творы А. Крымскага – апавяданні «Бацькоўскае права», «Першыя дэбюты аднаго радыкала», «Дык хто ж такі сапраўды вінен» – убачылі свет у 1890 г. Першыя крокі А. Крымскага на ніве літаратуры пазначаны арыгінальнасцю аўтарскага стылю, крытычным стаўленнем да рэалістычна-народніцкіх схем украінскай літаратуры

апошніх дзесяцігоддзяў XIX ст. Маладому пісьменніку імпанавала паэтыка еўрапейскага натуралізму, што адлюстравалася ў такіх яго творах, як «З жыцця істэрыкаў», «Матэрыялы для дыягназу». Паводле светапогляду А. Крымскі 1890-х гг. блізкі да містыцызму (апавяданні «Дзіўная прыгода», «Урыўкі з мемуараў аднаго старога грэшніка»). Засваенне здабыткаў сусветнай літаратуры выявілася ў перакладах заходнееўрапейскіх (Гётэ, Гейнэ, Байран), а таксама ўсходніх паэтаў, галоўным чынам персідскіх.

У адным са сваіх выданняў пазнейшага часу А. Крымскі ў якасці эпіграфа выкарыстаў словы Гётэ, што яскрава тлумачылі прычыну захопленасці перакладчыка паэзіяй Блізкага Усходу, якую ён цалкам падзяляў з класікам нямецкай літаратуры: «Кажуць, што персы з усіх сваіх паэтаў за пяць стагоддзяў прызналі дастойнымі толькі сямёра, а насамрэч і сярод іншых, забракаваных імі, многія будуць лепшымі за мяне»[93].

Творчасць А. Крымскага ў галіне паэзіі сабрана ў асноўным у паэтычным зборніку «Пальмавае голле» ў трох частках, выхад якіх расцягнуўся амаль на два дзесяцігоддзі (1903–1922). Большасць тэкстаў у гэтых кнігах склалі пераклады. М. Багдановіч мог пазнаёміцца толькі з першымі двума выданнямі, у распараджэнні У. Жылкі мог аказацца ўвесь паэтычны падрахунак творчасці ўкраінскага мастака слова.

Відавочная ўстаноўка на пераадоленне нацыянальнай замкнёнасці, адыход ад літаратурных стэрэатыпаў, засваенне мастацка-эстэтычнага вопыту сусветнай літаратуры, «непадобнасць» А. Крымскага давалі падставы для сцвярджэнняў: «Творчасць Крымскага выражае псіхаідэалогію рафінаванай украінскай інтэлігенцыі ў эпоху ранняга дэкадэнцтва ва ўкраінскай літаратуры»[94].

Ухвальную, разгорнутую характарыстыку літаратурнай дзейнасці пісьменніка даў класік украінскай літаратуры Іван Франко: «А. Крымскі – высокаарыгінальная з'ява ў нашай літаратуры. Ці піша ён чыста філалагічныя артыкулы, ці літаратурную крытыку, ці празаічныя апавяданні, ці вершы, усюды ён уносіць сваё ўласнае я ў такой ступені, як мала хто з нашых пісьменнікаў.

[93]Кримський А. Хафиз та його пісні // Збірник історично-філологічного відділу: Українська Академія Наук. № 9. Київ, 1924. 204 с.

[94]Биография.ру: биографическая энциклопедия. Рэжым доступу: http://www.biografija.ru/show_bio.aspx?id=70270. Дата доступу: 27.05.2009.

І гэта не з якогасьці прынцыповага суб'ектывізму, наадварот. Ён імкнецца быць як мага больш аб'ектыўным, праўдзівым, не страціць ані кропелькі той праўды, якая стаіць у яго перад душою, і пералівае яе на паперу з усімі яе часам зусім выпадковымі акцэсорыямі, да якіх, зразумела, у першую чаргу належаць асабістыя настроі і пачуцці»[95].

**Верш «Зімою» А. Крымскага: гісторыя, кантэкст, пераклад.** Як вядома, Уладзімір Жылка (мал. 19) бачыў сябе спадкаемцам традыцый, закладзеных Максімам Багдановічам. Важнае месца ў гэтай пераемнасці пісьменнік адводзіў перакладчыцкай дзейнасці. Як ужо было адзначана, пясняр чыстай красы вылучаў А. Крымскага сярод іншых украінскіх паэтаў. Але ці магчыма толькі пераемнасцю патлумачыць пакліканне да жыцця перакладу верша «Зімою»?



Мал. 19. Уладзімір Жылка.
1922 г. Са збору М. Труса

Думаецца, прычыну ўвагі да сваёй творчасці і М. Багдановіча, і У. Жылкі, самотных у жыцці паэтаў са слабым здароўем, у некаторай ступені патлумачыў сам А. Крымскі, які паслядоўна, у якасці прадмовы да кожнага выдання сваіх вершаў, нягледзячы на пярэчанні абачлівых выдаўцоў, змяшчаў наступныя словы: «…пускаю ў свет гэтую кніжку не для людзей фізічна здаровых, а толькі для

[95]Франко І. Твори: в 20 т.Київ, 1955. Т. 17. С. 293.

людзей трохі слабых, з надламанай жыццёвай сілай або нервамі, – для тых людзей, што ўмеюць і лёгка плакаць, і соладка сумаваць, і маліцца богу, і замілоўвацца. Кніжка мая – для тых людзей, што – з бязмежным, наіўным архіэгаізмам нядужага чалавека – марнуючы час, лежачы на ложку ў паўднёвым санаторыі, атрымліваюць больш уцехі і радасці ад весткі пра малады, свежы, кучаравы парастак на гімалайскай кедрыне-дэадары, чым з тэлеграмы пра зніжэнне кошту на соль. Кніжка мая – для тых нядужых і самотных людзей, што прыхільнага да іх чалавека або сям'ю могуць з наіўным эгаізмам палюбіць не менш, чым усё чалавецтва. Толькі такія чытачы (а іх ёсць вельмі многа) знойдуць у гэтай кніжцы родныя для сябе ноты»[96].

На перакладчыцкім (паэтычным і празаічным) рахунку У. Жылкі творы такіх замежных аўтараў, як А. Міцкевіч, І. Волькер, Б. Ясенскі, Г. Шылін, Г. Ібсен, Ш. Бадлер. Сярод іх важнае месца займаюць і ўкраінскія пісьменнікі: І. Франко, А. Алесь, Р. Эпік. А ад гэтай публікацыі ўкраінскі «вектар» творчых зацікаўленняў У. Жылкі папоўніцца яшчэ іменем А. Крымскага. На жаль, дасюль не выяўлены пераклад паэмы «Майсей» І. Франко, пра які У. Жылка ў 1924 г. пісаў з Чэхаславакіі ў адным з лістоў да А. Луцкевіча: «…маю да друку пераклад з Франка (з украінскага) паэмы «Майсей». Сама рэч высокавартая і для адраджэнцаў жыватрапечучая. І магчыма, што гэта самае каштоўнае з усяго таго, што з'явілася ў вершы пасля Шаўчэнка на Украіне. Вельмі рэкамендавалася б, здаецца мне, даць яе чытаць нашым землякам»[97].

Час вучобы У. Жылкі на філасофскім факультэце Карлава ўніверсітэта ў Празе (1923–1926) – гэта перыяд актыўнага творчага дыялогу, міжнацыянальных культурных кантактаў. Колькасна шматлікая ўкраінская эміграцыя ў Чэхаславакіі міжваеннага перыяду была прыцягальнай для беларускага студэнцтва праз шэраг прычын. Гэта датычылася і арганізацыйнай, фінансавай дапамогі, ды і кроўная еднасць, падабенства гістарычных шляхоў двух народаў, агульны лёс выгнанцаў адыгрывалі тут не апошнюю ролю. Для Уладзіміра Жылкі студэнцкі час стаў, бадай, самым лепшым перыядам у творчасці.

Дзякуючы актыўным кантактам з украінскім студэнцтвам, новай генерацыяй пісьменнікаў моўная стыхія братняга народа часта

---

[96]Кримський А. Твори: в 5 т. Київ, 1972–1974. Т. 1. С. 23–24.

[97]Жылка У. Выбраныя творы. Мінск: Белар. кнігазбор, 1998. С. 260.

брала ў палон Жылку-паэта. У некаторых з вершаў ён аніяк не мог абысціся без ужывання ўкраінскіх слоў: «*Ты варожыш, ты чаруеш, / О чароўная, бы **світ**…*» («Крыху ўзрушаны і рады», 1923); «*Ў прыродзе так светлы / Змярканне й **рассвіт**…*» («Вершы спадзявання», 1924–1925).

Аўтограф перакладу верша «Зімою» А. Крымскага выяўлены аўтарам гэтых радкоў у асабістым архіве Людмілы Краскоўскай у Браціславе (Славакія). Разам з лістамі У. Жылкі мінскага перыяду ён належыць да нешматлікай колькасці тых дакументаў, якія захавальніца ў свой час не палічыла неабходным перадаць ні родным паэта, ні даследчыкам яго творчасці.

Як вядома, частку архіва У. Жылкі калега з Браціславы да пары да часу зберагала ў сябе на кватэры. Потым большасць гэтых матэрыялаў была перададзена ў Беларусь. Можна меркаваць, што аўтограф перакладу падараваны ёй паэтам як нешта накшталт «альбомнага» запісу, з мэтай «сказаць» штосьці прыемнае сваёй сяброўцы Людміле і яе маці Валянціне Сямёнаўне, на доўгія гады разлучаным некалькімі дзяржаўнымі межамі. На такую думку наводзіць ужо сама дыялагічная форма верша – размова дачкі і маці.

Гэты твор прываблівы простым, немудрагелістым гучаннем. Магчыма, з пункту гледжання сённяшняга ўспрымання вока чытача пры першым знаёмстве з беларускай інтэрпрэтацыяй верша будзе трохі «цярушыць» ужытае перакладчыкам слова *распукваюць* [кветкі] (у сучасным значэнні *распускаюцца*), але ў той час гэтае слова даволі шырока ўжывалі і іншыя беларускія пісьменнікі. У. Жылка выкарыстаў яго таксама ў «Пентаметрах» (1925): «*Там, дзе распукваўся квет, к восені выспее плод*».

Верш «Зімою» ў яго «ізаляванай», адарванай ад кантэксту і аўтарскіх тлумачэнняў прадстаўленасці на першы погляд не мае ніякай нацыянальнай (тэрытарыяльнай) «прывязкі». Можна меркаваць, што не ў апошнюю чаргу з гэтай прычыны ён і прыцягнуў увагу У. Жылкі, паколькі даваў магчымасці для лёгкай перасадкі на беларускую паэтычную глебу. Між тым гэты твор уваходзіць у канцэптуальна прадуманы першы цыкл зборніка А. Крымскага «Пальмавае голле», які мае назву “У гарах Ліванскіх». У арыгінале верш гучыць наступным чынам:

*– Мамо, голубко! Ішла я горою, –*
*Снігу неначе й нема;*
*Сонце так гріє; квітки розцвітають…*
*Мамо! Минула зима!*
*– Доню! ти, певне, когось покохала!*
*В нас-бо і холод, і лють.*
*Тільки у тебе вже літо на серці,*
*Там-то і квіти цвітуць!*[98]

Упершыню твор надрукаваны ў часопісе «Зоря» ў 1897 г. (№ 17, с. 376). Верш уяўляе з сябе мастацка-эстэтычны сінтэз прыроднага фону і асабістых перажыванняў, паяднаных нязмушаным дысанансам узбуджанага чалавечага пачуцця і знешняга халоднага спакою.

У заўвагах аўтар прадставіў канкрэтную геаграфічную прывязку твора – тое, што аніяк не прачытваецца без кантэкстуальнай, цыклічнай падсветкі: «На высокіх Ліванскіх гарах, за выключэннем тых, якія павярнуліся тварам да гарачай Фінікіі, зімою бывае настолькі холадна, што падае не дождж, а снег. На Саныне і яшчэ на некаторых верхавінах снег не растае нават улетку»[99].

Паэтычны цыкл «В горах Ліваньских» (аўтарскі падзагаловак – «Ідилія») складаюць зачынны верш «Всякі пахощі там дишуть…», створаны па матывах біблейскай «Песні песняў», а таксама babaшаваны дыптых – «Зимою» і «Влітку» («Улетку»). Аўтарам пазначаны месца і час яго напісання: ліванскае сяло Шуейр, 15 ліпеня 1897 г.

Верш «Улетку», другі ў згаданым цыкле, з першага радка даносіць характэрны ўсходні пейзажны каларыт: «*Скали… Кедри… Скоро й вечір*» [10, т. 1, с. 28]. Дысананснае гучанне, але ўжо на фоне іншай пары года, люстэркава захавана і ў ім: «*Впала ніч… Шакали виють… / Вітер… Мов зима! / Я всі очі прогляділа, – / Милого нема*»[100].

Зварот да творчасці А. Крымскага, актуалізаваны публікацыяй невядомага перакладу У. Жылкі, узнаўляе сілавое поле літаратуразнаўчага аналізу, асвятлення гісторыі беларуска-ўкраінскіх культурных сувязей.

[98]Кримський А. Твори: в 5 т. Київ, 1972–1974. Т. 1. С. 27.
[99]Кримський А. Твори: в 5 т. Київ, 1972–1974. Т. 1. С. 27.
[100]Тамсама. С. 28.

Прынцыповае меркаванне аўтара гэтага артыкула: пры першай публікацыі матэрыялу не спяшацца з высновамі, з аўтарскай маркіроўкай, па магчымасці не пахіснуць заканамерныя этапы ўвядзення твора ў навуковы ўжытак. Таму знаёмства з перакладам Уладзіміра Жылкі верша Агафангела Крымскага бачыцца нам як вернутая з холаду забыцця цёплая, прыязная ўсмешка ў гісторыі беларуска-ўкраінскага культурнага дыялогу.

Агафангел КРЫМСКІ

**ЗІМОЮ**

*– Мама – галубка! Ішла я гарою, –*
*Снегу нібы і няма;*
*Сонейка грэе, распукваюць кветкі.*
*Мама! Мінула зіма!..*
*– Пэўна, дачушка, кагосьць пакахала,*
*Холад бо й сівер наўкруг,*
*Толькі ў цябе ужо лецейка ў сэрцы,*
*Там то і квеціцца луг.*

Пераклад з украінскай Уладзіміра Жылкі.
Падрыхтоўка тэксту Міколы Труса.

# РАЗДЗЕЛ 3. КАНТЭКСТУАЛЬНЫЯ І ТЭКСТАЛАГІЧНЫЯ КОДЫ

## 3.1. ТРЫ НІЖАГАРОДСКІЯ АДРАСЫ М. БАГДАНОВІЧА

Трохдзённае наведанне Ніжняга Ноўгарада аўтарам у канцы кастрычніка 2014 г. адбылося па службовай камандзіроўцы ад БДТУ, звязанай з удзелам у міжнароднай навуковай канферэнцыі. Падрыхтаваны даклад, пабудаваны на фокусах даследчыцкага бачання «здалёк і зблізку», паралелях з рускай літаратурнай класікай XIX ст., закранаў некаторыя праблемы сённяшняга асэнсавання творчай спадчыны Максіма Багдановіча, 12 гадоў жыццёвага сталення якога прайшлі ў старажытным рускім горадзе на сутоку дзвюх вялікіх рэк. Пра гэты час, 1896–1908 гг., бацька паэта, Адам Багдановіч, пісаў наступнае: «Моя семья и тесно с ней связанные семьи двух моих сестер – Гапановичей и Голованов – тоже чисто белорусских, которые так срослись, что, в сущности, представляли одну семью в трех разных квартирах, были своего рода белорусской колонией в далеком краю при слиянии Оки и Волги»[101].

Паводле акадэмічнага «Летапісу жыцця і творчасці»[102] паэта, у Ніжнім Ноўгарадзе Багдановічы жылі па наступных адрасах: вул. Грузінская, дом Турылкінай; Звяздзінка, 13, дом Неўскіх; вул. Канатная, дом Лемке; вул. Канатная, дом Паўлавай. З кансультацый мясцовых краязнаўцаў вядома, што два з названых дамоў ужо не існуюць, захаванасць і месцазнаходжанне астаніх двух патрабуе ўдакладнення.

Не маючы магчымасці раскашаваць часам, спраўдзіць усе адрасы «беларускай калоніі» рупіла ўсё ж правесці невялікі рэестрык памятак «песняра чыстай красы», пераканацца, як пісаў класік, «*ці гэты скарб не збрыў дзе проч*». Зрэшты, абсалютна неспадзяваная «сустрэча» ў Ніжнім Ноўгарадзе з аўтарам гэтых

---

[101]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча; склад. Н. Б. Ватацы. Мінск: Маст. літ., 1975. С. 47.

[102]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 340–392.

слоў, Янкам Купалам, стала вельмі прыемным і сімвалічным сюрпрызам. У першым жа аўтобусе, які ішоў ад плошчы Казьмы Мініна з велічным помнікам рускаму нацыянальнаму герою, кінуўся ў вочы прыгожы плакат каля кабіны кіроўцы, на якім паведамлялася пра новую вуліцу ў горадзе, названую ў гонар… народнага паэта Беларусі. Побач з партрэтам песняра – невялікі лаканічны тэкст з вехавымі падзеямі творчасці і характэрным вектарам паэтычнага ўзвышэння: ад верша «Мужык» да перакладу паэмы «Палтава» А. С. Пушкіна.

**Адрас першы. Музей Дабралюбава.** Ніжні Ноўгарад з абсалютным на тое правам можна назваць музеем пад адкрытым небам музеем для разбуранай войнамі Беларусі вельмі зайздросным. Гісторыя тут цесна пераплецена з сучаснасцю. Сучаснасць сёння саступіла гісторыі ў назве (Ніжні Ноўгарад – Горкі – Ніжні Ноўгарад), але яе пазнавальная ва ўсім свеце бетонна-шкляная геаметрыя паслядоўна-ўпарта ўціскваецца ў прэстыжнасць гарадскога цэнтра. Каларытныя помнікі архітэктуры пры гэтым, асабліва пасля рэстаўрацыі, настойліва імкнуцца адстаяць сваю ўвагу гараджан і гасцей горада.

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей М. А. Дабралюбава (мал. 20), што месціцца на вул. Лыкава дамба, 2, 2а, за апошнія гады стаў дзейсным пасрэднікам ва ўмацаванні руска-беларускіх культурных кантактаў. Былых ніжагародцаў Багдановічаў – Адама і Максіма – тут ведаюць і ставяцца да гэтых імёнаў з вялікім піетэтам. І ўсё гэта дзякуючы апантанасці, энтузіязму яго супрацоўнікаў, найперш Галіне Дзмітрыеўскай – прафесіяналу сваёй справы, заслужанаму работніку культуры Расійскай Федэрацыі. Узначальвае культурна-асветніцкую ўстанову Наталля Цыганова.

Мікалай Дабралюбаў (1836–1861) і Максім Багдановіч (1891–1917) – пісьменнікі розных пакаленняў, нацыянальных культурных парадыгм, але тыпалагічныя сыходжанні іх біяграфій уражваюць і пабуджаюць да роздумаў: адмераныя 25 гадоў жыцця, асаблівасці выхавання і творчай рэалізацыі і інш. У вядомай сёння творчай спадчыне беларускага аўтара імя класіка рускай літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі ўзгадваецца толькі аднойчы – у артыкуле «Новая интеллигенция»[103] (часопіс «Жизнь для всех»,

[103]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 19.

1914, № 5–6). Адзінкавасць гэтага факта не азначае няўвагу М. Багдановіча да М. Дабралюбава, які аб'ектыўна стаў нязменным аўтарытэтам для некалькіх генерацый т. зв. рэвалюцыйных дэмакратаў Расіі і Беларусі.



Мал. 20. Будынкі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея М. А. Дабралюбава ў Ніжнім Ноўгарадзе

30–31 кастрычніка 2014 г. захавальнікі спадчыны М. А. Дабралюбава ў Ніжнім Ноўгарадзе правялі Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Мемориальные музеи России: мир, миф и миг действительности», прысвечаную Году культуры ў Расіі, у якой бралі ўдзел кіраўнікі і прадстаўнікі вядучых культурна-асветніцкіх і вучэбных устаноў Расіі, Беларусі, Фінляндыі.

У склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі намеснік дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Анастасія Кальцова, вядучы супрацоўнік музея «Беларуская хатка» Ірына Мышкавец і загадчык кафедры беларускай філалогіі БДТУ Мікалай Трус (мал. 21).

Змястоўныя і цікавыя даклады спецыялістаў некалькіх краін прадстаўлялі вопыт захавання, вывучэння і экспанавання спадчыны выбітных прадстаўнікоў нацыянальнай і сусветнай культуры: Мікалая Дабралюбава, Максіма Горкага, Фёдара Шаляпіна, Льва Талстога, Аляксея Талстога, а таксама Максіма Багдановіча, Васіля Быкава і інш.



Мал. 21. Беларускую дэлегацыю прымаюць
арганізатары ніжагародскай канферэнцыі.
Злева направа: Наталля Цыганова, Мікалай Трус,
Галіна Дзмітрыеўская, Анастасія Кальцова, Ірына Мышкавец

**Адрас другі. Былая гімназія.** У 1902–1908 гг. М. Багдановіч вучыўся ў Ніжагародскай губернскай мужчынскай гімназіі. За 110 гадоў існавання гэтай навучальнай установы (1808–1918) з яе сцен выйшлі многія выдатныя дзеячы навукі і культуры, пра некаторых з іх паведамляюць мемарыяльныя дошкі на фасадзе заўважна змененага часам будынка: кампазітар Мілій Балакіраў (1836–1910), філосаф Васілій Розанаў (1856–1919), матэматык Аляксандр Ляпуноў (1857–1918) і інш.

Цяпер на вуліцы Ульянава знаходзіцца Ніжагародскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Казьмы Мініна (з 2011 г.) (мал. 22), але на фасадзе захоўваецца папярэдняя, самая трывалая па часе назва гэтай ВНУ – Горкаўскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1930–1993).

З левага боку будынка ўсталявана мемарыяльная дошка Максіму Багдановічу скульптара Сяргея Вакара, урачыста адкрытая яшчэ 27 мая 1958 г.[104], на ёй тэкст «*В этом здании бывшей Нижегородской гимназии в 1902–1908 годах учился выдающийся Белорусский поэт МАКСИМ БОГДАНОВИЧ*» (мал. 23).

[104]Мышкавец І. В. Мемарыяльныя дошкі і знакі. Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. С. 338.



Мал. 22. Ніжагародскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт
імя Казьмы Мініна. 31.10.2014 г. Фота М. Труса




Мал. 23. Мемарыяльная дошка Максіму Багдановічу
на будынку Ніжагародскага дзяржаўнага
педагагічнага ўніверсітэта імя Казьмы Мініна.
Скульптар Сяргей Вакар. 31.10.2014 г. Фота М. Труса

**Адрас трэці. Архіў.** Дакументы колішняй Ніжагародскай губернскай мужчынскай гімназіі зараз захоўваюцца ў Цэнтральным архіве Ніжагародскай вобласці (*Государственное казенное учреждение Центральный архив Нижегородской области – ГКУ ЦАНО*), які налічвае 4559 фондаў, 1 млн. 960 тыс. спраў сярэдзіны XV – пачатку XX ст. (мал. 24).




Мал. 24. Каля ўваходу ў Цэнтральны архіў
Ніжагародскай вобласці. 29.10.2014 г.

Як і кожная ўстанова падобнага кшталту, архіў ганарыцца сваімі ўнікальнымі рарытэтамі, выявы найбольш каштоўных прадстаўлены на афіцыйным сайце. І першыя месцы сярод іх займаюць дакументы на «*средневековом белорусском языке*»: Грамата на памесце Грыгорыя Аляксандравіча Ігінбутовіча ў Вялікім Княстве Літоўскім 1539 г., Пасланне польскага караля наместнікам Полацкаму і Наўгародскаму аб уладанні царкоўнымі сёламі ў Полацкай зямлі 1589 г. і некаторыя іншыя, датычныя нашай гісторыі, на польскай і лацінскай мовах.

Усцешанаму такой прыемнай неспадзяванкай мне адразу прыгадаліся словы паэта, сказаныя пасля агледзін калекцыі І. Луцкевіча ў Вільні і пераказаныя потым у мемуарных запісах В. Ластоўскім:

«*Асабліва глыбокае ўражанне на Багдановіча зрабілі рукапісы старасвецкіх славянскіх кніг і дакументаў, а такжа слуцкія паясы, якія па некалькі разоў перaглядаў.*

*– Гэта ёсць фундамент нашага адраджэння! Гэта і за тысячу гадоў будзе сведчыць аб нас! – казаў М. Багдановіч аб помніках нашай старасвецкай культуры*»[105].

[105]Ластоўскі В. Мае ўспаміны аб М. Багдановічу. Мінск: Белар. Кнігазбор, 1997. 512 с.

Пры напісанні «Материалов к биографии Максима Адамовича Богдановича» бацька паэта, па яго ўласным сведчанні, карыстаўся некаторымі архіўнымі дакументамі: «*Я просмотрел журналы педагогического совета за все время пребывания Максима в Нижегородской гимназии*»[106].

Калегі з музея Дабралюбава прадбачліва парупіліся пра папярэдні заказ спраў Ніжагародскай губернскай мужчынскай гімназіі (Фонд 520. Вопіс 478). Дзякуючы ім удалося некалькі гадзін папрацаваць з унікальнымі матэрыяламі. Дзіўная і трохі сумнаватая заканамернасць адкрылася перада мной: папярэднія запісы ў лістах азнаямлення з архіўнымі справамі датаваліся 1982–1984 гг. (супрацоўнікі рабочай групы па стварэнні музея М. Багдановіча), далей ішоў 1954 г. (Н. Лапідус, які працаваў над кандыдацкай дысертацыяй). Такім чынам, беларускія даследчыкі спарадычна працавалі з гэтымі дакументамі з інтэрвалам у 30 гадоў.

Некаторыя з дакументаў фонда ў капійных варыянтах сёння захоўваюцца і экспануюцца ў Літаратурным музеі М. Багдановіча ў Мінску. Але ніхто не можа замяніць ахіўную асалоду дэталёвага, дакументальнага ўзнаўлення мінулага – не праз чужыя вочы і высновы, а праз уласны дотык да гісторыі.

Некалькі спраў прысвечаны персанальна гімназістам братам Багдановічам:

• *ведомость об успеваемости и поведении ученика 4-го класса гимназии М. Богдановича*;

• *свидетельства об окончании братьями разных классов гимназии – Богданович Лев (4 кл.) и Богданович Максим (5 кл.) – и сведения об успеваемости и поведении (27 июня –19 декабря 1908 г.)*.

Асноўны блок архіўных спраў скрозь сухія запісы канцылярскіх дакументаў узнаўляе жыццё гімназіі пачатку XX ст. у фактах, імёнах, падзеях і лічбах:

• *списки учеников Нижегородской гимназии (1903–1907 гг.)*;

• *списки преподавателей гимназии (1903–1904 гг.)*;

• *книга протоколов Педагогического совета Нижегородской гимназии (1904–1905 гг.)*;

• *книга о манкировках и проступках учеников (1904–1905 гг.)*;

[106]Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. Мінск: Маст. літ., 1975. С. 32.

• *протокол общего собрания членов литературно-исторического и педагогического общества гимназии (29 февраля 1904 г.)*;
• *сведения об учениках гимназии (1905 г.)*;
• *списки учеников и преподавателей гимназии (1905–1906 гг.)*;
• *список родителей и опекунов учеников гимназии (1905–1906 гг.)*.

Спіс можна доўжыць і доўжыць, але гэтым разам абмяжуемся інтрыгоўным і звыклым «і іншыя», а ад сябе адзначым: адна з актуальных задач багдановічазнаўства сёння нам бачыцца ў праўдзівым, фактаграфічным узнаўленні мінулага, той атмасферы, у якой жыў, фарміраваўся як асоба і беларускі паэт М. Багдановіч.

Найбольшай эмоцыяй часу пульсуюць дакументы, звязаныя з хваляваннямі гімназічнай моладзі ў час рэвалюцыі 1905–1907 гг., але гэтыя тэма вартая асобнай гаворкі. Выснова, якую хочацца зрабіць зараз і тым самым заахвоціць іншых калег-даследчыкаў да архіўных росшукаў: у Ніжнім Ноўгарадзе захоўваюцца некранутыя скарбы, там працуюць цудоўныя спецыялісты, гатовыя дапамагчы. Цікавыя знаходкі чакаюць нас.

## 3.2. ГАЗЕТА «НИЖЕГОРОДСКИЙ ЛИСТОК» І НЕВЯДОМАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ ПЕРАКЛАДАЎ ВЕРШАЎ Т. ШАЎЧЭНКІ

У гісторыі беларуска-украінскіх культурных узаемадачыненняў шаўчэнкіяна ўяўляе з сябе мацерыковы пласт размаітага матэрыялу, добра вывучанага і прадстаўленага даследчыкамі[107]. 1914 год стаў асабліва адментным і вызначальным, выпрабавальным на шчырасць і моц сяброўскіх пачуццяў. У Расійскай імперыі афіцыйнае святкаванне стогадовага юбілею Т. Шаўчэнкі было заблакавана на дзяржаўным узроўні, таму кожнае культурнае мерапрыемства, выступленне ў друку сведчыла пра грамадзянскую пазіцыю іх арганізатараў і аўтараў. М. Багдановіч азначыў сваю ўвагу і павагу да творчасці класіка ўкраінскай літаратуры публіцыстычным і літаратуразнаўчым словам: «Памяти Т. Г. Шевченко»

[107] Сторінки білоруської шевченкіани (1829–2002) // Шевченкова дорога в Білорусь: Літературно-публіцистичний збірник. Львів: Світ, 2004. С. 247–258. Серия «Шевченко і світ». Сторінки білоруської шевченкіани (1829–2002) // Шевченкова дорога в Білорусь: Літературно-публіцистичний збірник. Львів: Світ, 2004. С. 247–258. Серия «Шевченко і світ».

(газета «Голос», 25.02.1914); «Краса и сила» (часопіс «Украинская жизнь», 1914, № 2). Наша гаворка пойдзе пра пераклады М. Багдановіча вершаў украінскага Кабзара, канкрэтна – пра нядаўна выяўленыя іх публікацыі.

Сёння вядомыя шэсць перакладаў вершаў Т. Шаўчэнкі на рускую мову, зробленыя М. Багдановічам, якія у аўтарскім арыгінале ўваходзяць у вершаваны цыкл «*В казематі*»:

- «*Н. И. Костомарову*» («Н. Костомарову», 1847);
- «*В неволе*» («Мені однаково, чи буду…», 1847);
- «*В неволе тяжко… хоть и воли…*» («В неволі тяжко, хоча й волі…», 1847);
- «*А. О. Козачковскому*» («А. О. Козачковському», 1847);
- «*И серое небо, и сонные воды…*» («І небо невмите, і заспані хвилі…», 1848);
- «*Готово! Парус распустили…*» («Готово! Парус розпустили…», 1849).

Паводле каментарыяў да першага тома Поўнага збору твораў М. Багдановіча ў трох тамах[108], амаль усе названыя пераклады пачынаючы з 1927 г. публікуюцца з аўтографаў. Выключэннем з'яўляецца верш-пасланне «*А. О. Козачковскому*», надрукаваны ў пецярбургскім выданні «Ежемесячный журнал литературы, науки и общественной жизни» (1914, № 3).

У каментарыях да «Твораў М. Багдановіча» 1927 г. пазначана наступнае: «*Усе пераклады з Шаўчэнкі выдаюцца з* ***чыставых аўтографаў*** (вылучана намі – ***М. Т.***)*, якія захоўваюцца ў папцы VI. Пераклады гэтыя напісаны былі поэтам у часе яго навучаньня ў Яраслаўскім Ліцэі, што відаць з дапіскі поэты ў аўтографе пад апошнім вершам: "Ярославль. Демидовский Лицей" (п. VI, № 1 і 39)*»[109].

Перастовраныя М. Багдановічам вершы «*В неволе*» і «А. О. Козачковскому» мелі яшчэ і варыянты чарнавых аўтографаў, якія захоўваліся ў архіве паэта. Тэкставыя разыходжанні з чыставымі аўтографамі былі зафіксаваны ў каментарыях да першапублікацыі, падрахтаванай Інбелкультам, і паўтораны ў акадэмічным Поўным зборы твораў класіка беларускай літаратуры.

---

[108]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1992. Т. 1. С. 695–697.

[109]Творы М. Багдановіча. Менск, 1927. Т. 1. С. 487.

Вершаваны цыкл «В казематі» (з характэрным аўтарскім прысвячэннем «Моїм соузникам посвящаю») у асноўным быў напісаны Т. Шаўчэнкам у час заключэння пад следства над удзельнікамі Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва ў 1847 г. У паэтычнай спадчыне ўкраінскага Кабзара ён прадстаўлены як адмысловае ідэйна-мастацкае цэлае, што складаецца з 12 асобных пранумараваных твораў (некаторыя маюць свае назвы), а таксама зачыннага і заключнага вершаў. Можам меркаваць, што найбольшую вядомасць у свеце з іх набыў хрэстаматыйны верш пад нумарам VIII «Садок вишневий коло хати…».

Падчас навуковай камандзіроўкі ў Ніжні Ноўгарад у кастрычніку 2014 г. нам удалося выявіць дзве невядомыя публікацыі перакладаў вершаў Т. Шаўчэнкі на рускую мову, зробленыя М. Багдановічам.

У жыцці і творчасці Т. Шаўчэнкі горад на сутоку Акі і Волгі займае асобнае месца, добра прадстаўленае шаўчэнказнаўстве і працах ніжагародскіх краязнаўцаў[110]. Украінскі пісьменнік пражыў у Ніжнім Ноўгарадзе пад пільным наглядам паліцыі з 20 верасня 1857 г. да 8 сакавіка 1858 г. Тут з 1896 да 1908-га прайшлі 12 дзіцячых і падлеткавых гадоў М. Багдановіча[111], па-за ўвагі якога, мяркуем, азначаны жыццяпісны факт Т. Шаўчэнкі прайсці не мог.

Невядомыя публікацыі перакладаў вершаў «Н. И. Костомарову» («Н. Костомарову») і «В неволе» («Мені однаково, чи буду…») былі выяўлены намі ў падшыўцы газеты «Нижегородский листок» (далей – «НЛ») за студзень – чэрвень 1914 г., што захоўваецца ў Ніжагародскай дзяржаўнай абласной універсальнай навуковай бібліятэцы імя У. І. Леніна (па-беларуску гэтыя вершы загучалі дзякуючы Змітраку Бядулю – «М. Кастамараву»[112]; «А мне ўсё роўна, а ці буду…»[113]).

[110]Шевченківський словник: у 2 т. / Інститут літератури ім. Т. Р. Шевченка АН Української РСР. Київ: Головна редакція Української Радянської Енциклопедії, 1977. Т. 2. С. 47–48; Шевченко в Нижнем Новгороде: путеводитель. Горький: Волго-Вятское книжное изд-во, 1964. 31 с.; Т. Г. Шевченко в Нижнем Новгороде: сборник. Горький: Горьковское книжное изд-во, 1958. 222 с.

[111]Максім Багдановіч: энцыклапедыя. Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. С. 378 с.

[112]Шаўчэнка Т. Р. І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…: вершы, паэмы, балады: пер. з украінскай. Мінск: Маст. літ., 2014. С. 104–105.

[113]Тамсама. С. 100.

Дасюль у багдановічазнаўстве былі апісаны толькі два выпадкі творчага супрацоўніцтва М. Багдановіча з гэтым перыядычным выданнем, якое было звязана з перакладчыцкай дзейнасцю, рускай інтэрпрэтацыяй украінскай літаратурнай класікі[114]. На старонках газеты ўбачылі свет апавяданне і верш Івана Франко: «Каменщик» (9–13.04.1915) і «На реке вавилонской» (13.07.1915).

«Нижегородский листок» (1893–1916) – буйнафарматнае чатырохстаронкавае выданне з дадаткам – у пачатку XX ст. пазіцыянаваўся як «штодзённая грамадска-літаратурная, палітычная і біржавая газета», з якой мелі цесныя стасункі некаторыя знакамітыя рускія пісьменнікі, у прыватнасці Уладзімір Караленка і Максім Горкі (мал. 25).



НИЖЕГОРОДСКІЙ ЛИСТОКЪ

ЕЖЕДНЕВНАЯ ОБЩЕСТВЕННО-ЛИТЕРАТУРНАЯ, ПОЛИТИЧЕСКАЯ И БИРЖЕВАЯ ГАЗЕТА.

Редакція и контора: Большая Покровка, домъ Приспѣшникова.

Акушерская школа

Второе Нижегородское О-во Взаимнаго Кредита.

„ВЕНЕЦІЯ" РЕСТОРАНЪ.

ТЕЛЕГРАММЫ

АУКЦІОНЪ.

Мал. 25. Фрагмент першай старонкі газеты «Нижегородский листок». 25.02.1914 г.

Асабліва добра прадстаўлены ніжагародскі перыяд і супрацоўніцтва з «НЛ» у даследаваннях жыцця і творчасці культавага пісьменніка савецкай эпохі М. Горкага, што потым дазволіла захаваць павярхоўную ўзгадку пра газету ў гісторыі расійскага перыядычнага друку, паколькі гэтае ліберальнае выданне ў ходзе дэталёвага рэтраспектыўнага аналізу магло прэтэндаваць на залічэнне ў шэраг ідэйных апанетаў ідэалогіі бальшавізму. У свой

[114] Максім Багдановіч: энцыклапедыя. Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. С. 378.

час горад на Ацэ і Волзе быў перайменаваны ў гонар аднаго з заснавальнікаў сацрэалізму: Горкі ў 1932–1990 гг. Адмысловая прысутнасць М. Горкага навідавоку захоўваецца і ў сённяшнім Ніжнім Ноўгарадзе найперш у мемарыяльна-музейнай практыцы роднага горада пісьменніка, назвах і г. д.

У 1920–1930-х гг. да працэсу ўмацавання «культу асобы» М. Горкага (у нашым выпадку ў працах краязнаўцаў) быў далучаны і Адам Багдановіч, для якога знаёмства і сваяцтва з рускім пісьменнікам стала важкім аргументам грамадскай увагі, што, зрэшты, разам з заступніцтвам Кацярыны Пешкавай уратавала бацьку класіка беларускай літаратуры ад сталінскіх рэпрэсій. Пра адносіны сям'і Багдановічаў і Пешкавых аўтару гэтых радкоў даводзілася неаднаразова пісаць, у тым ліку на старонках навуковага і метадычнага часопіса «Роднага слова»[115]. Дзеля актуалізацыі гэтай тэмы прывядзем урывак з успамінаў аднаго са сведкаў і ўдзельнікаў падзей мінулага часу, якія істотна ўдакладняюць інфармацыю пра змест размоў М. Горкага і А. Багдановіча:

«*Жили они тогда (на Вознесенской ул., на углу улицы Гоголя) в скромной, маленькой квартире. Видно было, что Екатерина Павловна тяжело переживала болезнь мужа, но находила силы, чтобы поддерживать его бодрость. Правда А. М. (Алексей Максимович –* ***М. Т.****) всегда отличался гигантской силой воли. Во время болезни часто навещал его приехавший из г. Минска А. Е. Богданович, интересный собеседник-диалектик, который хорошо поддерживал его дух и настроение. А. М. тоже любил подиспутировать. Беседы их касались и литературных, и общественных, и даже философских тем. А. М. интересовался в это время философами-пессимистами: Шопенгауэром, Гартманом и, особенно, Ницше*»[116].

Прыведзены фрагмент успамінаў (аўтар *В. Н. Золотницкий*) быў апублікаваны ў зборніку артыкулаў 1928 г. разам з допісам «Провады Горкага ў Крым» А. Багдановіча[117]. Мемуарныя запісы

---

[115]Трус Н. В. Максим Горький и Адам Богданович: страницы дружбы и творчества // М. Горький и его эпоха: материалы междунар. научн. симпозиума, Брест, 19–21.03.2008 г. Брест, 2008. С. 32–39; Трус, М. Заслужаны перад Беларуссю: энцыклапедычны жыццяпіс Адама Багдановіча // Роднае слова. 2012. № 3. С. 12–18.

[116]М. Горький в Н.-Новгороде: сборник статей. Нижний Новгород: издание торгового отдела Нижгубоно, 1928. С. 63.

[117]М. Горький в Н.-Новгороде: сборник статей Нижний Новгород: издание торгового отдела Нижгубоно, 1928. С. 67–75.

знаёмых пісьменніка па Ніжнім Ноўгарадзе адметныя перш за ўсё тым, што хоць і з пэўнай тэндэнцыяй да ідэалізацыі, уласцівай жанру, але прадстаўляюць яшчэ нekананічны партэт М. Горкага, адшліфаваны ў пазнейшы час.

Для ліберальных колаў расійскай грамадскасці 1914 год праходзіў пад знакам юбілею з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі (1814–1861). Перыядычны друк, сталічны і правінцыйны, насуперак волі ўлад поўніўся матэрыяламі, прысвечанымі жыццю і творчасці класіка ўкраінскай літаратуры, якія актуалізавалі абмеркаванне нацыянальных і сацыяльных пытанняў на абшарах Расійскай імперыі. «НЛ» у гэтым плане не стаў выключэннем. Шаўчэнкаўскія матэрыялы ахапілі дамінуючы тэкставы аб'ём першых дзвюх старонак газеты № 54 ад 25.02.1914 г., якая ўбачыла свет акурат у дзень нараджэння пісьменніка. У якасці аўтараў выступіла размаітая публіка – ад шэраговага журналіста да дэпутата расійскага парламента. На першай старонцы былі змешчаны артыкулы «По поводу чествования памяти Т. Г. Шевченко» С. А. Іванова, члена Дзяржаўнай Думы, «Певец Украйны. (К 100-летию рождения Т. Г. Шевченко)» М. Клокавай. З працягам на другой старонцы надрукаваны артыкул «Шевченко в Нижнем» Л. Літвіненкі. (Ініцыялы аўтараў захаваны паводле рускамоўнай публікацыі).

На другой старонцы размясцілася адмысловая паэтычная калонка, якую пачынаў уступным словам і завяршаў паэтычным перакладам аўтар, што падпісаўся псеўданімам *Далекий*. Цэнтральнае месца заняў своасаблівы трыпціх «Из стихотворений Т. Г. Шевченко», які склалі вершы «Н. И. Костомарову», «В неволе» ў перакладзе М. Багдановіча і «Завет» у рускамоўнай інтэрпрэтацыі Далёкага.

Узнікае заканамернае пытанне: чаму такая важная публікацыя засталася па-за ўвагай багдановічазнаўства і шаўчэнказнаўства? Намі выяўлена, што даследчыкі падступаліся да гэтага матэрыялу, але вельмі павярхоўна, палітычна заангажавана. Так, С. Чарвякоўскі ў артыкуле «Мясцовы друк пра Т. Р. Шаўчэнку» ўзгадаў гэты нумар «НЛ», публікацыю М. Клокавай, пры гэтым вельмі тэндэнцыйна, не закрануўшы іншых матэрыялаў, надрукаваных побач: «На першы погляд артыкульчык гэты можа нават падацца палітычна страсным… Але ў сапраўднасці гэты артыкул нагадвае тыя пісанні, якія, па словах У. І. Леніна, увабралі ў сябе і ўвасобілі

«у завершаным выглядзе асноўныя манеры дэкламацыі, уласцівыя ліберальна-буржуазнай публіцыстыцы»[118].

Для поўнага кантэкстуальнага ўзнаўлення наноў адкрытых перакладаў М. Багдановіча ёсць неабходнасць апублікаваць увесь матэрыял паэтычнай калонкі. Прывядзём поўны тэкст уступнага допісу «Батько Тарас», які меў падзагаловак «На могилу Шевченко».

*Позволь и мне, великий батько, бросить свой маленький цветочек на твою сиротливую могилу.*

*Обвеянный тихой, ласковой грустью, напоенный теплотой живого человеческого сердца – твой образ, батько, не забудется вовеки душой, что просит у жизни счастья, что ждет у людей ласки, что одинокими слезами плачет на перепутьи человеческих скитаний – к правде, утерянной и задавленной.*

*Великое сердце, что билось так щиро и любовно за чужие слезы и радости – еще бьется и теперь, в нас, в которых сердце тем глубже любит твою великую душу, больше, тем жесточе жизнь разбивает его.*

*Капли слез твоих, грусти грес твоих не забыт – как не забыт молодости, как не забыт ясного девичьего взгляда, первой весны, осени – что теперь в сердце.*

*Позволь мне про себя прошептать мою тихую молитву за твою горячую, благородную душу и мысленно склонить голову перед твоей неувядаемой великостью.*

Паэт Далёкі, які адкрываў калонку, завяршыў яе ўласным перакладам на рускую мову першых восьмі радкоў вядомага верша-запавету Т. Шаўчэнкі «Як умру, то поховайте…» (1845):

*Как умру – моим останкам*
*Выройте могилу*
*Посреди широкой степи,*
*На Украйне милой…*
*Что б луга до края неба,*
*И мой Днепр, и кручи*
*Были видны, было слышно,*
*Как ревет могучий…*

[118]Червяковский С. Местная печать о Т. Г. Шевченко // Т. Г. Шевченко в Нижнем Новгороде: сборник. Горький: Горьковское книжное издательство, 1958. С. 72–73.

Пасля кансультацый з ніжагародскімі калегамі намі было ўстаноўлена, які аўтар падпісваўся псеўданімам *Далекий*. Гэта Аляксандр Васільевіч Сігорскі (1889–1970), журналіст, краязнаўца (мал. 26). Расійскія спецыялісты музейнай справы адзначаюць: «А. В. Сігорскі быў вядомы як сур'ёзны знаўца ніжагародскага перыяду жыцця Горкага, яго акружэння. З ім кансультаваліся не толькі ніжагародскія горказнаўцы, але і даследчыкі з Масквы, Ленінграда, Ташкента, Казані… Пра гэта сведчаць словы ўдзячнасці на дасланых яму кнігах»[119].



Мал. 26. Захавальнікі спадчыны Максіма Горкага.
У першым радзе пасярэдзіне Кацярына Пешкава.
Першы злева стаіць Аляксандр Сігорскі.
*Нижегородский музей. 2008. № 15*

Нарадзіўся А. Сігорскі ў Цюмені, але ўсё свядомае жыццё правёў у Ніжнім Ноўгарадзе. Першыя публікацыі ўбачылі свет у ніжагародкіх газетах «Судоходец» і «Нижегородский листок» пад псеўданімамі *Скриба*, *Далекий*, *Ал. Верин*, *С. Горский*, *Василий Кулик*. Браў удзел у выданні таварыства мясцовых літаратараў «Нижегородский альманах» (1916). У савецкі час выступаў у друку з мастацкімі творамі на актуальныя, запатрабаваныя новай грамадскай парадыгмай тэмы вытворчага і выхаваўчага характару. На працягу 1937–1957 гг. працоўная дзейнасць А. Сігорскага была звязана

[119]Ушакова Г. А. А. В. Сигорский: вслед за М. Горьким // Нижегородский музей. 2008. № 15. С. 152.

з музеем А. М. Горкага: экскурсавод, навуковы супрацоўнік, загадчык філіяла, захавальнік фондаў. У прааналізаваных намі даведачных крыніцах імя Сігорскага-Далёкага, перакладчыка твораў Т. Шаўчэнкі на рускую мову, не зафіксавана.

У табліцах мы вызначылі ўсе пунктуацыйныя, графічныя і лексічныя разыходжанні розных варыянтаў перакладаў М. Багдановіча, змешчаных у газеце «Нижегородский листок» (НЛ), Поўным зборы твораў паэта ў трох тамах (ПЗТ-МБ). Асобна прыведзены закранутыя вершаваныя радкі арыгінальных вершаў Т. Шаўчэнкі паводле Поўнага збору твораў у 12 тамах[120] (ПЗТ-ТШ).

| № | НЛ<br>«**Н. И. Костомарову**» | ПЗТ-МБ<br>«**Н. И. Костомарову**» | ПЗТ-ТШ<br>«**Н. И. Костомарову**» |
|---|---|---|---|
| 4–5 | *Тюрьма* уж чаем *оделяла,*<br>И часовых *переменяла,* | *В тюрьме* уж чаем *оделяли*<br>И часовых *переменяли* – | Сердешним чаєм напували<br>І часових переміняли, |
| 9 | Привык немного – и уж мне | Привык немного, – и уж мне | Привик я трохи, і мені |
| 11–13 | Давно *и скрытых*, и забытых<br>Моих кровавых, тяжких слез.<br>А их *не мало* пролилось | Давно *сокрытых* и забытых,<br>Моих кровавых тяжких слез.<br>А их *немало* пролилось | Давно похованих, забутих,<br>Моїх кровавих тяжких сльоз.<br>А їх чимало розлилось |
| 19 | И горе в сердце *снизошло*: | И горе в сердце *низошло*: | І жалем серце запеклось, |
| 21 | Смотрю: *ко мне*, чтоб повидать, | Смотрю, – *к тебе*, чтоб повидать, | Дивлюсь: твоя, мій брате, мати |
| 24 | Господь! *Тебя* я восхвалю. | Господь, *тебя* я восхвалю! | Молюся! господи, молюсь! |
| 27 | Мою тюрьму, мои оковы… | Мою тюрьму, мои оковы. | Мою тюрьму, мої кайдани! |

[120] Шевченко Т. Г. Повне зібрання творів: у 12 т. Київ: Наук. Думка, 2001. Т. 2. 784 с.

| № | НЛ<br>«**В неволе**» | ПЗТ-МБ<br>«**В неволе**» | ПЗТ-ТШ<br>«**Мені однаково, чи буду…**» |
|---|---|---|---|
| 2 | Томить – не все равно ли мне? | Томить, – не все равно ли мне? | Я жить в Україні, чи ні. |
| 3 | И *будут помнить*, иль забудут | И *не забудут* иль забудут | Чи хто згадає, чи забуде |
| 6 | В неволе взросши меж чужими, | В неволе взросши, меж чужими, | В неволі виріс меж чужими, |
| 8–9 | В неволе, плача, и умру,<br>И все в могилу заберу, – | В неволе плача и умру<br>И все в могилу заберу; | В неволі, плачучи, умру,<br>І все з собою заберу, |
| 17 | И что мне, будет иль не будет | И что мне, – будет иль не будет | Мені однаково, чи буде |
| 22 | Ее, убогую *пробудят…* | Ее, убогую, *разбудят…* | Її, окраденую, збудять… |

Прыведзеныя табліцы закліканы зафіксаваць першасны, азнаямленчы ўзровень невядомых варыянтаў перакладу М. Багдановіча вершаў Т. Шаўчэнкі, за якімі стаіць агульнапрынятыя выдавецкі аўтарытэт прыжыццёвай публікацыі. Падводзячы рысу пад праведзеным даследаваннем, можна зрабіць высновы, прыведзеныя ніжэй.

1. Выяўлена невядомая прыжыццёвая першапублікацыя М. Багдановіча двух перакладаў вершаў Т. Шаўчэнкі, што, акрамя факталагічнага ўзбагачэння беларускай класічнай спадчыны і шаўчэнкіяны ў прыватнасці, дэманструе плённасць працы з рускай перыёдыкай пачатку XX ст.

2. Устаноўлены дасюль невядомы калега М. Багдановіча па пяры – Аляксандр Сігорскі. Гэта вызначае новы, персаналізаваны кірунак пошукаў; матэрыялы да жыцця і дзейнасці гэтай асобы захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Ніжагародскай вобласці (фонд Р-6317, 594 справы, 1907–1970).

3. Фактаграфічна засведчана неабходнасць звароту да першакрыніцы, якая адкрывае магчымасці аб’ектыўнага (кантэкстуальнага) бачання твора, яго ролі ў перыядычным выданні, асабліва калі гаворка ідзе пра канцэптуальнасць падбору матэрыялу.

## ИЗ СТИХОТВОРЕНИЙ Т. Г. ШЕВЧЕНКО

### Н. И. КОСТОМАРОВУ

Лучи веселые играли
В веселых тучках золотых.
Гостей безвыходных своих
Тюрьма уж чаем оделяла,
И часовых переменяла,
Синемундирных часовых.
Но я к дверям, всегда закрытым,
К решетке прочной на окне
Привык немного – и уж мне
Не было жаль давно пролитых,
Давно и скрытых, и забытых,
Моих кровавых, тяжких слез.
А их не мало пролилось
В пески полей, сохой не взрытых.
Хоть рута, хоть бы что взошло!
И вспомнил я свое село, –
Кого-то в нем я там покинул?
В могиле мать, отец загинул...
И горе в сердце снизошло:
Кто вспомнит, в ком найду я брата?
Смотрю: ко мне, чтоб повидать,
Земли черней, мой друже, мать
Идет, с креста как будто снята.
Господь! Тебя я восхвалю.
За то спою свой гимн суровый,
Что я ни с кем не разделю
Мою тюрьму, мои оковы...

*Петербург, в крепости.*

Перевел М. Богданович.

### В НЕВОЛЕ

В Украйне ли, в Сибири-ль будут
Томить – не все равно ли мне?
И будут помнить, иль забудут
Меня в далёкой стороне –
Мне одинаково вдвойне.

В неволе взросши меж чужими,
Я, не оплаканный своими,
В неволе, плача, и умру,
И все в могилу заберу, –
И сгинет след мой, как в пустыне,
На нашей славной Украине,
На нашей – не своей земле.
И не промолвит матерь сыну,
Не скажет горестно: «Молись,
Молись, сынок: за Украину
Его замучить собрались».

И что мне, будет иль не будет
Он так молиться в тишине?
Одно не безразлично мне:
Что Украину злые люди
Приспят, ограбят, – и в огне
Ее, убогую пробудят...
Ох, как не безразлично мне!

*Петербург, в крепости.*

Перевел М. Богданович.

Нижегородский листок. 25.02.1914. № 54. С. 2.
Падрыхтоўка тэксту Міколы Труса.

## 3.3. «ВЯНОК»: ПРАГМАТЫЧНЫЯ КОДЫ ПЕРШАВЫДАННЯ

Паэтычнаму зборніку «Вянок» (мал. 27) М. Багдановіча, які з 2014 года пачаў адлічваць другую сотню свайго існавання ў культурнай прасторы Беларусі, моцна пашанцавала на літаратуразнаўчую ўвагу. Сёння набярэцца не адзін дзясятак хрэстаматыйных ёмістых выказванняў адносна яго структурнай і мастацкавобразнай дасканаласці, цэласнасці і ўнікальнасці ў гісторыі нацыянальнага пісьменства.

Вызначаючы парадыгму традыцыйных і актуальных даследаванняў, даследчыца Г. Адамовіч у артыкуле на старонках навуковага і метадычнага часопіса «Роднае слова» зафіксавала пяць стратэгічных

напрамкаў вывучэння «кантэкстуальнай прасторы кнігі «Вянок»[121], якія ў тактычнай працы з абраным прадметам даследавання могуць шматкроць памнажацца, дыферэнцыравацца.




Мал. 27. Вокладка паэтычнага
зборніка М. Багдановіча «Вянок».
Вільня. 1913 г.

Мы мяркуем засяродзіцца на цэласнасці выдання – функцыянальнай, прагматычнай – тых аспектаў, якія традыцыйна ігнараваліся, абыходзіліся ўвагай або закраналіся спарадычна, паколькі рызыкавалі ўступіць у некамфортны дысананс з устаялай і зручнай міфалагізацыяй, заканамернай і дзейснай, што вельмі раўніва ставіцца да эстэтычна «непрывабнай» канкрэтыкі фактаў, лічбаў, прагматычных разважанняў. Мы не ставім задачу барацьбы з міфалагізацыяй, якую вызначаем як устаялы і пазітаўна дзейсны алгарытм грамадскага асэнсавання асобы і творчай дзейнасці. Зрэшты, самыя па сабе новыя ці актуалізаваныя вядомыя факты могуць спарадзіць новы міф, умацаваць карані або памножыць галіны існуючага «міфалагічнага дрэва» жыццятворчасці паэта. Праз напластаванні культурна-гістарычных перыядаў, звязаных з пастаяннымі светапогляднымі карэкціроўкамі, ёсць свая логіка

[121] Адамовіч Г. Кантэкстуальная прастора «Вянка» Максіма Багдановіча. Роднае слова. 2013. № 12. С. 4–5.

аб’ектывізацыі, этапнага асэнсаваня культурнай спадчыны, якая бачыцца нам у вяртанні да чысціні першавытокаў, праўдзівых сведчанняў нашаніўскай першароднасці.

**Наклад кнігі.** Паводле інфармацыі Літаратурнага музея М. Багдановіча, па стане на пачатак 2015 года ў полі бачання знаходзяцца 33 экзэмпляры першага выдання «Вянка» (1913)[122], якія захоўваюцца ў дзяржаўных бібліятэках і прыватных зборах Беларусі і замежных краін:

- Літаратурны музей М. Багдановіча (Мінск) – 6;
- Музей М. Багдановіча (Гродна) – 2;
- Музей гісторыі беларускай літаратуры (Мінск) – 1;
- Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы (Мінск) – 2;
- Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа (Мінск) – 3;
- Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (Мінск) – 1;
- Музей-дача Яна Райніса і Аспазіі (Юрмала, Латвія) – 1;
- Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (Масква) – 1;
- Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі (Мінск) – 1;
- Мінскі абласны краязнаўчы музей (Маладзечна) – 1;
- Нацыянальная бібліятэка Беларусі (Мінск) – 2;
- Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі (Мінск) – 2;
- Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь (Мінск) – 4;
- Львоўская нацыянальная навуковая бібліятэка Украіны імя В. Стэфаніка (Львоў, Украіна) – 2;
- Прыватныя асобы (Беларусь, Літва) – 4.

Кніга выйшла накладам у 2000 асобнікаў[123]. Тыраж, як вядома, закладваецца не адвольна, а з улікам фінансавых магчымасцей выдаўца, аўтара, пакупніцкага попыту, шэрагу іншых абставін. Нашаніўцы не маглі спадзявацца на дзяржаўную падтрымку, разлічвалі найперш на свае сілы і дапамогу выпадковых фундатараў. У клопатах пра матэрыяльны бок справы М. Багдановіч у лісце да рэдакцыі «Нашай Нівы» ў пачатку 1913 г. пісаў наступнае:

---

[122]Богдановіч М. Вянок Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1913. 117 с.

[123]Кніга Беларусі. 1517–1917: зводны каталог. Мінск: Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, 1986. С. 211.

«*Што да выдання кніжкі, дык бачу, што яно спыняецца галоўным чынам праз недахват грошы, але ніяк не прыдумаю, як Вам памагчы. Сам я не зарабляю, у бацькі прасіць, дык ён многа даць не можа, бо жыве ад 20-га да 20-га* (дата выплаты заробку – ***М. Т.***)*, да таго ж і вінен шмат каму. Але вось што: калі я ачуняю, дык я папрабую заняць пад кніжку ў розных сваіх знаёмых грошы. Значыцца, прадасца колькі сот экз. яе, вы мне надашлёце тыя грошы. Другое, Вы мне не шліце аўтарскіх экземпл., я іх куплю і куплю шмат.*

*Калі Вам тыя займы здадуцца прыдатнымі, дык напішыце мне*»[124].

У словах М. Багдановіча мы хацелі б акцэнтаваць увагу на наступных момантах: 1) аўтар не сумняваўся ў пакупніцкім поспеху кнігі (збіраўся пазычаць грошы); 2) выдавецкая справа нашаніўцаў знаходзілася ў тагачасным прававым полі (прадугледжваліся аўтарскія асобнікі). Пра тое, як знайшліся грошы на «Вянок», падрабязна апісаў ва ўспамінах В. Ластоўскі[125].

Як паказвае надзённая выдавецкая практыка, аптымальны наклад дэбютнага паэтычнага зборніка вагаецца ў прамежку 100–300 асобнікаў. Параўноўваць стан кнігавыдавецкай справы з розніцай у 100 гадоў некарэктна па шэрагу прычын, але такое дыяхроннае супастаўленне здольнае выклікаць першасную эмацыйную рэакцыю на карысць нашаніўскага перыяду.

Больш удзячна з навувага пункту гледжання аналізаваць сінхронны зрэз выдавецкай справы, арганізацыі выхаду літаратурнамастацкіх выданняў пачатку XX ст. у розных нацыянальных кантэкстах адной дзяржавы – Расійскай імперыі. Напрыклад, паэтычныя зборнікі Янкі Купалы – вехавыя выданні беларускай літаратурнай класікі – выходзілі наступнымі накладамі: «Жалейка»[126] (1908) – 4300; «Шляхам жыцця»[127] (1913) – 3000.

[124]Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 252.

[125]Ластоўскі В. Выбраныя творы; уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча. Мінск: Бел. Кнігазбор, 1997. С. 190–197.

[126]Лойка А. А. «Жалейка» // Янка Купала: энцыкл. даведнік. Мінск: БелСЭ, 1986. С. 214.

[127]Лойка А. А. «Шляхам жыцця» // Янка Купала: энцыкл. даведнік. Мінск: БелСЭ, 1986. С. 666.

Для параўнання мы выбралі паэтычныя зборнікі рускай паэзіі Срэбранага веку, выдадзеныя па часе блізка з «Вянком» М. Багдановіча і пераважна дэбютныя:

Ганны Ахматавай «Вечер» (1912) – 300; «Чётки» (1914) – 1000;

Уладзіміра Маякоўскага «Я» (1913) – 300;

Сяргея Ясеніна «Радуница» (1916) – 930;

Барыса Пастарнака «Близнец в тучах» (1913) – 200.

Лічбы многім пададуцца нечакана малымі, таму што кнігі выйшлі ў свет у моцна адрозных культурных кантэкстах. З аднаго боку: праца беларускіх нашаніўцаў, энтузіястаў-асветнікаў; адсутнасць нават пачатковай нацыянальнай адукацыі, дзяржаўнай падтрымкі. З другога боку: багемная раскоша літаратараў эпохі культу рускай паэзіі, разгалінаваная парадыгма дзяржаўных і прыватных адукацыйных і асветніцкіх устаноў. Вядома, кожны канкрэтны выпадак з'яўлення кнігі суправаджаўся пэўнымі абставінамі, але калі гаворка ідзе пра цэласны часавы зрэз, то ўжо на першасным фармальным узроўні (лічбавым) падставы для аналітычных падыходаў ёсць.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ) захоўваецца калекцыя дакументаў аддзела рукапісаў музея імя І. Луцкевіча, дзе сярод іншых зберагаюцца дакументы Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні за 1913–1926 гг., некаторыя з якіх маюць прамое дачыненне да кнігі М. Багдановіча, яе выдання і рэалізацыі. Так, у запісах В. Ластоўскага, кіраўніка «Беларускай кнігарні», значацца фінансавыя выдаткі: 26.01.1914 г. наборшчыку за «Вянок» было выплачана 10 рублёў. Гэтая дата ўскосна сведчыць, што фактычна зборнік выйшаў у свет у пачатку 1914 г., а не ў 1913-м. Прыгадаем, што першыя вядомыя дарчыя подпісы паэта, адрасаваныя родным і блізкім у Яраслаўлі, датаваныя 22 сакавіка 1914 г.[128]

Архіўная справа № 33 уключае некалькі рукапісных вопісаў кніг. У дакуменце пад аўтэнтычнай назвай (лацінкай) «*Опіс кнігарні Беларускаго выд. Т-ва у Вільні, здадзеных Апекунчай Камісіі 23/IV.1917 г.*», значацца 1355 асобнікаў непрададзеных «Вянкоў» М. Багдановіча[129].

У пераліку 69 выданняў, якія знаходзіліся на кніжным складзе Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні на вул. Заваль-

---

[128]Гарэлік Н. Аўтографы Максіма Багдановіча // Роднае слова. 2011. № 12. С. 20.

[129]БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 33. Л. 44 адв.

най 9, складзеным 15.06.1921 г. і замацаваным подпісам Сымона Рака-Міхайлоўскага, пад № 9 зафіксавана 190 асобнікаў кнігі Багдановіча[130].

Наступны вопіс «*Што ёсьць у кнігарні і на якую суму*» ад 17.06.1921 г. у ліку 32 найменняў паведамляе пра наяўнасць на паліцах 26 экзэмпляраў «Вянка»[131].

Такім чынам, у чэрвені 1921 г. заставаліся нерэалізаванымі 216 кніг з 2000 выдадзеных у Вільні Марцінам Кухтам, а перад даследчыкам у лічбах паўстае дынаміка камерцыйнай рэалізацыі кнігі (з улікам аўтарскіх экзэмпляраў) за сем з паловай гадоў пасля выхаду ў свет.

**Мастацкае афармленне вокладкі.** Па сведчанні В. Ластоўскага, ідэя вокладкі належыць яму: «Рысунак на акладку даў я са свайго сабрання. Гэты рысунак у 1905 годзе зрабіў адзін з вучняў (не памятаю яго прозвішча) *Штыгліцаўскай* (вылучана намі – ***М. Т.***) школы»[132]. Паколькі імя «неадменага сакратара адраджэння» надоўга было выкрэслена ў БССР з гісторыі нацыянальнай культуры, яго словы і справы таксама былі пад забаронай.

На многіх фактах рэчаіснасці шматнацыянальнай Расійскай імперыі, існуючай да 1917 г., у СССР працяглы час гэтак жа ляжала пячатка непажаданасці, заганнасці ўспаміну. Магчыма, не ў апошнюю чаргу з гэтай прычыны сведчанне В. Ластоўскага прыкра трансфармавалася ў каментарыях да акадэмічнага Поўнага збору твораў М. Багдановіча ў трох тамах: «…мастацкае афармленне вокладкі – малюнак вучня *Шпігаліцкай* (вылучана намі – ***М. Т.***) школы, які нагадваў вянок»[133]. Тым самым чытач і даследчык былі скіраваны аўтарытэтнай крыніцай на падманны шлях пошуку міфічнай правінцыйнай школкі і аўтара малюнка, нявопытнага шкаляра.

Вацлаў Ластоўскі пісаў пра знакамітае ў канцы XIX – пачатку XX ст. дзецішча барона Штыгліца і аднаго з яго невядомых выхаванцаў. Аляксандр Штыгліц (1814–1884) – найбуйнейшы расійскі фінансіст XIX ст., упраўляючы Дзяржаўным банкам Расіі, мецэнат. Адным з найбольш яркіх фактаў яго дабрачыннай дзейнасці

[130]Тамсама. Л. 48.

[131]Тамсама. Л. 50.

[132]Ластоўскі, В. Выбраныя творы. Мінск: Белар. кнігазбор, 1997. С. 196.

[133]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1992. Т. 1. С. 465.

лічыцца заснаванне ў 1876 г. у Пецярбургу Цэнтральнага вучылішча тэхнічнага малявання. Сёння поўная назва гэтай установы – Санкт-Пецярбургская дзяржаўная мастацка-прамысловая акадэмія імя А. Л. Штыгліца.

Вучылішча (у агульным ужытку – школа) карысталася шырокай папулярнасцю сярод творчай моладзі, прадстаўнікоў розных народаў Расійскай імперыі. Паказальны факт: некаторыя латышскія навучэнцы гэтай установы сталі заснавальнікамі нацыянальнай школы жывапісу, скульптуры, сцэнаграфіі, прыкладнога мастацтва. На рахунку іх прызнанай творчай працы рэалізаваныя праекты дзяржаўнага значэння – стварэнне эскізаў герба, сцяга, грашовых знакаў незалежнай Латвіі.

Сёння пытанне аўтарства мастацкага афармлення «Вянка» застаецца адкрытым. Лагічным было б лакалізаваць пошукі ў краінах Прыбалтыкі, найперш Латвіі.

**Зместавая напоўненасць старонак фокладкі.** На 2–4 старонках вокладкі «Вянка» надрукаваны «*Спісак беларускіх кніг*», паводле якога кожны ахвотны мог пазнаёміцца з выданнямі і заказаць іх па пошце. Кошт вагаецца ад 1 капейкі да 1 рубля 50 капеек. Кніга вершаў М. Багдановіча ацэнена ў паўрубля.

Перад намі, па сутнасці, рэкламны прадукт тагачаснай выдавецкай справы, улучаны ў кніжны фармат, – факт беспрэцэдэнтны для нашаніўскага перыяду. Мяркуем, што выдаўцы разлічвалі на камерцыйны поспех «Вянка», а значыць і на дзейсны рэкламны патэнцыял суправаджальнай інфармацыі.

Дзеля нагляднасці і зручнасці ўсе выданні ў «Спіску…» (кожнае пад сваім нумарам і названым коштам) згрупаваны ў шасці раздзелах:

«*I. Да навучаньня.*

*II. Навуковые даступные для ўсіх.*

*III. Повесьці, апаведаньня прозай.*

*IV. Вершы.*

*V. Беларускіе тэатральные творы.*

*VI. Беларускіе музыкальные творы*».

Пакупнікам даваліся практычныя парады: «*...пры заказах заместа ўсяго загалоўку кнігі даволі напісаць нумэр, а калі кніга выдана і такімі і сякімі літэрамі – прыпісаць “рускімі” ці “лацінскімі”*».

Такім чынам старонкі вокладкі кнігі нязмушана знаёмілі чытача з беларускай кніжнай прадукцыяй (кірылічнай, лацінічнай, варыянтнай), колькасць найменняў і разнажанравасць якой аб’ек-

тыўна сведчылі пра развіццё нацыянальнай культуры, гаспадаркі, рэлігійна-асветніцкай справы, мастацкай літаратуры і перакладу.

**Лацінічны двайнік «Вянка»?** Для беларускіх выданняў (кніжных і перыядычных) нашаніўскай пары характэрна практыка выкарыстання розных алфавітаў, звязаная з рэлігійнай традыцыяй – рускай (кірылічнай) і польскай (лацінічнай).

У названым «Спіску…» кнігі, што выйшлі «*польскімі і рускімі літарамі*», пазначаны словам *біс*. Да ліку такіх адносяцца «Беларускі лемантар», «Першае чытанне» Цёткі, «Кароткая гісторыя Беларусі» Власта, «Як ратаваць уздутую жывёлу», «Як бараніцца ад халеры», «Гэдалі» Э. Ажэшкі, «Казка аб вадзе» і інш. Некаторыя выданні ў «Спіску» пазначаны скарочана, а таксама без указання аўтарства.

Выданне, што з’яўляецца аб’ектам нашай увагі, названа ў раздзеле «Вершы» пад № 421 як кірылічнае, безварыянтнае: «*Вянок, зборнік верш. М. Богдановіча*».

Дакумент з фондаў БДАМЛМ («Опіс…»), пра які ішла гаворка вышэй, фіксуе наяўнасць сярод беларускіх выданняў пачатку ХХ ст. лацінічнай кнігі «Wianok» (без указання аўтарства), колькасцю 46 асобнікаў і тым жа коштам, што і зборнік М. Багдановіча (50 капеек)[134]. Інтрыгоўны запіс, як і ўвесь пералік, зроблены В. Ластоўскім, пра што сведчыць яго аўтограф унізе, выкананы лацінкай. Назвы кніг у архіўным дакуменце дыферэнцыраваныя паводле арыгіналаў – «*польскімі і рускімі літарамі*».

Сярод беларускіх выданняў пачатку ХХ ст. намі больш не адшукана такіх, дзе слова *вянок/wianok* было б выкарыстана ў назве як самадастатковае або складовая частка назвы-словазлучэння.

Рызыкнем выказаць гіпатэтычнае меркаванне, якое адштурхоўваецца ад адзінкавага сведчання і пакуль што можа трымацца выключна на логіцы, сімпатычнай фантасмагорыі, а не фактычным грунце. Лацінічнае выданне «Вянка» М. Багдановіча (калі яно было запланавана і ажыццёўлена невялікім накладам) магло мець дыпламатычны патэнцыял, выканаць добрую прэзентатыўную службу пры знаёмстве еўрапейскага чытача (найперш славяніна) з узорамі графічна «канвертуемай» беларускай паэзіі, багатай на тэмы і віртуозныя формы, прыйсціся даспадобы патрабавальнай замежнай публіцы, для якой выключна адраджэнская дамінанта ў творчасці ў той час магла ўспрымацца як знаёмая рэтраспектыва нацыянальнага

[134]БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 33. Л. 45 адв.

пісьменства стагадовай даўнасці. Пры гэтым і рэкламны «*Спісак беларускіх кніг*» на старонках вокладкі быў асабліва дарэчы.

Намі прыведзены толькі некаторыя прыклады прагматычнага погляду на «Вянок» М. Багдановіча. Спадзяемся, што яны змогуць пашырыць бачанне гісторыі беларускай літаратуры, спарадзіць дыскусійнае поле аналітычных падыходаў і далейшых архіўных пошукаў.

## 3.4. ВЕНСКАЕ ВЫДАННЕ БРАШУРЫ «БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭННЕ» (1916): ВЯДОМАЕ І НЕВЯДОМАЕ

Аглядная праца Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне» займае асобнае месца ў спадчыне паэта. Відавочнай задачай аўтара было пазнаёміць як мага больш шырокае кола грамадскасці Расійскай імперыі з гісторыяй Беларусі, яе прыгожым пісьменствам – даўнім і найноўшым. Гэта была адна з першых падобных спроб у гісторыі, ажыццёўленая беларусам і з беларускіх нацыянальных пазіцый. Яна яскрава засведчыла аб'ектыўную і даволі спелую пастаноўку ў тагачасным грамадска-палітычным і культурным жыцці краіны так званага беларускага пытання.

Венскае выданне брашуры ў перакладзе на ўкраінскую мову засведчыла істотнае пашырэнне «геаграфіі» працы песняра чыстай красы. Гэта быў голас пра беларускую справу, пададзены на заходнім фарпосце славянскага свету – у Аўстра-Венгрыі. Час выхаду «Беларускага адраджэння» (1916) прыйшоўся на круты пералом у міжнароднай палітыцы, новую хвалю нацыянальнага адраджэння паняволеных народаў.

Сам тэкст выдання апісаны ўкладальнікамі і аўтарамі каментарыяў да Поўнага збору твораў паэта ў трох тамах. Але была абыдзена важная акалічнасць – не ўзяты пад увагу і не апісаны палітычны дадатак брашуры. А менавіта ў такім камбінаваным выглядзе яна і была прадстаўлена тагачаснаму замежнаму чытачу. Можна меркаваць пра ідэалагічную перасцярогу стваральнікаў акадэмічнага выдання. Адзначым і той факт, што нават у фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча не было ні арыгінала, ні копіі гэтай брашуры. Сёння час вымагае аб'ектыўнага, поўнага і незаангажаванага апісання гэтага выдання.

На арыгінал брашуры М. Багдановіча на ўкраінскай мове аўтару гэтых радкоў пашчасціла натрапіць падчас навуковай камандзіроўкі ў Славакію ў 2006 г. Сёння выданне захоўваецца ў фондах славянскага семінара філасофскага факультэта Універсітэта Я. А. Коменскага ў Браціславе. Мяркуючы па картатэцы і сігнатурах, брашура ў ліку калекцыі падобных серыйных выданняў адной з першых папоўніла кніжны збор заснаванага ў 1919 г. вядучага славацкага ўніверсітэта.

Ёсць магчымасць узнавіць вехавыя моманты гісторыі выдання брашуры.

Як можна меркаваць па ўласна запісах паэта, нарыс (аўтарскае вызначэнне жанру) напісаны ў ліпені 1914 г. Упершыню праца «Беларускае адраджэнне» М. Багдановіча надрукавана ў часопісе «Украинская жизнь» (1915, № 1–2). Асобная брашура, пазначаная як «Отдельный оттиск из журнала “Украинская жизнь”, № 1–2, 1915 г.», выйшла ў 1916 г. (мал. 28). Як адзначаюць аўтары каментарыяў да Поўнага збору твораў паэта ў трох тамах, тэкст выдання не з’яўляецца дакладным адбіткам тэксту, надрукаванага ў часопісе, ёсць разначытанні[135].




Мал. 28. Вокладка рускамоўнай брашуры М. Багдановіча «Беларускае адраджэнне». Адбітак часопіса «Украинская жизни». Масква. 1916 г. Нацыянальная бібліятэка Беларусі (НББ)

[135]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. Т. 2. С. 537.

Венскае выданне брашуры 1916 г. было ажыццёўлена ў перакладзе на ўкраінскую мову (мал. 29). Па меркаванні даследчыкаў, падмацаваным аўтарытэтным абгрунтаваннем украінскіх спецыялістаў, «граматычнай асновай мовы перакладу з’яўляецца галіцкі дыялект»[136], які стаў у свой час непаўторнай асновай моўнага каларыту твораў Івана Франко. Укладальнікі трохтомніка паэта парупіліся пра тое, каб сучасны даследчык і звычайны аматар творчасці песняра чыстай красы змаглі адчуць розніцу моўных сістэм, і змясцілі ў каментарыях да акадэмічнага выдання ўрывак з тэксту брашуры ў яго прачытанні на сучаснай украінскай літаратурнай мове[137].




Мал. 29. Вокладка ўкраінамоўнай брашуры
М. Багдановіча «Беларускае адраджэнне».
Вена. 1916 г. НББ

Імя перакладчыка ў выданні не пазначана. Ёсць меркаванне, што пераклад мог зрабіць сам паэт. На такую думку наводзяць факты сур’ёзнага і мэтанакіраванага вывучэння М. Багдановічам літаратуры, гісторыі, культуры Галіччыны. Шэраг артыкулаў паэта,

[136]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 411.

[137]Тамсама. С. 411–412.

якія датычаць гэтых кірункаў навуковых зацікаўленняў, напісаны з веданнем асноўных прац украінскіх даследчыкаў. М. Багдановіч добра арыентаваўся ў тэме адлюстравання вобразаў Галіччыны ў мастацкай літаратуры. Яскравым прыкладам таму з'яўляецца яго праца «Образы Галиции в художественной литературе», упершыню надрукаваная ў часопісе «Русский экскурсант» (1915, № 1–2).

Брашура «Беларускае адраджэнне» выдадзена ў Вене ў 1916 г. накладам Саюза вызвалення Украіны. З размаітых ацэнак гісторыкаў дзейнасці гэтай арганізацыі вылучым найбольш важныя і панавуковаму староннія факты.

Саюз вызвалення Украіны (СВУ) утвораны ў 1914 г. як адзін з вынікаў актывізацыі і кансалідацыі дзейнасці ўкраінскіх партый і плыняў Галіцыі і Наддняпроўскай Украіны напярэдадні і ў пачатку Першай сусветнай вайны. Сярод дзеячаў, якія ўвайшлі ў прэзідыум і фундавалі гэтую арганізацыю, былі В. Дарашэнка, А. Жук, М. Залізняк і інш. Узначальваў арганізацыю Дзмітрый Данцоў. Сваёй асноўнай задачай СВУ абвясціў аддзяленне Украіны ад Расіі і ўтварэнне самастойнай манархічнай дзяржавы пад пратэктаратам Аўстра-Венгрыі і Германіі.

З пачаткам вайны Саюз вызвалення Украіны арганізаваў актыўную выдавецкую і агітацыйную дзейнасць, якая выходзіла за межы Аўстра-Венгрыі. Так, у 1915 г. дзеячы СВУ пачалі выдаваць у Сафіі газету на ўкраінскай мове «Робітничий прапор» («Працоўны сцяг»). У Балгарыі, Аўстра-Венгрыі, Германіі чыталіся лекцыі, публікаваліся артыкулы. На розных мовах было наладжана выданне папулярных брашур пра гістарычнае мінулае і сучаснае Украіны.

Можна выдзеліць некалькі асноўных тэматычных блокаў гэтых брашур: 1) папулярныя спеўнікі («Украінскія калядкі», «Сем песень. Гасцінец для ўкраінскіх ваяроў», «Наша песня. Спеўнік…»); 2) класіка і найноўшае ўкраінскае прыгожае пісьменства (Т. Шаўчэнка «Кабзар»; В. Віннічэнка «На прыстані і іншае»); 3) гісторыя Украіны (М. Грушэўскі «Як жыў украінскі народ. Кароткая гісторыя Украіны…»; М. Лазінскі «Галіччына ў жыцці Украіны»; І. Крыпякевіч «Украінскае войска. Кароткі гістарычны нарыс»); 4) Украіна на сучасным этапе (большай часткай на замежных мовах: С. Тамашэўскі «Царкоўны бок украінскай справы»; Г. Клейнаў «Украінская праблема» – на нямецкай мове; Х. Бачкоўскі «Украіна і ўкраінскае пытанне» – на чэшскай; В. Хома-Доўскі «Украіна і Украінцы» – на харвацкай); 5) іншыя нацыянальныя рухі (І. Бачкоўскі «Фінляндыя і

фінляндскае пытанне»; І. Шышманаў «Роля Украіны ў балгарскім адраджэнні»).

«Беларускае адраджэнне» М. Багдановіча прымыкае да апошняга выдзеленага намі тэматычнага блока.

У перакладзе з украінскай мовы аўтара гэтых радкоў прывядзём той тэкст дадатку, які «выпаў» з-пад увагі даследчыкаў. Некаторыя нюансы правапісу намі захаваны.

*У дадатку да працы д.[октара] М. Багдановіча пра нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусаў мы падаем тут два дакументы з пазнейшага ваеннага часу, выразна палітычнага зместу. Гэта адозвы палітычнай арганізацыі Беларусаў, Літоўцаў і іншых народаў, што жывуць на Беларусі і Літве, у якіх выстаўляецца патрабаванне ўтварэння з Беларусі і Літвы асобнага, незалежнага літоўскага княства. Гэтыя адозвы даюць паняцце пра палітычныя накірункі Беларусаў у час вайны і, хоць не звязаны непасрэдна з тэмай працы д. Багдановіча, не будуць і лішнімі пры ёй, бо яднаюць мінулае з найсвяжэйшым сучасным, хоць і без асвятлення гэтага апошняга палітычнага факта, які ў аднолькавай ступені адносіцца да Літвы і Беларусі.*

## КАНФЕДЭРАЦЫЯ ВЯЛІКАГА ЛІТОЎСКАГА КНЯСТВА

Часовая Рада Канфедэрацыі Вялікага Літоўскага Княства выдала па-літоўску, па-беларуску, па-польску і па-габрэйску «Універсал Канфедэрацыі Вялікага Літоўскага Княства» наступнага зместу.

Дня 19 снежня 1915 г. члены літоўскіх, беларускіх, польскіх і габрэйскіх арганізацый прыступілі да Канфедэрацыі Вялікага Літоўскага Княства, змагаючыся супольнымі сіламі за тое, каб літоўскія і беларускія землі, якія здаўна належалі да вялікага літоўскага княства, а цяпер занятыя нямецкімі войскамі, стварылі пры новых гістарычных умовах непадзельную цэльнасць на аснове незалежнасці Літвы і Беларусі як аднацэльнай дзяржавы, гарантуючы ўсім нацыям у яе межах усе правы.

З гэтай мэтай канфедэраты звяртаюцца да ўсіх нацый, да ўсіх станаў, да ўсіх арганізацый, якія існуюць, і да ўсіх грамадзян краю і заклікаюць, каб з увагі на важкасць вялікай гістарычнай хвілі забылі ўзаемныя крыўды, сваркі і недаверы, а для дабра агульнага роднага краю далучыліся да Канфедэрацыі Вялікага Літоўскага Княства.

Да «Грамадзян» выдала «Рада Канфедэрацыі Вялікага Літоўскага Княства» такі заклік.

Абвешчаная 19 снежня 1915 г. Часоваю Радаю Канфедэрацыя Вялікага Літоўскага Княства мае на мэце, як гэта зазначана ў яе Універсале, здабыць вызваленне Літвы і Беларусі як дзяржаўнай адзінкі.

Падступаючы да гэтай мэты, Канфедэрацыя абапіраецца на такія асновы.

Перш за ўсё Канфедэрацыя зважае на тое, што ўсе надзеі на Расію не толькі пустыя, але і шкодныя. Больш чым стагоддзе наша супольнае жыццё з Расіяй паказала найлепш, што хоча зрабіць гэта дзяржава з намі. Праз увесь час супольнага з намі жыцця яна планава і сістэматычна змагалася за тое, каб сцерці ўсе пазнакі нашай самастойнасці. І гісторыя апошніх ста дваццаці гадоў уся запоўнена нашай бесперапыннай цяжкай барацьбой за сваё існаванне з правамоцнай расійскай дзяржавай.

На шляху да нашага вызвалення мы сустракаем ворагаў не толькі ў чыноўніцкай расійскай дзяржаўнасці, але і ў большай частцы расійскага грамадзянства, якое праз свае партыі, не лічачы некаторых невялікіх левых груп, заўсёды выступала супраць нашага руху і волі. З гэтай прычыны мы не маем сумневаў адносна расійскага лібералізму, які змагаецца за тое, каб у свае рукі забраць уладу пасля царскіх чыноўнікаў.

Да якой ступені цэнтралістычнага асляплення дайшла гэтая частка расійскага грамадзянства, што мае руль у руках, могуць сведчыць хоць бы галасы расійскай прэсы, якая нават цяпер, калі нас ужо нарэшце вызвалілі з-пад ярма царскай апекі, не забывае зазначаць пры кожнай нагодзе, што быццам бы наш край ёсць і надалей павінен застацца расійскім – «шчыра расійскім навекі».

Сеткі інтрыг, расстаўленых за граніцай і ў нашым краі апошнім часам досыць ахвочаю і спрытнаю рукою наймітаў расійскага царызму, не павінны падмануць нас або прыспаць нашу пільнасць.

Нашыя спадзяванні на спаўненне жадання волі нашага краю звернуты цяпер у другі бок: да саюзу сярэднееўрапейскіх дзяржаў. Мы верым, што пасля перамогі сярэднееўрапейскіх дзяржаў былыя заходнія правінцыі, а перш за ўсё землі польскія, літоўска-беларускія і прыбалтыйскія, мусімуць адпасці ад Расіі і ўтварыць дзяржаўныя адзінкі ў той ці іншай камбінацыі з сярэднееўрапейскімі дзяржавамі, а прытым беручы пад увагу эманцыпацыйныя дамаганні тых земляў, гэта зацвердзіла б самастойнае развіццё іх сацыяльна-культурнага і палітычнага жыцця.

Такая магчымасць карысная не толькі для тых краёў, але і для сярэднееўрапейскіх дзяржаў. Без сумнення, для гэтых апошніх важна не толькі тое, каб Расію аслабіць, але і тое, каб аддзяліцца ад яе мурам, што бараніў бы іх ад напору з усходу. Зразумела само сабой, што больш-менш далёкабачная палітыка, якой можна чакаць ад сярэднееўрапейскіх дзяржаў, будзе вымагаць, каб краі, што будуць ствараць такі мур, не толькі гарнуліся да сярэдняй Еўропы з узвышніх і мінулых прычын, але і былі зацікаўлены ў такой лучнасці з прычын унутраных, пастаянных.

Мы не думаем, каб цяпер ужо была пара прарочыць канкрэтныя формы будучага парадку адносін сярэднееўрапейскіх краін, пакуль зброя ваюючых не сказала свайго апошняга рашучага слова. Усё ж такі здаецца нам, што ўжо пара, каб зацікаўленыя бакі, а паміж імі і наш край, выказалі публічна сваю волю і свае справядлівыя патрабаванні.

У сувязі з гэтым Канфедэрацыя Вялікага Літоўскага Княства дамагаецца:

1) каб літоўска-беларускія землі стварылі пры новым парадку незалежную дзяржаўную адзінку з соймам у Вільні, выбраным на аснове агульных, роўных, беспасярэдніх і тайных выбараў, з забеспячэннем поўных правоў усім нацыям, якія жывуць на названых землях;

2) каб у межах названых земляў былі найперш землі, занятыя цяпер нямецкімі войскамі, гэта Ковенская і Віленская губерні, беларускія і літоўскія часткі Гарадзенскай і Сувалкскай губерній, літоўскія часткі Курляндскай губерні і часткі Мінскай губерні, якія звязаны з віленскім асяродкам, – і каб усе гэтыя землі стварылі адну непадзельную цэльнасць;

3) каб формы ўнутранага ладу і асноўнай канстытуцыі будучай літоўска-беларускай дзяржаўнай адзінкі не былі прадыктаваныя нам зверху, але каб яе ўклаў і зацвердзіў устаноўчы сойм у Вільні, абраны агульным, роўным, беспасярэднім і тайным паданнем галасоў.

Вось гэтыя нашыя асноўныя патрабаванні, якія выказаў наш край у той ці іншай форме праз свядомыя грамадскія арганізацыі, у залежнасці ад умоў часу адпавядаюць усім справядлівым патрабаванням як шырокіх колаў нашага грамадства, так і асобных народаў нашага краю.

Грамадзяне!

Хвіля, якая вырашыць долю нашага краю, нашага супольнага роднага краю, набліжаецца хуткімі крокамі. Будучыня і дабрабыт краю будуць залежаць у значнай ступені ад таго, якое становішча мы зоймем. Будзьма ж разумнымі і дальнабачнымі, не паддаваймася толькі пачуццю, якое часта нас падманвае, але разважайма над нашай доляй, доляй усіх будучых пакаленняў халодным розумам, сягаючым далёка перад сабой.

Яднаймася вакол агульнай мэты, бо толькі ў адзінстве сіла. Кіньма сваркі і спрэчкі, ад якіх церпіць увесь край. Падумайма разам і шчыра над доляй гэтага краю, бо ж усе мы, акрамя жменькі адшчапенцаў, сыны нашай зямлі – нашай Літвы і Беларусі.

Не чакайма на тое толькі, што нехта за нас зробіць, не падманвайма сябе, а возьмем сваю долю ў свае рукі: трывалым будзе толькі тое, што мы сваімі супольнымі сіламі адваюем, здабудзем і ўтрымаем.

Стойма грамадой, моцна, цвёрда і ў згодзе, без розніцы станаў, нацый і веры, пры сцягу нашага вольнага роднага краю – Літвы і Беларусі.

Люты, 1916 г.[138]

## 3.5. «БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭННЕ»: НЕВЯДОМАЯ ГАЗЕТНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ ЧАСОЎ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

У баях Першай сусветнай вайны сышліся дужацца найбуйнейшыя дзяржаўныя ўтварэнні таго часу – імперыі, сярод якіх Расійская і Аўстра-Венгерская. Многія мінарытарныя[*] народы, што ўваходзілі ў склад гэтых дзяржаў і вымушаны былі стаць закладнікамі вялікіх геапалітычных інтарэсаў, разглядалі вайну як свой гістарычны шанец. У розных нацыянальных кантэкстах з пачаткам вайны па-рознаму (зважаючы на міжнародную кан’юнктуру і сітуацыю на франтах) актуалізаваліся славянскае пытанне,

[138]Богданович М. Білоруське відродженнє Відень: друкарня Адольфа Гольцгавзена, 1916. С. 27–30 с.

[*]Вызначэнне *мінарытарныя* мы лічым найбольш паліткарэктным, староннім – насупраць ужывальным у літаратуры паняццям *меньшыя народы*, *негістарычныя* і т. п.

надзея на знешні моцны пратэктарат, грамадска-культурнае жыццё на нацыянальным грунце.

Максім Багдановіч на хвалі агульнарасійскай цікавасці да лёсу славянскіх народаў Аўстра-Венгрыі, дзяржавы-праціўніка ў беспрэцэдэнтна маштабнай вайне, папісаў некалькі аглядных прац, выдадзеных ў 1914 г. у кніжнай серыі «Библиотека войны» (Масква, выдавецтва К. Някрасава): «Червонная Русь: Австрийские украинцы», «Угорская Русь», «Братья-чехи». Першымі гадамі вайны, пазначанымі патрыятычным уздымам сярод грамадскасці Расійскай імперыі, датуюцца і асобныя публікацыі газетна-часопіснага фармату: «Львов» («Голос»; 24.08.1914, № 194); «Образы Галиции в художественной литературе» («Русский экскурсант»; 1915, № 1–2).

Варта адзначыць адзін эпізод з жыццяпісу сям'і Багдановічаў, які доўгі час зомоўчваўся. На хвалі грамадскага ўздыму малодшы брат паэта, Леў Багдановіч (1893–1918), студэнт фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта, нягледзячы на адтэрміноўку па мабілізацыі з-за слабога здароўя, у пачатку 1915 г. кінуў вучобу, паступіў у Аляксандраўскае вайсковае вучылішча, пасля заканчэння якога ваяваў на Паўднёва-Заходнім фронце.

Аўтарскія мэты і задачы на этапе спадзяванняў і надзей на справядлівае пасляваеннае міжнароднае ўпарадкаванне, вырашэнне славянскага пытання даволі празрыста акрэслены ва ўступнай частцы брашуры М. Багдановіча «Братья-чехи»:

«*В мировой войне, развернувшейся на наших глазах, победа явственно начинает склоняться на сторону России и союзных с нею государств. Быть может, недалек уже тот час, когда Германии и Австрии будет нанесен решительный удар. Какая участь ждет их тогда, сказать, конечно, очень трудно. Одно несомненно: славянские земли, входящие в состав названных немецких государств, должны быть во всяком случае выделены из их границ. Это является заветной надеждой целого ряда славянских народов. Это настоятельно необходимо для самой России. Этого же требует от нас и чувство родственной близости ко всему остальному славянству и, наконец, чувство простой справедливости. Многие тысячи людей сейчас умирают на полях битв с мыслью о близости исполнения этих надежд. Оставшиеся дома жадно ищут сведений про зарубежный славянский мир, стараются*

*получить ясное понятие о тех братских народах, с которыми нам предстоит идти плечом к плечу*»[139].

Славянскі свет на той бок фронту меў свае надзеі і спадзяванні на зброю аўстра-венгерскіх і германскіх войскаў, свае аргументы, адрозныя ад агульнарасійскіх. У гэты працэс, у яго масмедыйным фокусе, аказалася ўлучанай рускамоўная аглядная праца **«Беларускае адраджэнне»** М. Багдановіча, пра якую нам ужо даводзілася пісаць на старонках «Роднага слова»[140]. Найлепш яна вядомая і апісаная ў літаратуры ў двух фарматах: часопісным («Украинская жизнь», 1915, № 1–2) і брашурным («Отдельный оттиск из журнала “Украинская жизнь”, № 1–2, 1915 г.»).

У 1991 г. было ажыццёўлена рэпрынтнае выданне названай брашуры з экзэмпляра, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі. У пасляслоўі да выдання Ю. Лабынцаў адзначыў: «Культуралагічнае эсэ Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне» належыць да твораў, якія аказалі заўважны ўплыў на станаўленне беларускай нацыянальнай ідэі, зацвярджэнне яе ў кантэксце агульнаеўрапейскай гісторыі»; «Слушнасць выказаных думак, іх праграмнасць, пафас аповеду дазваляюць лічыць гэтае эсэ адным з маніфестаў беларускага нацыянальнага адраджэння».

Паводле жанравых вызначэнняў У. Конана, «Беларускае адраджэнне» спалучае рысы літаратурна-крытычнага нарыса з гісторыка-этнаграфічным даследаваннем. Яго адметная роля прасочваецца ў тым, што «гэта быў першы нарыс гісторыі роднай літаратуры і крытычны агляд тагачасных яе здабыткаў ва ўсіх родах і жанрах»[141].

У згаданай роднасловаўскай публікацыі 2009 г. мы ўпершыню ў практыцы багдановічазнаўства прадставілі комплекснае і кантэкстуальнае апісанне венскага выдання асобнага адбітка «Беларускага адраджэння» (1916) у перакладзе на ўкраінскую мову, здзейсненага накладам Саюза вызвалення Украіны (СВУ). Гэта дало магчымасць вывесці адну з вехавых прыжыццёвых публікацый кла-

[139]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. Т. 3. С. 66.

[140]Трус М. Венскае выданне брашуры Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне» (1916): вядомае і невядомае // Роднае слова. 2009. № 1. С. 28–31.

[141]Максім Багдановіч: энцыклапедыя. Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. С. 103.

сіка беларускай літаратуры з ценю гістарычнага забыцця і ідэалагічных табу савецкага часу, што потым было аўтарытэтна падмацавана ў фармаце даведкавага артыкула энцыклапедыі «Максім Багдановіч»[142] (2011). Цяпер адзін экзэмпляр рарытэтэта выдання працы М. Багдановіча знаходзіцца ў вольным доступе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На яго вокладцы пячаткі былых уладальнікаў – кнігазбораў украінскай эміграцыі ў Францыі.

Як паказала далейшая архіўная праца, рысу пад фактаграфічным этапам даследавання «Беларускага адраджэння» падводзіць рана. Сёння перад намі новая знаходка. Выданню брашуры **«Білоруське відродженнє»**[143] (Вена, 1916) папярэднічала публікацыя ў некалькіх нумарах газеты «*Вістник Союза визволення України*»[*], якая выходзіла ў Вене ў 1914–1918 гг. (мал. 30).



Preis 40 Heller.

ВІСТНИК

(Nachrichtenblatt des Bundes zur Befreiung der Ukraina)

Союза визволення України

Ціна сього числа 40 сот., 15 коп.

III рік. Ч. 62 — Відень, 29 жовтня 1916. — Ч. 122.

Московська господарка в галицькій Україні.

Мал. 30. Тытульная старонка газеты
«Вістник Союза визволення України»
з першай часткай «Беларускага адраджэння»
М. Багдановіча. 29.10.1916 г.

Спачатку двухтыднёвік, з 1915 г. штотыднёвік «Вістник…» паслядоўна прапагандаваў ідэю дзяржаўнай самастойнасці Украіны,

[142] Тамсама. С. 107.

[143] Богданович М. Білоруське відродженнє Відень: друкарня Адольфа Гольцгавзена, 1916. 30 с.

[*] Назву выдання, а таксама цытаты мы прыводзім паводле тагачаснага аўтэнтычнага ўкраінскага правапісу.

звязваў здзяйсненне гэтай ідэі з перамогай у вайне Аўстра-Венгрыі і Германіі; інфармаваў пра падзеі ва Украіне пасля рэвалюцыі 1917 г., жыццё на акупаваных землях і працы СВУ ў лагерах палонных вайскоўцаў[144]. У асабліва цікавым для нас 1916 г. «Вістник…» пазіцыянаваў сябе як «*одинокий український тижневник всеукраїнського, самостійницького й безпартійного напряму*». У 1918 г. гэтае перыядычнае выданне выходзіла пад назвай «*Вістник Політики, Літератури й Життя*».

Украінскі штотыднёвік найперш адлюстроўваў падзеі на франтах і ў нацыянальныіі міжнародным грамадска-палітычным жыцці, але публікаваліся тут і літаратурна-мастацкія матэрыялы. Многія нумары выходзілі з белымі плямамі – характэрнымі пазнакамі працы ваеннай цэнзуры таго часу.

На старонках «Вістника…» было надрукавана шмат допісаў, звязаных з Беларуссю, асабліва калі фронт баявых дзеянняў прасоўваўся на ўсход. З нагоды заняцця нямецкімі войскамі Вільні (як пазначана ва ўкраінскім выданні – «духоўнай сталіцы Белай Русі») тут быў змешчаны вялікі артыкул на перадавіцы пад назвай «Братняе прывітанне беларусам» («Братній привіт Білорусинам»;1915, № 35–36, 3 кастр.).

Як можна меркаваць паводле публікацый, украінскі «Вістник…» меў цесныя стасункі з газетай «Гоман», быў у курсе надзённых клопатаў беларускага выдання. Допіс «Кірылічнае выданне “Гомана”» паведамляў:

*«Віленскі “Homan”, які выходзіць два разы на тыдзень, інфармуе, што пасля доўгіх захадаў рэдакцыі ўдалося такі атрымаць дазвол друкаваць газету таксама кірыліцай, так што неўзабаве пачне выходзіць той самы тэкст двума рознымі азбукамі. Хоць “Homan” пачаў друкавацца лацінкай толькі з практычных меркаванняў, знайшліся людзі, якія пачалі гэта паясняць на свой лад. А орган прафесараў кракаўскага ўніверсітэта “Czas” пабачыў у лацінцы “Homan-а” знак, што беларусы маюць ахвоту прыняць польскую культуру, – хоць лацінкай пішуць не толькі палякі, але і немцы, французы і італьянцы і англічане і іншыя народы. І новае кірылічнае выданне “Homan-а” гэта не толькі задавальненне патрэбы кірылічнай беларускай газеты сярод беларусаў, але і ясная водпаведзь на адрас “Czas-у”*» (1916, 8 кастр.).

[144]Енциклопедія українознавства / Наукове Товариство ім. Шевченка. Paris. New York: Молоде Життя, 1955. Т. 1. С. 288.

Адразу некалькі артыкулаў «Вістника…» за 1916 г. (24 снежня) было прысвечана Вільні, пры тым з відавочнымі сімпатыямі на карысць беларускасці, а не польскасці горада: «Беларусы і Польшча», «Спрэчка за Вільню», «Вільня не ў Польшчы!», «Уніяцкая служба Божая ў Вільні». Прывядзем характэрны тэкст аднаго невялікага допісу:

«*Вільня не ў Польшчы! Пад такім загалоўкам дае “Гоман” лекцыю якомусь украінцу, якую павінен кожны ўкраінец памятаць у дачыненні да сваёй зямлі: “Мы атрымалі гэтымі днямі ад аднаго ўкраінца пісьмо, у якім ён просіць выслаць яму ўсе нумары беларускай газеты, што выйшлі, а на адрасе піша “Wilna – Polen”. Будзем спадзявацца, што атрымаўшы “Гоман”, наш карэспандэнт зразумее, што Вільня – не ў Польшчы, а ў беларуска-літоўскай зямлі!*»

Беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета «Гоман» («Homan») выходзіла ў 1916–1918 гг. у Вільні пад нямецкім кантролем. У 1916 г. яе рэдагаваў В. Ластоўскі, рэдактар багдановічаўскага паэтычнага зборніка «Вянок» (Вільня, 1913), чалавек зацікаўлены ў пашырэнні вядомасці свайго літаратурнага «пратэжэ». Мяркуем, што да публікацыі, пра якую пойдзе гаворка далей, ён мог мець некаторае рэкамендацыйна-пасрэдніцкае дачыненне.

Артыкул «Білоруське відродженнє» М. Багдановіча друкаваўся на старонках «Вістника…» у 1916 г. у трох частках: 29 кастрычніка, 5 і 12 лістапада. У падрадковых заўвагах паведамлялася, што публікацыя зроблена паводле часопіса «Украинская жизнь». Пазнакі адносна аўтарства перакладу на ўкраінскую мову адсутнічаюць.

Ужо ў снежаньскім нумары «Вістника…» у раздзеле «Бібліяграфія (Выданні Саюза вызвалення Украіны)» паведамлялася пры выхад асобнага адбітка «Беларускага адраджэння». Пры гэтым месцам выдання пазначана не Вена, а Львоў (?!). Побач з выходнымі звесткамі размешчаны невялікі тэкст:

«*Да працы М. Багдановіча пра “Беларускае адраджэнне” дададзены ў адбітку два дакументы з ваеннага часу і палітычнага зместу, якія ўказваюць на палітычныя змаганні беларусаў утварыць разам з Літвой Вялікае Літоўскае Княства. Выдаючы працу М. Багдановіча асобным адбіткам, Саюз пайшоў насустрач пажаданням нашых чытачоў*» (1916, 10 снежня).

Неўзабаве на рэкламнай старонцы «Вістника…» пад загалоўкам «Купляйце танныя і агульнадаступныя выданні Саюза

вызвалення Украіны» праца класіка беларускай літаратуры заняла паводле алфавітнага парадку стабільнае другое месца ў пераліку чатырох дзясяткаў брашур СВУ, сярод якіх не ўласна ўкраінскай тэматыцы было прысвечана, акрамя «Беларускага адраджэння» М. Багдановіча, яшчэ толькі адно выданне – «Фінляндыя і фінляндскае пытанне» І. Бачкоўскага.

Такім чынам, гуманітарыстыка і багдановічазнаўства сёння папаўняюцца яшчэ адной невядомай прыжыццёвай публікацыяй вельмі важнай працы «Беларускае адраджэнне» класіка нацыянальнага пісьменства. Выяўлены газетны фармат наглядна падкрэслівае яе адмысловую ролю ў плане прэзентатыўнасці беларускай культуры за мяжой ва ўмовах выключнай па маштабнасці падзеі ў гісторыі – Першай сусветнай вайны.

Адкрытымі застаюцца шэраг пытанняў:

1. Ці быў Максім Багдановіч дасведчаны адносна публікацыі яго артыкула і брашуры ў сталіцы Аўстра-Венгрыі? Хто быў ініцыятарам венскіх публікацый або выконваў пасрэдніцкія функцыі?

2. Ці меў аўтар нейкія наступствы для сябе пасля публікацыі як грамадзянін Расійскай імперыі, краіны-суперніцы Аўстра-Венгрыі ў Першай сусветнай вайне?

3. Хто аўтар перакладу «Беларускага адраджэння» на ўкраінскую мову: сам М. Багдановіч ці хто іншы? (Газетны фармат публікацыі не зняў гэтае пытанне, а, наадварот, дадаў інтрыгоўнасці).

4. Якім быў лёс «Беларускага адраджэння» М. Багдановіча ва ўкраінскай (славянскай, еўрапейскай) інфармацыйна-культурнай прасторы пасля двух венскіх фарматаў (газетнага і брашурнага) публікацый на розных узроўнях улучанасці ў кантэкст: папулярызацыя, захаванне, рэцэпцыя і інш.?

5. «Беларускае адраджэнне» М. Багдановіча, яго месца ў творчасці пісьменніка і гісторыі беларуска-ўкраінскіх (славянскіх, еўрапейскіх) культурных узаемадачыненняў.

## 3.6. «АПОКРЫФ» У НЕВЯДОМЫМ ПЕРАКЛАДЗЕ НА ЎКРАІНСКУЮ МОВУ 1924 Г.

У творчай спадчыне М. Багдановіча «Апокрыф» займае асобнае месца, вызначанае, паводле апалагетычнай характарыстыкі

А. Луцкевіча, у сутнасным «*як быццам запраўдным ЭВАНГЕЛЬЛІ МАСТАЦТВА*»[145].

Твор упершыню апублікаваны ў «Каляднай пісанцы»[146] у год выдання «Вянка» (1913), поруч з якім ён засведчыў мастакоўскую сталасць аўтара і яго канчатковае прызнанне беларускай элітай. Пра адмысловую місію «Апокрыфа» сведчыць яго рускамоўны варыянт – «*Притча о васильках*» – эстэтычная апрабацыя ў іншым культурным кантэксце («Северная газета», 02.01.1914 г.).

Першая, віленская публікацыя «Апокрыфа» М. Багдановіча была паўторана ў іншых выданнях 1920-х гг.: «Рунь» (1920, № 5–6); «Выпісы з беларускае літаратуры» (1923).

Тэкставая першапублікацыйная, прыжыццёвая кананічнасць твора была парушана В. Ластоўскім у 1923 г. на старонках ковенскага часопіса «Крывіч»[147]. Перавагу і абгрунтаванасць свайго варыянту публікацыі В. Ластоўскі тлумачыў у падрадковых рэдактарскіх заўвагах (прыводзім з захаваннем правапісу арыгінала): «*Перадрук зроблены з "Коляднай пісанкі 1913 г. Вільня, друкарня Кухты", на якім, рукой нябошчыка Максіма Багдановіча, пароблены папраўкі, а на пачатку напісана: "Дарагі Вацлаве, калі здарыцца перадруковываць, то друкуйце з гэтымі папраўкамі. Максім". Папраўляны экзэмпляр перасланы быў мне ў Вільню і, дагэтуль, паміма ўсіх бур перажытых маімі архівамі, неяк здолеў ацалець паміж паперамі. В. ЛАСТОЎСКІ*»[148].

Ковенскі варыянт публікацыі «Апокрыфа» мае шэраг прынцыповых тэкставых разыходжанняў у параўнанні з віленскім – гэта тэма, вартая асобнага даследавання. Так, сярод нічым не абгрунтаваных «тэхнічных» разыходжанняў можна назваць адсутнасць у ковенскім «Апокрыфе» верша 25 пры захаванасці агульнай канчатковай нумарацыі – 30. У асноўным тэксце Поўнага збору твораў верш 25 узноўлены па першай, віленскай публікацыі: «*Так казаў сабе гаспадар у сэрцы сваім! І не падняў ён рукі на васількі*».

---

[145]Луцкевіч А. Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча // Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. Мінск: Кнігазбор, 2006. С. 211.

[146]Багдановіч М. Апокрыф // Калядная пісанка. Вільня: Друкарня М. Кухты, 1913. С. 27–30.

[147]Багдановіч М. Апокрыф // Крывіч. 1923. № 1. С. 5–6.

[148]Тамсама. С. 6.

У Поўным зборы твораў М. Багдановіча ў трох тамах менавіта ён узяты за асноўны тэкст[149], а першая публікацыя ў «Каляднай пісанцы» перанесена ў каментарыі[150]. На нашу думку, такі падыход спрэчны, але асвятленне гэтай літаратуразнаўчай праблемы не з'яўляецца задачай нашага артыкула. Мы спынімся больш на «рээстравым» падыходзе і прапануем чытачу невядомы пераклад на ўкраінскую мову ковенскага варыянта «Апокрыфа» – з прыцягненнем кантэкстуальнага, сінхроннага дыскурсу ўзаемадачыненняў нацыянальных культурных рухаў 1920-х гг.

Беларускі часопіс **«Крывіч»** – «*месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця*» – выдаваўся ў Коўне (Каўнас, Літва) з 1923 да 1927 г. Рэдактары: Вацлаў Ластоўскі і Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Выданне было адным з рэпрэзентантаў беларускай эміграцыі 1920-х гг. Паводле праграмнай заяўкі рэдакцыі, прагалошанай у першым нумары, часопіс прысвечаны «*служэньню беларускаму мастацтву і культуры, рэдакцыя мае на мэце ня толькі абслужыць ў роднай мове духовыя вымаганьня сярэдняга беларускага інтэлігента, але і прылажыць ўсіх высілкаў да адшуканьня шляхоў Беларусі ў сфэры духовасьці*»[151].

У «Крывіча» меліся трывалыя сувязі з украінскімі эмігранцкімі коламі, асабліва ў першыя гады існавання. На старонках асобных нумароў за 1923–1924 гг. паведамлялася пра тое, што часопіс прадаецца ў чэшскіх Падэбрадах, украінскай кнігарні пры Гаспадарчай Акадэміі[152]. «Крывіч» рэкламаваў і атрымліваў украінскія часопісы «Нова Україна» (Прага), «Літопис політики, письменства і мистецтва» (Берлін), а таксама манаграфічная выданні грамадска-палітычнага характару Міхайла Лазінскага (Жэнева), Сцяпана Рудніцкага і Юліяна Бачынскага (Берлін).

На старонках «Крывіча» быў надрукаваны змястоўны артыкул «*Навуковае Таварыства імені Шэвчэнкі у Львове*» *д-ра Зэнона Кузелі*[153], сталага аўтара берлінскага «Летапісу» (аўтар перакладу

[149]Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т.; АН Беларусі, Ін-т літаратуры імя Янкі Купалы. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. Т. 2. С. 50–52.

[150]Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т.; АН Беларусі, Ін-т літаратуры імя Янкі Купалы. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. Т. 2. С. 486–488.

[151]Ад Рэдакцыі // Крывіч. 1923. № 1. С. 1.

[152]Тамсама. С. 64.

[153]Кузеля З. Навуковае Таварыства імені Шэвчэнкі у Львове // Крывіч. 1924. № 1 (7). С. 32–37.

з украінскай мовы не названы). Зянон Кузеля (укр. Зенон Кузеля; 1882–1952) – этнограф, мовазнаўца, бібліёграф, журналіст, грамадскі дзеяч; у 1921–1923 гг. у Берліне рэдактар штодзённіка «Українське Слово» і заснавальнік аднайменнага выдавецтва, у якім друкаваўся «Летапіс»[154]. Мяркуем, артыкул мог быць напісаны па заказе рэдакцыі беларускага часопіса.

Міжнародныя кантакты «Крывіча» не абмяжоўваліся выключна ўкраінскай эміграцыяй. Паводле інфарматыўна-рэкламных старонак выдання, часопіс спарадычна падтрымліваў стасункі з шэрагам еўрапейскіх краін (Чэхаславакія, Эстонія, Германія, Каралеўства сербаў харватаў і славенцаў – Югаславія), а таксама ЗША, супрацоўнічаў з харвацкім часопісам «Narodna Starina» (Заграб), рускім «Воля России» (Прага). Асобна варта весці гаворку пра кантакты часопіса «Крывіч» з БССР і беларускімі арганізацыямі ў Польшчы, Чэхаславакіі, краінах Прыбалтыкі. Вектары міжнародных зацікаўленняў выдання і іх геаграфія істотна прымножацца пры разглядзе перакладных твораў мастацкай літаратуры, апублікаваных на старонках часопіса.

Украінскі штотыднёвік **«Літопис політики, письменства і мистецтва»**[155] (далей – «Летапіс») (мал. 31) выходзіў у 1923–1924 гг. у Берліне пад рэдакцыяй Сцяпана Тамашыўскага (укр. Степан Томашівський; 1875–1930), гісторыка, публіцыста і палітыка[156]. Паводле ўласнай дэкларацыі, што раз-пораз друкавалася на рэкламнай старонцы выдання, часопіс «не служыць ніякай палітычнай партыі, ніякай дактрыне, замест гэтага намагаецца паглыбляць і пашыраць украінскую нацыянальную думку і культуру шляхам асноўнага самапазнання, сур’ёзнай крытыкі і сістэмнага азнаямлення чытачоў з галоўнымі праявамі палітычнага і культурнага жыцця заходняга свету».

«Летапіс» публікаваў матэрыялы па ўкраінскай гісторыі, даваў характарыстыку сучаснага нацыянальнага і агульнаеўрапей-

---

[154]Енциклопедія українознавства / Наукове Товариство ім. Шевченка; головний редактор проф. д-р Володимир Кубійович. Paris. New York: Молоде Життя, 1962. Т. 4. С. 1225.

[155]Енциклопедія українознавства / Наукове Товариство ім. Шевченка; головний редактор проф. д-р Володимир Кубійович. Paris. New York: Молоде Життя, 1962. Т. 4. С. 1371.

[156]Енциклопедія українознавства / Наукове Товариство ім. Шевченка; головний редактор проф. д-р Володимир Кубійович. Paris. New York: Молоде Життя, 1980. Т. 9. С. 3236–3237.

скага грамадска-культурнага жыцця. На старонках выдання асвятляліся і некаторыя факты ўкраінска-беларускіх культурных узаемадачыненняў. Так, у аглядавым раздзеле «Літаратурна-навуковая хроніка» (1924, № 13) была змешчана невялікая нататка (без указання аўтарства) пад назвай «Шаўчэнкаўскае свята сярод беларусаў» наступнага зместу: «*Захадамі Беларускага Драматычнага Таварыства адбыўся 9 сакавіка 1924 г. у Вільні святочны вечар, прысвечаны памяці Тараса Шаўчэнкі. У праграму ўваходзілі між іншым рэферат Гр. Мяцюка на тэму* “*Т. Шаўчэнка і яго творчасць*”*, драматычная карціна* “*Атрута*” *Максіма Гарэцкага і канцэртная частка. Вечар адбыўся ва ўласнай зале Драматычнага Таварыства*»[157].



1924 LITOPYS No. 15/16

UKRAINISCHE ANNALEN FÜR POLITIK, LITERATUR UND KUNST
ANNALES UKRAINIENNES DE POLITIQUE, DE LITTERATURE ET D'ART
THE UKRAINIAN ANNALS OF POLITICS, LITERATURE AND ART

ЛІТОПИС
ПОЛІТИКИ, ПИСЬМЕНСТВА І МИСТЕЦТВА

ТИЖНЕВИЙ ОГЛЯД ПІД РЕДАКЦІЄЮ
С. ТОМАШІВСЬКОГО

НАКЛАДОМ ВИДАВНИЦТВА „УКРАЇНСЬКЕ СЛОВО" В БЕРЛІНІ

Книжка II — Субота, 19-го квітня 1924 — Зшиток 15/16

Містить:

*ПОЛІТИЧНА ХРОНІКА* . . . 225
*АНКЕТА В УНІВЕРСИТЕТСЬКІЙ СПРАВІ — В. Доманицького і В. Кучабського* . . . 227
*ПОЛІТИЧНЕ І ГОСПОДАРСЬКЕ ЖИТТЯ ЕСТОНСЬКОЇ РЕСПУБЛИКИ — Йоганна Тоомеса* . . . 230
*МАГАТМА ГАНДІ В ОСВІТЛЕННЮ РОМЕНА РОЛЛАНА* . . . 231
*ДРУКАРСЬКА ТРІЙЦЯ (III) — Проф. І. Огієнка (Кінець)* 232
*РОКИ 1650 І 1651 НА УКРАЇНІ ПО „ФРАНЦУЗЬКІЙ ГАЗЕТІ" — І. Борщака* . . . 234
*МИСТЕЦЬКА ХРОНІКА — Др. Вол. Залозецького* . . . 237
*З ПРИВОДУ ОЛІМПІЙСЬКИХ ЗМАГАНЬ У ПАРИЖУ — Петра Кожевникова* . . . 239
*СОН І ЯВА — Ал. Б-ського* . . . 241
*АПОКРИФ — Максіма Багдановіча* . . . 242
*ЧОРТ НА БАШТІ — Едґара Аллена По* . . . 243
*МІНІЯТУРА — Богдана Л.* . . . 246
*MISCELLANEA* . . . 236, 238, 247—248
Образковий додаток

„Ukrainske Slowo" Buch- u. Zeitungsverlag G. m. b. H.
Berlin-Schöneberg Hauptstraße 11 Tel. Stephan 1445-46

Мал. 31. Вокладка ўкраінскага штотыднёвіка «Літопис політики, письменства і мистецтва». 1924 г. № 15/16

У традыцыйным для перыядычных выданняў раздзеле «Агляд часопісаў» знаходзім інфармацыю пра беларускі часопіс, падпісаную крыптанімам *З. К.* (мяркуем, гэта *Зенон Кузеля*):

---

[157]Шевченківське свято серед білорусинів // Літопис політики, письменства і мистецтва. 1924. № 13. С. 204.

*«КРЫВІЧ, 1923, №. 1–6. Захаванню беларускай нацыянальнай культуры прысвечаны цікава рэдагаваны месячнік “Крывіч”, што ад чэрвеня м. г. выходзіць у Коўне пад рэдакцыяй Ластоўскага і Дуж-Душэўскага. Ён мае на мэце не толькі “задаволіць душэўныя патрэбы беларускага інтэлігента”, але таксама прыкласці ўсе да адшукання шляхоў да самавызначэння Беларусі ў сферы духоўнасці. Акрамя літаратурнага аддзелу і багатага інфарматыўнага матэрыялу прыносіць цэлую серыю новага, крытычнага матэрыялу з абсягу беларускай мовы, гісторыі, культуры і г. д. Некаторыя артыкулы маюць вартасць і для ўкраіністаў, напр. артыкулы Юры Верашчакі пра назвы “Гуды” – “Крывічы” і “Русь” (№ 1), Власта – Матэрыялы да беларускага слоўніка (4), Матэрыялы да беларускага зельніка (4) – Філалагічныя нататкі (3, 4), Волаты – Анты (6), асабліва для філологаў і гісторыкаў культуры» (1924, № 7).*

Акрамя «Крывіча» ў «Аглядзе…» прадстаўлены некалькі нацыянальных выданняў часопіснага фармату: украінскія «Стара Україна», «Нова культура», «Рогатинець», «Поступ», а таксама харвацкі палітычна-навуковы месячнік «Nova Hrvatska».

«Летапіс» публікаваў таксама мастацкія пераклады, пры гэтым ідавочна, што асноўную ўвагу надаваў сусветнай і нацыянальнай класіцы, прызнаным майстрам слова. «Апокрыф» М. Багдановіча[158] надрукаваны ў суседстве з апавяданнем «Чорт на вежы» (укр. «Чорт на башті») амерыканскага пісьменніка Эдгара Алана По.

Пад тэкстам стаіць імя перастваральніка «Апокрыфа» на ўкраінскую мову – *К. Купчанко*. Паводле «Энцыклапедыі Украіназнаўства», адной з фундаментальных крыніц, якая дапамагла нам пры атрыбутацыі асобы перакладчыка, фармальным прыкметам ідэнтыфікацыі (імя, прозвішча, часавы прамежак) найбольш адпавядае Карней Купчанка (укр. Корній Купчанко), вайсковец, журналіст[159]. Паколькі звесткі пра гэту асобу вельмі скупыя, датычныя найперш яго вайсковай біяграфіі, стопрацэнтнай пэўнасці ў тым, што ён – *Корній Купчанко* – аўтар першага перакладу «Апокрыфа» М. Багдановіча на ўкраінскую мову няма, але гэтая версія, пакуль што адзіная, вартая далейшай распрацоўкі.

[158]Багдановіч М. Апокриф // Літопис політики, письменства і мистецтва. 1924. № 15/16. С. 242–243.

[159]Енциклопедія українознавства / Наукове Товариство ім. Шевченка; головний редактор проф. д-р Володимир Кубійович. Paris. New York: Молоде Життя, 1962. Т. 4. С. 1237.

Украінская публікацыя «Апокрыфа» мела комплексны характар. Акрамя ўласна твора падаваліся біяграфічныя звесткі пра М. Багдановіча, якія паўтаралі фактычныя памылкі беларускіх крыніц першай паловы 1920-х гг., але на той час адыгрывалі важную ролю знаёмства ўкраінскага чытача з яркай постаццю найноўшай беларускай літаратуры:

«*Беларускі (крывіцкі) паэт, займае першае месца ў беларускай лірыцы. Нарадзіўся ў Гродне; маючы 5 гадоў, пераехаў у Яраслаўль у Маскоўшчыне, куды перавялі бацьку. Тут скончыў ліцэй. Выпадкова патрапіла таленавітаму юнаку ў рукі "Наша Ніва" (Вільня, 1906–1915). Родны дух, якім павявала з гэтага беларускага часопіса, паўплываў так моцна на чуллівага маладога чалавека, што ён пачаў пісаць на роднай мове. Памёр падчас вайны на сухоты, пражыўшы 23 гады. Дасюль з'явіўся адзін зборнік вершаў Багдановіча "Вянок". Бацька, пераехаўшы ў Мінск, перадаў яшчэ не друкаваныя рукапісы "Інстытуту беларускай культуры", які збіраецца іх выдаць*»[160].

У падрадковых заўвагах даваліся тлумачэнні да верша 3 і адсутнага 25 – пры нязменнай агульнай колькасці 30 замест лагічных у гэтым выпадку 29. Першая тэкставая заўвага датычылася тлумачэння сутнасці паняцця «Забраны Край»: «*Так называе беларускі народ свой край, мабыць таму, што Беларусь (Крывія) была пад чужынскім захопам, была забранай"*[161]. Другая тлумачыла адсутнасць аднаго верша: «*25. выкрэслена мабыць цэнзурай з першага выдання ("Калядная пісанка", Вільня 1913), з якога перадрукаваны гэты апокрыф у 1-м нумары "Крывіч"-а з папраўкамі, зробленымі аўтарам на адным асобніку*»[162].

Публікацыя «Апокрыфа» ў сукупнасці з суправаджальнай інфармацыяй носіць падкрэслена дабразычлівы, карэктны характар: без пярэчанняў прымаецца «крывіцкая» нацыянальная канцэпцыя В. Ластоўскага, рэдактара часопіса і першапублікатара новага варыянта твора М. Багдановіча; да тэксту дапасоўваюцца рэдактарскія заўвагі – факт беспрэцэдэнтны ў дачыненні да перакладных мастацкіх твораў, што публікаваліся на старонках «Летапісу».

Выяўлены намі пераклад «Апокрыфа» М. Багдановіча мае шэраг ключавых значэнняў для гісторыі вывучэння міжнацыя-

---

[160]Багдановіч М. Апокриф // Літопис політики, письменства і мистецтва. 1924. № 15/16. С. 242.

[161]Тамсама. С. 242.

[162]Тамсама. С. 243.

нальных культурных узаемадачыненняў 1920-х гг., некаторыя з якіх маюць важную пазнаку першасці:

- паводле існуючага рэестра перакладаў твораў М. Багдановіча на замежныя мовы[163], гэта першы, дасюль невядомы прыклад мастацкага перастварэння «Апокрыфа» і празаічнага твора наогул;
- перад намі першы факт рэцэпцыі беларускага твора ў выданнях хвалі ўкраінскай эміграцыі, сфарміраванай у Еўропе ў пачатку 1920-х гг.;
- выяўлены пераклад істотна пашырае геаграфію нацыянальных культурных узаемадачыненняў, у якіх беларускі бок выступае ў ролі паўнапраўнага суб'екта;
- пералік перакладчыкаў твораў М.Багдановіча на ўкраінскую мову папаўняецца новым іменем – *К. Купчанко*.

З мэтай актывізаваць тэксталагічны аналіз перастварэння «Апокрыфа» М. Багдановіча на ўкраінскую мову, змешчанага ў часопісе «Літопис політики, письменства і мистецтва», мы публікуем перакладны тэкст з усімі каментарыямі, захаваўшы ўсе нюансы аўтэнтычнага правапісу.

***Апокриф***

*Написав Максім Багдановіч*[*]

1. Від Максима Книжника початок………................................
...............................................................................................

2. І коли минуло сім тисяч літ від створення світа, Христос зійшов зимою на землю й ходив по ній, щоб сповнилося те, про що свідчили пророки.

3. І ходив він по всьому Забраному Краю[**] і по Заніманщині, і по Задвінщині і Березинській землі.

---

[163]Максім Багдановіч: энцыклапедыя Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. С. 415–416.

[*]Білоруський (кривицький) поет, занимає перше місце в білоруській ліриці. Уродився в Ґродні; маючи 5 років, переїхав в Ярославль у Московщині, куди перенесено батька. Тут скінчив ліцей. Припадково попала талановитому юнакові в руки “Наша Ніва” (Вильно 1906–1915). Рідний дух, яким повівало з цього білоруського журналу, вплинув так сильно на чутливого молодця, що почав писати на рідній мові. Умер підчас війни на сухоти, проживши 23 роки. Доси появився один збірник поезій Багдановіча “Вінок”. Батько, котрий переїхав у Мінськ, передав непечатані ще рукописи “Інститутови білоруської культури”, який має їх видати.

4. І разом із ним святий Петро й святий Юрій. Але ніхто з людей не пізнавав його.

5. Бо йшли вони босими ногами з непокритими головами й були одіті в білий кужаль*** і суконні свитки, а не того сподівалися люде.

6. Тому ніхто не звернув уваги на них, коли в часі жнив проходили між працюючими людьми.

7. Тільки музика, котрому тепер не було чого робити, підійшов до них і сказав: Соромно мені, бо сьогодня день праці й все клопотається коло землі; один я нікчемний.

8. І сказав йому Христос: Не сумуй у серцю своїм. Чи-ж не твої пісні співають вони тепер, в часі жнив! Тому не хили вниз голови твоєї, й не ховай обличча від очей людських.

9. Бо нема правди в того, який каже, що ти – зайвий на землі. Зправди кажу я тобі: Надійде йому година гіркости-туги – і чим він розважить тугу свою як не піснею твоєю? Як у день смутку, так само в день радости він призове тебе.

10. І научаючи його сказав: З піснею кладуть людину в колиску, і зі співами впускають її в могилу.

11. Щоденними клопотами повниться життя людське. Але коли зворухнеться душа чоловіка, – лишень пісня здоліє улагіднити її. Шануйте-ж пісні свої.

12. Бо співають навіть жаби в багні, а чи-ж не ліпшими будете від них?

13. Так поучав Христос музику. Але Петро, почувши слова його, сказав: Учителю, у цій країні є люде, котрі не мають що їсти. Чи-ж не стиснеться від сорому серце того чоловіка, котрий, шукаючи твердюшки хліба, прийде з піснею до них?

14. І відповідаючи йому, сказав Христос: Так, життя тих людей тяжке, бідне й пригнічене. Чому-ж ти хочеш ще позбавити їх краси! Мало дано їм – невже-ж треба, щоб було ще менше?

15. І, відвернувши обличчя своє до музики, спитав: Коли співають у вас пісень?

16. Музика відповів: Співають на Різдво, в Мясниці, на Великдень, на Тройцю, на Івана Купала, в Петрівку, на зажинки й дожинки.****

---

**Так називає білоруський нарід свій край, мабуть тому, що Білорусь (Кривічія) була під чужою займанщиною, була забраною.

***Тонка, льняна тканина.

****Початок і кінець жнив.

17. Співають на уродинах і хрестинах, співають дітей колихаючи, і сами діти співають граючись; співають на ігрищах і на весіллях, і на похоронах, і в розмові, і при праці, і на війну йдучи, і при всякій иншій нагоді. Весь круглий рік співають.

18. І мовив Христос Петрові: Ти, жаліючи голодних людей, осудив пісню, але самі голодуючі не осудили її. Живе ще душа в народі цім.

19. Тоді знова сказав Петро: Але нехай у піснях буде корм для душі, нехай будуть думки добрі й поучаючі, щоб крім краси був у них пожиток людині.

20. І відповів йому Христос: Немає краси без пожитку, бо сама краса є пожитком для душі.

21. І поучаючи їх мовив: Огляньтесь навколо! Чи-ж не нива колихається коло нас?

22. Тяжко коло неї працював господар і, ось, бачить: поміж збіжжя виросли васильки.

23. І сказав він у серцю своїм: хліб відбирають у мене ті сині квітки; бо повні й важкі колоси могли-б вирости тут замість васильків.

24. Але, ще з малоліття, краса їх припала мені до душі. А тому я не вирву їх з корінням і не винищу, як всяке благе зілля. Нехай ростуть і веселять, як у дитинстві, сердце моє.

26.[*****]Так казав собі господар у серцю своїм! І не підніс він руки на васильки. Я-ж кажу вам: добре бути колосом; але щасливий той, кому дано бути васильком. Бо нащо колосся, коли нема васильків!

27. І кажучи так, він почув пісню женців і промовив: Слухайте, що кажуть слова цеї пісні. Її складали люде, котрі знають що вартний хліб.

28. Вони-ж почули, що слова тої пісні кажуть; нема лучшого квіточка над василька. І дальше вже мовчки йшли вони.

29. І босі ноги Христа залишали, на теплім, мягкім пилі дороги, сліди.

30. Але горе вам, люде, бо давно вже затоптали ви їх. Амінь.

*Переклав К. Купчанко*

Літопис політики, письменства і мистецтва. 1924. № 15/16. С. 242–243.

Падрыхтоўка тэксту Міколы Труса.

[*****]25. Зчеркнене мабуть цензурою з першого видання (“Колядна пісанка”, Вильно 1913), з якого перепечатано цей апокриф в 1-ім числі “Крывіч”-а з поправками, зробленими автором на однім примірнику.

# РАЗДЗЕЛ 4. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ФАРМАТ БАЧАННЯ

## 4.1. ДАСЛЕДЧЫЦКІ ПЛЁН НІНЫ ВАТАЦЫ

Пра яе пісалі даволі многа, высока ацэньвалі плён шматгадовай працы, але найчасцей хваласпеўныя допісы былі з нагоды юбілейных дат, атрымання высокіх дзяржаўных узнагарод[164].

Ніна Барысаўна Ватацы (мал. 32) пражыла доўгае, насычанае жыццё: сведка дзвюх рэвалюцый, дзвюх сусветных войнаў, умацавання і наступстваў сталінскай сістэмы, будаўніцтва сацыялізму, развалу СССР, нараджэння незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ужо толькі пералічэнне ключавых падзей XX ст., што непасрэдным чынам прайшліся па лёсе аднаго чалавека, уражвае. Пра такіх людзей, як Н. Ватацы, кажуць: чалавек-эпоха, чалавек-легенда.



Мал. 32. Ніна Ватацы. 1960-я гг. НББ

[164]Савік Л. С. Ватацы Ніна // Беларускія пісьменнікі: біябібліяграфічны слоўнік: у 6 т. Мінск: БелЭн, 1992. Т. 1. С. 539; Бяляўская В. Збіральніца // Роднае слова. 1993. № 5. С. 72–73; Зыгмантовіч С. В. Бібліяграфічная дзейнасць Н. Б. Ватацы // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мінск, 1997. Вып. 2; Скалабан В. Засталіся Памяць, Кнігі і Музей // Бібліятэчны свет. 1997. № 4. С. 29; Белы А. В. Агляд фонду асабістага паходжання Ватацы Н. Б. // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мінск, 2007. Вып. 9. С. 172–175; Кніга А. Нястомны летапісец класікі: Ніна Ватацы // Роднае слова. 2008. № 5. С. 13–14; Трус М. Шляхамі Максіма Багдановіча: Даследчыцкі плён Ніны Ватацы // Роднае слова. 2011. № 7. С. 13–16.

Даследаванню невядомых старонак жыцця і творчасці М. Багдановіча Н. Ватацы прысвяціла амаль 40 гадоў самаадданай працы. Дарогі і сцежкі пошукаў вялі ў Расію, Літву, Украіну. Даследчыцкія шляхі паступова звужалі магчымыя каардынаты знаходжання ўнікальных дакументаў, мройныя знаходкі спакваля набывалі рэальныя абрысы.

Шляхі… Разложыстае, ёмістае беларускай слова. Яго Н. Ватацы на пэўным этапе пачала культываваць, выносіць у назвы кніг: «Шлях паэта», «Шляхі». Так, дарога заканчваецца, але шлях бясконцы. На зямлі мы вымяраем яго сваімі крокамі: і літаральна, і ў метафарычным гучанні, як пройдзенае, пражытае, пераадоленае. На нябёсах вока раз-пораз шукае Млечны Шлях, шлях у касмічную бясконцасць, мару, надзею…

Ніна Барысаўна Ватацы (14.05.1908–03.08.1997) – бібліёграф, літаратуразнаўца. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1963). Член СП СССР з 1979 г. Узнагароджана медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Нарадзілася ў горадзе Ведэні Ліфляндскай губерні (цяпер горад Цэсіс, Латвія) у сям'і служачых. У 1922 г. скончыла школу-сямігодку. З 1926 г. жыла ў Мінску. Выпускніца літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1930). Вучоба ў БДУ стала часам вызначэння жыццёвых і даследчыцкіх прыярытэтаў, улюбёнасці ў кнігу. У той час ва ўніверсітэце выкладалі літаратуру вядомыя педагогі і вучоныя: І. Замоцін, М. Піятуховіч, А. Вазнясенскі, Я. Барычэўскі, будучыя класікі беларускага мастацкага слова П. Глебка, К. Крапіва, П. Трус і інш.

Па накіраванні Наркамасветы БССР з 1930 г. пачала працаваць у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі), дзе прайшла шлях ад памочніка бібліятэкара да галоўнага бібліёграфа (1930–1936; 1945–1990).

Рэпрэсіі 1930-х гг. не абмінулі сям'ю Н. Ватацы: у 1936 г. арыштаваны яе муж, Аляксандр Іванавіч Сеўчанка, даследчык літаратуры, які пісаў дысертацыю па творчасці З. Бядулі; пазней загінуў на фронце. У часы вымушанага выгнання Н. Ватацы працавала ў краявой бібліятэцы Архангельска, мастаком у Кіраве, у педвучылішчы г. Ульянаўска. У час Вялікай Айчыннай вайны загадвала бібліятэкай эвакашпіталя № 1701 у г. Мелекесе Ульянаўскай вобласці.

Пасля вайны вярнулася ў Мінск. З 1945 г. удзельнічала ў аднаўленні фондаў бібліятэкі, даведачна-бібліяграфічнага апарату.

Дзялілася вопытам, рыхтавала бібліятэчныя кадры. З 1946 да 1956 г., у пасляваенны цяжкі час, выкладала па сумяшчальніцтве на бібліятэчным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

У друку артыкулы Н. Ватацы з 1932 г. Ад таго часу практычна кожны год у перыёдыцы, спецыялізаваных выданнях з’яўляліся бібліяграфічныя матэрыялы, артыкулы па пытаннях гісторыі кнігі, кнігавыдавецкай справы, літаратуразнаўчыя публікацыі.

Падрыхтавала шэраг бібліяграфічных даведнікаў па творчасці беларускіх пісьменнікаў; першы з іх – «Якуб Колас» – выйшаў у 1952 г., наступныя прысвечаны Я. Купалу, П. Броўку, П. Глебку, П. Трусу, К. Чорнаму, А. Куляшову, М. Танку, І. Шамякіну, іншым – усяго 22 выданні. У кожным выпадку іх фармат меў свае адметнасці: бібліяграфічны даведнік, кароткі бібліяграфічны даведнік, бібліяграфічная памятка чытача, памятка чытачу і г. д. Н. Ватацы заўсёды арыентавалася на самага рознага адрасата: аматара творчасці пісьменніка, настаўніка, прафесійнага даследчыка літаратуры.

Стварыла першы дапаможнік «Белорусская литература» (1957) з серыі рэкамендацыйных паказальнікаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна і дзяржаўных бібліятэк саюзных рэспублік па прапагандзе нацыянальных літаратур. Складзеныя Н. Ватацы паказальнікі сталі класікай беларускай бібліяграфіі: «Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі» (1917–1960), «Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі» (1961–1968), «Беларуская савецкая драматургія» (1945–1965), «Беларуская драматургія» (1966–1986), «Беларускае літаратуразнаўства і крытыка» (1945–1963) і інш.

З 1957 г. Ніна Ватацы пачала скрупулёзна займацца даследаваннем жыцця і творчасці М. Багдановіча. Праз год быў падрыхтаваны даведнік «Максім Багдановіч, 1907–1957: публікацыі твораў і літаратура аб ім». Важкая праца аб’ёмам у 450 друкаваных лістоў не публікавалася, але сабраны матэрыял стаў асновай пазнейшых выданняў. Найбольш інтэнсіўнымі і плённымі былі 1960–1980-я гг., але і ў паважным веку Н. Ватацы заставалася нязменным і найбольш аўтарытэтным кансультантам багдановічазнаўцаў. Нездарма сярод калег, у друку яе часта называлі «біёграфам Максіма Багдановіча» і «галоўным бібліёграфам галоўнай бібліятэкі краіны».

Даследчыца вяла перапіску, сустракалася са сваякамі, знаёмымі М. Багдановіча, іх нашчадкамі: Паўлам Адамавічам Багдановічам, Андрэем Трыфанавічам Галаванам, Ганнай Кіпрыянаўнай

Валасовіч-Гразновай, Наталляй Глебаўнай Кунцэвіч, Анастасіяй Глебаўнай Кунцэвіч, Таццянай Глебаўнай Сібіраковай, Мікалаем Іванавічам Лілеевым, Зоськай Верас і інш. У выніку збіраўся каштоўны архіў, які складалі прыжыццёвыя выданні М. Багдановіча з аўтографамі паэта, унікальны рукапісны зборнік «Зеленя», сямейныя фотаздымкі, рэліквіі, ліставанне, шмат іншых надзвычай цікавых і каштоўных дакументаў.

Практычна кожная публікацыя Н. Ватацы станавілася вехавай падзеяй, новым словам у багдановічазнаўстве, адкрыццём. Плён пошукавай, даследчыцкай дзейнасці знайшоў адлюстраванне ў шэрагу артыкулаў: «Невядомыя творы Максіма Багдановіча» [уступны артыкул у суаўтарстве з Н. Лапідусам] (Полымя, 1957, № 5, с. 155–162), «Юнацкія гады Максіма Багдановіча» [у суаўтарстве з Н. Лапідусам] (Маладосць, 1957, № 5, с. 19–20), «Максім Багдановіч аб чэшскім народзе» [у суаўтарстве з Н. Лапідусам] (ЛіМ, 1957, 15 чэрв.), «Невядомы тэкст Максіма Багдановіча» (ЛіМ, 1958, 7 чэрв.), «У газетах, часопісах, кнігах» (ЛіМ, 1961, 8 снеж.), «З сямейнага альбома Максіма Багдановіча» (Беларусь, 1965, № 8, с. 27), «Там, дзе жыў Максім Багдановіч» (ЛіМ, 1967, 20 студз.), «Брусаў і Максім Багдановіч» (ЛіМ, 1969, 4 крас.), «Лёгкіх шляхоў не шукаў» (Маладосць, 1971, № 12, с. 114–116), «Слово о старшем брате» [перапіска з Паўлам Багдановічам], «Яна – выдумка маёй галавы» (Маладосць, 1973, № 8, с. 146–152), «Максім Багдановіч – Валерыю Брусаву» (Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1975, № 1, с. 41–43), «Зноў пра Вераніку» (Маладосць, 1979, № 1, с. 166–173), «Максім Багдановіч у дарэвалюцыйнай літаратурнай крытыцы (бібліяграфічны агляд)», «Дарэвалюцыйныя пераклады вершаў М. Багдановіча на польскую мову» (Из истории белорусской библиографии и книжных фондов: сб. статей. Мінск, 1979), «А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю…» (Маладосць, 1981, № 6, с. 171–178), «Вянок» (Беларусь, 1981, № 11, с. 16–17), «Яны ведалі паэта» (Полымя, 1981, № 12, с. 174–188), «Паэт з легенды» (Настаўніцкая газета, 1981, 8 снеж.), «У вянок Максіму» (Голас Радзімы, 1981, 17 снеж.), «Насустрач юбілею» (ЛіМ, 1985, 11 кастр.), «Яшчэ раз пра эпісталярый А. Я. Багдановіча» (Полымя, 1986, № 5, с. 181–185), «Загадка Багдановіча» (Звязда, 1987, 24 мая), «Бацька паэта» (Голас Радзімы, 1989, 2 сак.), «Зберагала памяць пра Максіма…» (ЛіМ, 1992, 24 ліп.) і інш.

Публікацыі Н. Ватацы неаднародныя па стылі: займальныя, навукова-папулярныя, арыентаваныя на шырокага чытача, амата-

ра творчасці М. Багдановіча, і важкія, фактаграфічныя, з грунтоўнай аналітычнай базай. Даследчыца выпраўляла памылкі, дапушчаныя раней вучонымі пры апісанні спадчыны паэта, прапаноўвала ўласныя меркаванні, заўсёды грунтоўныя, падмацаваныя слушнымі аргументамі.

Своеасаблівым падагульненнем сабранага за дзесяцігоддзі матэрыялу сталі выданні «Максім Багдановіч: да 70-годдзя з дня нараджэння: бібліяграфічны даведнік» (1961), «Максім Багдановіч: жыццё і творчасць: матэрыялы для выстаўкі ў школе» (сумесна з А. Лойкам; 1968), «Максім Багдановіч: Паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры» (1977), «Песня Максіма» (1981), «Шляхі: гісторыка-літаратурныя артыкулы» (1986).

Паказальнік «Максім Багдановіч» спецыялісты (С. Зыгмантовіч, В. Саітава) залічваюць да вяршынь навукова-бібліяграфічнай культуры. Тут зарэгістраваны творы, аўтографы, крытычная літаратура пра паэта за перыяд 1908–1976 гг. Да гэтага ніводнае акадэмічнае выданне не мела зводнага вопісу аўтографаў М. Багдановіча з розных архіваў і фондасховішчаў.

Настольная кніга багдановічазнаўцаў – зборнік «Шлях паэта. Успаміны і біяграфічныя матэрыялы пра Максіма Багдановіча» (1975). Ён складаецца з трох раздзелаў: «Успаміны», «Пісьмы», «Біяграфічныя матэрыялы». Ва «Успаміны» ўвайшлі «Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича» А. Багдановіча, згадкі пра паэта родных і блізкіх: Г. Валасовіч-Грazновай, З. Верас, З. Бядулі, Ц. Годнева, В. Гарбацэвіча, Л. Зайца, Х. Імшэнніка, Д. Дзябольскага і інш. Раздзел «Пісьмы» складаюць эпісталярная спадчына М. Багдановіча, ліставанне А. Багдановіча пра спадчыну М. Багдановіча, перапіска брата паэта П. Багдановіча з Н. Ватацы. Аўтары «Біяграфічных матэрыялаў»: С. Александровіч, М. Гарэцкі, М. Стральцоў, А. Бачыла. Н. Ватацы прадставіла ў гэтым раздзеле тры свае артыкулы: «У Горкім», «Яна – выдумка маёй галавы…», «Пошукі творчай спадчыны Максіма Багдановіча».

Ніна Барысаўна была душой, аўтарытэтным дарадцам Літаратурнага музея М. Багдановіча. Адразу ў год яго заснавання (1981) яна перадала ў фонды новай культурна-асветнай установы шмат найкаштоўнейшых матэрыялаў, якія сталі асновай збораў музея, а пазней – дамінантнымі кропкамі яго экспазіцыі.

Матэрыялы пра жыццё і даследчыцкую дзейнасць самой Н. Ватацы захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, На-

цыянальным архіве Беларусі, Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Літаратурным музеі М. Багдановіча.

Гэтай публікацыяй мы мелі на мэце актуалізаваць напісанае пра Ніну Ватацы, аддаць павагу яе шматгадовай будзённай працы, якая дала вялікі плён, а для сучасных вучоных – грунтоўны падмурак даследчыцкай дзейнасці. Зробленае даследчыцай уражвае. Перад намі, што называецца, багатая фактура матэрыялу, дакументы, перапіска, успаміны – усё тое, без чаго не магло адбыцца багдановічазнаўства як адна з галін беларускай гуманітарнай навукі. Вобраз песняра чыстай красы заўсёды знаходзіцца ў аўры загадкавасці, мастацкага хваласпеву, вызначае прастору для ўласнай творчасці. У гэтым плане дзейнасць Ніны Ватацы някідкая, яе аргументы – факты, дакументальныя пацверджанні. І ў гэтым яе моц і важкасць. Пасля Ніны Барысаўны Ватацы, як пісаў В. Скалабан, «засталіся Памяць, Кнігі і Музей».

## 4.2. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ «МАКСІМ БАГДАНОВІЧ»: ПЕРАЕМНАСЦЬ ТРАДЫЦЫЙ, НАВАТАРСКІЯ ПАДЫХОДЫ

Традыцыйнае цэласнае ўспрыманне асобы і творчасці М. Багдановіча для шырокай чытацкай аўдыторыі, як правіла, трымаецца сілавога поля вядомых метафарычных вызначэнняў: «пясняр чыстай красы» (А. Луцкевіч), «госць з высокага неба» (А. Смоліч), «страцім-лебедзь беларускай літаратуры» (А. Лойка), «беларускі Ікар» (Р. Лубкіўскі), «загадка Максіма Багдановіча» (М. Стральцоў) і інш. Энцыклапедыя як універсальны збор матэрыялаў пра жыццё і творчасць пісьменніка, акружэнне, эпоху, шматбаковае асэнсаванне пакінутага ў мастацтве слова, іншамоўнае перастварэнне заклікана трымацца яго вялікасці факта, выверанай і дакладнай інфармацыі, аб’ектыўнасці.

Выданне персанальнай літаратурнай энцыклапедыі «Максім Багдановіч» – вехавая падзея ў гісторыі нацыянальнай культуры, але натуральны поступ гісторыі, развіццё гуманітарнай навукі падказвае: не трэба спяшацца падводзіць рысу. Змяняюцца часы, уносяцца карэктывы ў сістэму каштоўнасных, вартасных падыхо-

даў да асэнсавання. Творчасць М. Багдановіча тым і прыцягальная на стагоддзі, што валодае жывой пульсацыяй слова, непаўторнымі эмоцыямі. Прадстаўленай энцыклапедыяй падсумоўваецца найперш фактаграфічная база жыцця і творчасці паэта, прадэманстравана ступень навуковай спеласці і цэласнасці яе ўспрымання сёння.

**Еўрапейскі вопыт.** Персанальныя літаратурныя энцыклапедыі – гэта выданні энцыклапедычнага жанру, цалкам прысвечаныя аднаму пісьменніку, у якіх дэталёва пададзены біяграфія, творчасць, гісторыя іх даследавання і асэнсавання. Як паказвае міжнародны вопыт, такія выданні могуць быць плёнам калектыўнай або індывідуальнай даследчыцкай працы. Персанальныя энцыклапедыі, як правіла, акрэсліваюць пэўны этап вывучэння творчай спадчыны аднаго з класікаў нацыянальнай літаратуры[165].

На Захадзе персанальныя энцыклапедыі ўпершыню ўбачылі свет у канцы XIX ст., найбольшае іх распаўсюджанне прыйшлося на XX ст. Вынікам працы літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў сталі энцыклапедыі, энцыклапедычныя даведнікі, прысвечаныя Р. Бёрнсу, Ч. Дзікенсу, І. В. Гётэ, У. Блэйку, Ф. Кафку, У. Тэкерэю, Ф. Шылеру, У. Шэкспіру і іншым пісьменнікам.

Праца над першай персанальнай літаратурнай энцыклапедыяй на тэрыторыі былога СССР – Пушкінскай – была распачата ў 1930-я гг., і да гэтага часу мы маем магчымасць азнаёміцца толькі з этапнымі вынікамі гэтага маштабнага праекта[166].

За савецкім часам першым літаратурным выданнем энцыклапедычнага характару стаў Шаўчэнкаўскі слоўнік[167] у двух тамах (1976–1977), падрыхтаваны Інстытутам літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі АН УССР.

Адной з найлепшых у гісторыі еўрапейскай энцыклапедыстыкі лічыцца Лермантаўская энцыклапедыя[168] (1981), праца над якой вялася ў Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскім доме)

---

[165] Малофеева Н. Н. Отечественные персональные литературные энциклопедии // Научная книга. 2000. № 3.

[166] Мейлах Б. С. О задачах и принципах создания Пушкинской энциклопедии // Русская литература. 1974. № 2; Пушкин и мировая литература. Материалы к Пушкинской энциклопедии. СПб., 2004.

[167] Шевченківський словник: у 2 т. / Інститут літератури імені Т. Г. Шевченка АН Української Радянської Єнціклопедії; редакційна колегія: Є. П. Кирилюк (відповідальний редактор) [та інш.]. Київ, 1976–1977.

[168] Лермонтовская энциклопедия. М.: Сов. энцикл., 1981. 784 с.

з 1958 г.[169] Выданне абагульніла напрацоўкі лермантазнаўства, стала ўзорам для даведачнай літаратуры падобнага кшталту ў савецкай і постсавецкай інфармацыйна-культурнай прасторы. Тэматычныя блокі энцыклапедыі складаюць своеасаблівы зместавы канон персанальных літаратурных энцыклапедый: агульныя звесткі пра жыццё і творчасць, радавод, літаратурнае і побытавае акружэнне, паслядоўнікі, даследчыкі, асэнсаванне сюжэтаў і вобразаў у розных відах мастацтва, асаблівасці паэтыкі, сувязі М. Лермантава з замежнымі літаратурамі, лермантаўскія мясціны і інш. Кожнаму твору адведзены асобны артыкул.

Значнымі падзеямі нацыянальнага і агульнасаюзнага ўзроўняў стала выданне беларускіх даведнікаў: персанальнага літаратурнага «Янка Купала»[170] (1986) і персанальнага культуралагічнага, мастацтвазнаўчага «Францыск Скарына і яго час»[171] (1988). Адзначым парадаксальнасць афіцыйнага жанравага вызначэння гэтых фундаментальных прац: «энцыклапедычны даведнік» на вокладцы і «энцыклапедыя» ў анатацыі ці ва ўступным артыкуле.

Так, у анатацыі да выдання, прысвечанага класіку беларускай літаратуры, чытаем: «“Янка Купала” – першая на Беларусі персанальная энцыклапедыя. Асвятляе асноўныя моманты жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі. У ёй змешчана 3095 артыкулаў. Гэта артыкулы, прысвечаныя творам паэта, праблемныя артыкулы пра творчасць Я. Купалы, лірыку, драматургію, публіцыстыку, паасобныя жанры, вобразы, пра сувязі паэта з рускай літаратурай, літаратурамі народаў СССР і замежных краін, пра ўвасабленне купалаўскай тэмы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры, кіно. Кніга багата ілюстравана».

Ва ўступным артыкуле да энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» адзначаецца, што гэта «…другая на Беларусі персанальная энцыклапедыя (пасля Купалаўскай). <…> Даведнік фактычна з’яўляецца падрахункам развіцця скарыназнаўства ў краіне. У кнізе 728 артыкулаў. Змешчаны артыкулы пра ўсе

[169]Вацуро В. Э. «Лермонтовская энциклопедия». К истории создания // Русская литература. 1978. № 4. С. 157–160; Лотман Ю. М. «Лермонтовская энциклопедия» и проблема построения персональных литературных энциклопедий // Лотмановский сборник. 1995. Т. 1. С. 89–95.

[170]Янка Купала: энцыклапедычны даведнік. Мінск: БелСЭ, 1986. 727 с.

[171]Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. Мінск: БелСЭ, 1988. 608 с.

